У гэтым нумары «Нашай веры» мы складаем словы ўдзячнасці і пашаны ў вянок памяці нашаму незабыўнаму пастыру кардыналу Казіміру Свёнтку.

16 гадоў таму па благаслаўленні Яго Эмінэнцыі пачалося жыццё квартальніка «Наша вера», і ўвесь гэты час Эмінэнцыя быў яго ўважлівым чытачом, зычлівым дарадцам і заўсёды чаканым аўтарам. Ад нашага іерарха сыходзіла «ззянне айцоўства», пра якое пісаў благаслаўлёны Ян Павел ІІ і якое давала нам ні з чым непараўнальнае адчуванне айцоўства Бога, адчуванне абароненасці і спакою, якія так дапамагалі ў жыцці і ў працы... І найперш за гэта мы бязмежна ўдзячныя нашаму кардыналу.

У балючую часіну асірацеласці і смутку няхай будуць нам суцяшэннем і надзеяй словы Слугі Божага біскупа Зыгмунта Лазінскага, якія не раз паўтараў і сам Эмінэнцыя: «Я быў вам усім сябрам шчырым і адданым, а тым больш буду ім у жыцці вечным».

*Рэд.*



У нумары 3/2011

# НАША ВЕРА



# ROGITO* КАРДЫНАЛА КАЗІМІРА СВЁНТКА

21 ліпеня 2011 года а 9-й гадзіне раніцы, у пінскім шпіталі па вул. Першамайскай, 191, у дом Нябеснага Айца адышоў з гэтага свету кардынал Казімір Свёнтэк, арцыбіскуп Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі на пенсіі і Апостальскі Адміністратар Пінскай дыяцэзіі.

Казімір Свёнтэк нарадзіўся 21 кастрычніка 1914 г. у Валзе (Эстонія), у сям'і Яна і Веранікі з Крамплеўскіх.

У 1919–1922 гг. разам з маці і братам знаходзіўся ў дэпартацыі ў Сібіры.

Вярнуўшыся з дэпартацыі, хадзіў у пачатковую і сярэднюю школу ў Баранавічах (1922–1933).

У 1933 годзе паступіў у Вышэйшую духоўную семінарыю ў Пінску і пасля заканчэння вучобы, 8 красавіка 1939 г., прыняў святарскае пасвячэнне з рук біскупа Казіміра Букрабы. Душпастырскую паслугу распачаў як вікарый парафіі ў Пружанах (1939–1944).

Яго пераследавала савецкая ўлада: арышты, праслухоўванне, следствы, вязніцы, камера смяротнікаў, пазбаўленне свабоды і ссылка на дзесяць гадоў у савецкія лагеры ў Марыінску, Варкуце, Інце.

16 чэрвеня 1954 г., пасля вызвалення з ссылкі, ён становіцца пробашчам катэдральнай парафіі ў Пінску і выконвае гэты абавязак да 1991 года. 11 лютага 1988 г. становіцца капеланам Яго Святасці; 11 красавіка 1989 г. — генеральным вікарыем Пінскай дыяцэзіі; 13 красавіка 1991 г. — арцыбіскупам Мітрапалітам Мінска-Магілёўскім і Апостальскім Адміністратарам Пінскай дыяцэзіі.

21 мая 1991 г. прыняў біскупскае пасвячэнне ў пінскай катэдры. 26 лістапада 1994 г. атрымаў годнасць кардынала і тытулярны касцёл (св. Джэ-

рарда Маелла ў Рыме). Уваходзіў у склад кардыналаў-прэзбітэраў.

Быў першым кардыналам у гісторыі Касцёла на Беларусі і першым старшынёю Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў лацінскага абраду ў Беларусі (12.02.1999 г.).

4.07.1995 г. прэзідэнт Рэспублікі Польшча ўзнагародзіў кардынала Казіміра Камандорскім крыжам з зоркаю і ордэнам адраджэння Польшчы.

У 1996–2000 гг. правёў Сінод Мінска-Магілёўскай, Пінскай і Віцебскай дыяцэзій.

Укаранаваў цудадзейныя абразы Маці Божай: у Брэсце (30.06.1996), Лагішыне (10.05.1997) і Будславе (2.07.1998).

У 2000 г. садзейнічаў заснаванню каталіцкага выдавецтва «Pro Christo» ў Мінску.

12 студзеня 2000 г. Экуменічнай капітулай ордэну ў Тамашове Мазавецкім (Польшча) быў адзначаны ордэнам *Ecce Homo* «за чалавечнасць перад абліччам смерці, за любоў і прабачэнне, за нястомнае служэнне на карысць бліжніх». У тым жа годзе атрымаў дазвол на трансляцыю св. Імшы ў кожную нядзелю і ўрачыстасці Каталіцкага Касцёла на першым радыёканале Рэспублікі Беларусь.

12 чэрвеня 2001 г. пасля капітальнага рамонту будынка былой Пінскай духоўнай семінарыі адкрыў Міждыяцэзіяльную вышэйшую духоўную семінарыю імя св. Тамаша Аквінскага для падрыхтоўкі ў святарства кандыдатаў, якія паходзяць з Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, Пінскай і Віцебскай дыяцэзій. Быў яе першым рэктарам.

27 верасня 2004 г. папа Ян Павел ІІ уручыў кардыналу Казіміру Свёнтку ўзнагароду «Fidei testis» («Сведка веры»), прызначаную яму Інстытутам імя Паўла VI у італьянскім горадзе Брэшы.

23.11.2006 г. быў узнагароджаны прэзідэнтам Рэспублікі Францыя найвышэйшаю адзнакаю Камандора ордэна Ганаровага легіёну.

14 чэрвеня 2006 папа Бэнэдыкт XVI адклікаў кардынала з пасады арцыбіскупа Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага з захаваннем абавязкаў Апостальскага Адміністратара *ad nutum Sanctae Sedis* Пінскай дыяцэзіі.

3 кастрычніка 2009 г. правёў урачыстае адкрыццё Катэхетычнага каледжа Пінскай дыяцэзіі ў Баранавічах, зарэгістраванага ў адпаведнасці з законамі Рэспублікі Беларусь, і аддаў яго ў апеку Слузе Божаму біскупу Зыгмунту Лазінскаму.

30.06.2011 г. кардынал быў звольнены з пасады Апостальскага Адміністратара Пінскай дыяцэзіі.

Усім сэрцам ён падтрымліваў будаўніцтва Дома міласэрнасці ў Лагішыне і радаваўся, калі ён атрымаў дзяржаўную рэгістрацыю (7.10.2010) і калі адзначалася ўрачыстасць яго аддання ў апеку Найсвяцейшай Панне Марыі, Маці Божага Провіду.

З 19.05.2010 г. кардынал быў пацыентам шпіталяў Пінска, Мінска, Любліна і скончыў зямное жыццё ў Пінску, жыхаром якога быў на працягу 57 гадоў.

Адышоў да Пана: «Ахвярны святар, чалавек глыбокай, непахіснай веры і незвычайнага лёсу. Аптыміст з душою рамантыка, улюбёны ў хараство свету, створанага Богам. Вялікі працаўнік і жыццялюб, надзелены рэдкім дарам тонкай іроніі, што дапамагае яму заўсёды заставацца самім сабою. Перакананы абаронца Традыцыі і шчыры паклоннік Марыйнай пабожнасці. Мужны апостал Хрыстовае праўды. У яго лёсе яскрава адлюстроўваўся драматычны лёс усяго Касцёла на Беларусі за апошняга больш як паўвеку...» («Fidei testis» — «Сведка веры», Мінск, «Pro Christo», 2004, с. 16).

Служыў Касцёлу радасна. Клапаціўся пра братэрства мясцовых і замежных духоўных асобаў, пра душпастырства пакліканняў, рэлігійную фармацыю дзяцей і моладзі, сакральнае і касцёльнае будаўніцтва, пра самасвядомасць Касцёла ў Беларусі.

Вернікі чувалі каля памерлага і маліліся за яго ў мінскай архікатэдры Імя Найсвяцейшай Панны Марыі і ў пінскай катэдральнай базыліцы Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі.

Пахаванне адбылося ў Пінску пад кіраўніцтвам Яго Эмінэнцыі кардынала Станіслава Дзівіша, арцыбіскупа Мітрапаліта Кракаўскага з Польшчы са шматлікім удзелам каталіцкага духавенства і духоўных асобаў іншых веравызнанняў, а таксама мясцовых і замежных вернікаў.

Арцыбіскуп Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі
Апостальскі Адміністратар Пінскай дыяцэзіі
*Тадэвуш Кандрусевіч*

Канцлер, пробашч пінскай
катэдральнай парафіі
*кс. Станіслаў Паўліна fDP*

* Rogito (ад лац. *rogito — распытаць, даведацца*) — дакумент, у якім падаюцца асноўныя факты з жыцця памерлага іерарха. Паводле касцёльнай традыцыі, ён падпісваецца распарадчыкамі пахавання, пасля чаго кладзецца ў труну.

# Гамілія мітрапаліта Кандрусевіча падчас пахавальнай святой Імшы за памерлага кардынала Казіміра Свёнтка

## (пінская катэдра, 25 ліпеня 2011 г.)

«Хто давярае Табе, не будзе расчараваны» (пар. Пс 25(24), 3). <...>

Гэтыя словы псальма вельмі добра характарызуюць асобу памерлага кардынала Казіміра Свёнтка. Менавіта ён быў тым чалавекам, які да канца даверыўся Богу.

Так было тады, калі ён пачуў голас паклікання да святарства; калі з надзеяй распачаў святарскае служэнне; калі знаходзіўся ў камеры смерці ў брэсцкай вязніцы і смерць заглядала ў вочы; калі вайна несла разруху і знішчэнні і адбірала надзею; калі знаходзіўся ў лагерах; калі трэба было нанава распачынаць служэнне ў пінскай катэдры, якая доўгі час заставалася без святара, і аднаўляць яе; калі трэба было духоўна адраджаць высахлыя ў часы атэізацыі чалавечыя душы, падобна як высахлыя пінскія балоты пасля неабдуманых працэсаў меліярацыі; калі напрыканцы 80-х — пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя прыйшла новая надзея; калі трэба было распачаць біскупскае служэнне ва ўзросце 77 гадоў; калі благаслаўлёны Ян Павел II за вернасць, сведчанне і ахвярнае служэнне прызначыў яго першым у сучаснай гісторыі Каталіцкага Касцёла ў Беларусі кардыналам; калі трэба было адбудоўваць касцёльныя структуры, мінскую катэдру, семінарыю ў Пінску; калі трэба было правесці Сінод Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, Віцебскай і Пінскай дыяцэзій, калі ўжо падчас свабоды веравызнання прыйшлі новыя выклікі секулярызму і гэтак далей.

Абсалютны давер Богу быў пуцяводнай зоркай памерлага кардынала, якога Бог паклікаў да святарскага і біскупскага служэння як адпаведнага чалавека і ў адпаведны час.

Добра памятаю, як падчас візіту Яго Эмінэнцыі Прымаса Польшчы кардынала Юзафа Глемпа ў пінскую катэдру 7 верасня 1988 г. ксёндз Казімір Свёнтэк уручыў яму ад рукі напісаны малітоўнік з просьбай перадаць яго папу Яну Паўлу II як сведчанне нязломнай веры нашых людзей і надзеі, што вера ператрывае ганенні. Гэты жэст зрабіў вельмі вялікае ўражанне на кардынала і ўсіх прысутных. Гэтым жэстам тады яшчэ святар Казімір Свёнтэк хацеў сказаць, што, нягледзячы на тое, што нас прыціскаюць і не даюць нармальна дзейнічаць, мы трываем, бо давяраем Богу.

На наступны год, падчас святкавання 50-годдзя святарства Свёнтка, прыбылы на гэтыя ўрачыстасці Апостальскі Адміністратар Пінскай дыяцэзіі ў Драгічыне біскуп Уладзіслаў Ендрушук ад усяго сэрца дзякаваў яму за яго мужнасць, вытрываласць і ахвярную пастырскую працу ў вельмі складаных умовах.

Усім вядома, як высока цаніў мужнасць кардынала Свёнтка благаслаўлёны Ян Павел II — калі заходзіла гаворка пра яго, у Папы свяціліся вочы.

Нездарма Святы Айцец Бэнэдыкт XVI у спачувальнай тэлеграме ў сувязі са смерцю кардынала ўзгадаў пра яго адважнае сведчанне, якое ён даў Хрысту і свайму Касцёлу ў асабліва цяжкія часы, а таксама пра энтузіязм, з якім працаваў дзеля духоўнага адраджэння сваёй краіны. А ватыканскае выданне «L'Osservatore Romano» за 22 ліпеня 2011 г. назвала беларускага іерарха непахісным дрэвам у хвіліну шторму, сведкам веры, іконай постсавецкага каталіцызму, сімвалам адраджэння Касцёла ў Беларусі і яго надзеі.

Сёння мы стаім над труною памерлага кардынала Казіміра Свёнтка і ўспамінаем яго як неардынарнага чалавека, жывога мучаніка і сведку веры, таленавітага пастыра, здольнага арганізатара, знакавую фігуру нашага часу. У Пінску — горадзе, які ён вельмі любіў, дзе атрымаў святарскае пасвячэнне і біскупскую сакру і дзе правёў большую частку свайго жыцця, завяршаецца яго зямны шлях. Для яго ўжо завяршыўся час, гадзіннік яго жыцця спыніўся, але засталася вечнасць. Застаўся Дом нябеснага Айца, да якога ён ішоў усё сваё доўгае, багатае і адначасова вельмі трагічнае жыццё і да якога на працягу свайго 72-гадовага святарскага служэння вёў людзей.

Гэтую праўду аб жыцці і смерці хрысціяніна нагадвае нам сённяшняя жалобная ўрачыстасць. Мы жывём на зямлі, але жывём для Бога і неба. Ходзім рознымі жыццёвымі шляхамі, але ўсе яны сыходзяцца ў адным, які вядзе да Дому нябеснага Айца. «Дні чалавека — як трава, Ты ж, Пане, трываеш на векі». Гэтыя словы жалобнай літургіі падыходзяць нават і такому доўгажыхару, якім быў памерлы кардынал Казімір Свёнтэк.

Хоць засмучае нас смерць кардынала, аднак мы павінны глядзець на яе праз прызму праўды аб Уваскрасенні Хрыста. Менавіта гэтая праўда нагадвае пра тое, што са смерцю чалавека не завяршаецца яго жыццё, і вузенькая сцяжынка, якая вядзе да магілы, — гэта не апошні шлях,

але пачатак новага жыцця. Гэтай праўдзе ўсё сваё жыццё навучаў кардынал Казімір Свёнтэк і сёння сам яе засведчыў.

Апошнія дні ў Касцёле ў Беларусі і ў паўсюдным Касцёле трывае малітва за святой памяці кардынала Казіміра Свёнтка. Гэта найперш малітва ўдзячнасці за яго святарскую вернасць, служэнне і сведчанне, і адначасова малітва аб Божай міласэрнасці.

Яго багатае і адначасова трагічнае жыццё, цяжкая хвароба і смерць, а таксама наша малітва маюць сваю сімволіку. Мы верым, што нішто ў нашым жыцці не з'яўляецца выпадковым, што Бог кіруе жыццём кожнага з нас. Таму складанае жыццё кардынала Свёнтка, але адначасова жыццё верай, надзеяй, нават насуперак надзеі, і любоўю да кожнага чалавека, нават таго, хто праследаваў яго, цяжкія цярпенні, якімі ён, паводле словаў святога апостала Паўла, дапоўніў цярпенні Хрыста, і сама яго смерць хочуць нам сказаць нешта вельмі важнае. А менавіта тое, што ён да канца заставаўся верным як хрысціянскаму, так і святарскаму пакліканню. Быў пастырам па прыкладзе Езуса Хрыста — Добрага Пастыра; пастыра, які не пакінуў свайго статку ў гадзіну цяжкага доведу; пастыра, заданнем якога з'яўляецца вучыць, асвячаць і праз служэнне ў любові кіраваць народам Божым. Гэтыя абавязкі ён верна выконваў да канца свайго жыцця і дзякуючы гэтаму заслужыў вялікі аўтарытэт як у Касцёле, так і ў грамадстве.

Хрыстус кажа, што Ён ёсць праўда, дарога і жыццё, і ніхто не прыходзіць да нябеснага Айца інакш, як толькі праз Яго. Кардынал Свёнтэк добра ведаў гэтую ісціну і вучыў ёй іншых. Менавіта таму, што ёсць адна нязменная праўда — гэта Хрыстус і Яго Евангелле. Ёсць адна дарога, якая вядзе да сапраўднага жыцця, — гэта Хрыстус. Ёсць



адно сапраўднае жыццё — гэта таксама Хрыстус. Ён вучыў будаваць жыццё на Хрысце і Яго Евангеллі, каб яно было шчаслівым тут, на зямлі, і прывяло ў Дом нябеснага Айца.

Служачы гэтай ісціне, па прыкладзе Добрага Пастыра ён не шкадаваў сябе. Стаўшы біскупам ва ўзросце 77 гадоў, ён прыняў на сябе новы крыж, які трэба было насіць не на грудзях, але на плячах. На ім спраўдзіліся словы Езуса, якія Ён сказаў апосталу Пятру: калі ты быў малады, падпярэзваўся сам і хадзіў, куды хацеў; а калі састарышся, то выцягнеш рукі твае, і іншы падпярэжа цябе і павядзе, куды не хочаш. Свёнтэк дазволіў, каб Хрыстус яго падперазаў і павёў. Калі падчас біскупскай кансэкрацыі ён сказаў «так», то ўсё іншае, акрамя служэння па прыкладзе Добрага Пастыра, ужо не існавала. І так было на самай справе, аж да апошняй хвіліны яго жыцця. Яшчэ ў свядомасці перад апошняй аперацыяй ён выказваў сваю вялікую заклапочанасць праблемамі і жыццём Касцёла.

Сёння, у дзень пахавання кардынала Казіміра Свёнтка, мы ўсё больш і больш усведамляем яго веліч як сведкі веры і добрага пастыра. Адышоў да Бога чалавек, верны Богу і Касцёлу, чалавек, адкрыты на сучасны свет і яго праблемы, чалавек, які добра ведаў, што сучасны свет патрабуе новага выканання місіі Хрыста — ісці і навучаць, навучаць, нават калі б і здавалася, што сучасны свет не прымае гэтага навучання. Адным словам, у сваім вельмі шаноўным узросце ён імкнуўся да новай евангелізацыі, да якой так моцна заклікаў благаслаўлёны Ян Павел II і якую рэалізуе Бэнэдыкт XVI.

У гэтым была яго веліч і адначасова скарб для Касцёла. Такім быў памерлы кардынал Казімір Свёнтэк — сведка веры, яе абаронца і прамоўтар, працавіты і ахвярны пастыр, выдатны арганізатар і адначасова просты ў зносінах з іншымі людзьмі чалавек.

За ўсё гэта, і не толькі, мы сёння схіляем свае галовы перад табою, дзякуем табе і перапрашаем за магчымыя непаразуменні. Дзякуем Богу, што даў Касцёлу ў Беларусі і паўсюднаму Касцёлу такога правідэнцыяльнага пастыра. Даручаем цябе Божай міласэрнасці. Няхай Маці Божая Вастрабрамская, выяву якой ты змясціў у сваім біскупскім гербе і якой даверыў сваё біскупскае служэнне, прывядзе цябе перад аблічча міласэрнага Бога, каб жыў у Ім навекі. Амэн.

# Плён яго працы, малітвы і цярпенняў

Ксёндз кардынал Свёнтэк — гэта вялікі сведка веры. Першы раз мы сустрэліся з ім у цягніку, едучы з Варшавы ў Брэст. Гэта не было выпадкова. Я накіроўваўся ў Беларусь, дзе мы як вербісты распачыналі сваю дзейнасць і хацелі купіць дзеля гэтага дом. Трэба было ўзгадніць нашыя планы з Казімірам Свёнткам: я акурат даведаўся ў той час, што ён стаў Мітрапалітам Мінска-Магілёўскім і Апостальскім Адміністратарам Пінскай дыяцэзіі. Спачатку я збіраўся ехаць іншым цягніком, а потым вырашыў адправіцца ў дарогу пазней. Зайшоўшы ў цягнік, я падумаў: «Вось зайду ў гэтае купэ...» Бачу — там сядзіць ксёндз і хтосьці яго праводзіць у дарогу... Я адразу пазнаў новапрызначанага арцыбіскупа, якога раней бачыў на фотаздымку.



Кардынал Казімір Свёнтэк і біскуп Ежы Мазур асвячаюць капліцу Паяднання і Міру, у якой знаходзіцца зямля з 14-ці сталінскіх лагераў. Іркуцк, 10.09.2000 г.

У дарозе мы мелі шмат часу для таго, каб добра пазнаёміцца. Я сказаў што збіраўся наведаць яго ў Пінску, але паколькі мы былі разам у гэтым падарожжы, то прадставіў яму інтэнцыю, з якой ехаў у Беларусь. Пасля той першай сустрэчы я заўсёды ўспамінаў ксяндза кардынала як чалавека, вельмі моцна заклапочанага справамі Касцёла.

Пасля мы шмат супрацоўнічалі. Я быў у Баранавічах, дзе мы распачыналі сваю дзейнасць, і ксёндз кардынал стараўся шмат дапамагаць нам як духоўны айцец. Прынамсі двойчы ў месяц мы разам выязджалі ў розныя парафіі, дзе арганізоўвалі сустрэчы з вернікамі. Я меў магчымасць бліжэй пазнаёміцца з ксяндзом кардыналам, калі ён падрабязна распавядаў пра свае жыццёвыя выпрабаванні. Магу сказаць, што ён вельмі любіў Бога і Касцёл, любіў людзей, якім служыў, і часта гаварыў: «За Божае Валадарства трэба маліцца, дзеля яго трэба працаваць і цярпець...» Думаю, усё гэта спраўдзілася ў яго жыцці. Ён трываў у малітве не толькі тады, калі знаходзіўся ў касцёле, але і тады, калі выязджаў на любімую рачулку, дзе часам праводзіў цэлую ноч. Ён таксама шмат працаваў дзеля Божага Валадарства, і мы заўсёды дзівіліся яго запалу і энтузіязму, што праяўлялася і падчас сустрэчаў са святарамі, і падчас яго ўдзелу ў розных урачыстасцях, і падчас працы Сіноду. Ён заўсёды быў тытанам працы і даваў прыклад іншым.

Ён шмат цярпеў дзеля Божага Валадарства, цярпеў з самага пачатку свайго святарскага шляху: на яго долю выпалі ваенныя гады, арышт, смяротны прысуд і 10 гадоў высылкі... Ды яшчэ хлопчыкам ён разам з маці і братам знаходзіўся ў дэпартацыі ў Сібіры...

Не забуду пра тыя выпадкі з яго жыцця, якія былі звязаны з гэтымі цярпеннямі. Калі яго прыходзілі арыштоўваць, ён ведаў, што гэта несправядліва, але прыняў несправядлівасць... Праз дзесяць гадоў яго прабывання ў Варкуце савецкі афіцэр, паглядзеўшы ў дакументы, паводле якіх ксёндз Казімір павінен быў даўно загінуць, зірнуў ксяндзу ў вочы і спытаў: «Кто Вам помогал?» Адказ вымавіўся нібы сам сабой: «Пан Бог». Тады ксёндз падумаў: «Усё, мне канец...», бо гэтых словаў прадстаўнікі ўлады не хацелі чуць. Зноў вочы ксяндза і афіцэра сустрэліся... І ксёндз Казімір Свёнтэк пачуў: «Вы свободны». Гэтыя словы значылі яшчэ і тое, што яго малітва, яго праца і цярпенні ўжо прынеслі свой плён: людзі ўнутрана навярталіся.

Ён працаваў як сведка веры і сведка Езуса Хрыста. У тыя часы Касцёлу ў Беларусі быў патрэбны менавіта такі чалавек, і за гэта Пан Бог адарыў яго доўгім жыццём. У тым узросце, калі біскупы звычайна сыходзяць на пенсію, ён стаў ардынарыем, правёў Касцёл у Беларусі праз парог адраджэння і ўвёў яго ў трэцяе тысячагоддзе.

*Ежы Мазур,*
*біскуп Элцкай дыяцэзіі*
*ў Польшчы.*

# Глыбокая чалавечнасць



Маё знаёмства з Яго Эмінэнцыяй ксяндзом кардыналам Свёнткам распачалося, калі я быў клерыкам. Сам я паходжу з парафіі Удзела, што на Віцебшчыне. Там вельмі часта адбываліся святарскія рэкалекцыі. У той час Віцебскай дыяцэзіі яшчэ не было — гэтая вобласць уваходзіла ў Мінска-Магілёўскую архідыяцэзію. У духоўных сустрэчах са святарамі браў удзел і ксёндз кардынал. Калі на працягу гэтых дзён духоўных сустрэчаў ён быў сярод сваіх братоў у святарстве і маліўся супольна з іншымі святарамі і на адзіноце (памятаю, у такія моманты ён прыкрываў далонямі свой твар і, заўважна было, вельмі шчыра размаўляў з Панам Богам), ён заўсёды станавіўся вельмі спакойным.

Для многіх святароў кардынал быў сапраўдным духоўным пастырам, настаўнікам і нават духоўным айцом, з якім можна было шчыра паразмаўляць, падзяліцца сваімі радасцямі і цяжкасцямі. Безумоўна, не абыходзілася і без ушчування... Але ж які добры бацька не пакарае сваіх дзяцей за штосьці дрэннае!

Калі я стаў дыяканам і пачаў працаваць у Мінску, то яшчэ бліжэй пазнаёміўся з гэтым цудоўным святаром, убачыў, што акрамя глыбокай духоўнасці, ксёндз кардынал мае глыбокую чалавечнасць. Ён быў простым чалавекам, які не пагарджаў таварыствам такіх жа простых людзей і меў прыгожае пачуццё гумару. Мяне ўразіў у ім незвычайны шарм, які ёсць у нямногіх старэйшых людзей, а таксама тактоўнасць, памяркоўнасць, уменне з глыбінёй і праніклівасцю падысці да кожнай справы. У многіх рэчах я стараўся вучыцца ад ксяндза кардынала, браў прыклад з яго паводзінаў, дыпламатыі, стараўся пераймаць яго пастырскія якасці.

Пінская духоўная семінарыя была плёнам яго асаблівых намаганняў. На яе ён ускладаў сваю надзею. Для семінарыстаў кардынал заўсёды быў вялікім аўтарытэтам. На жаль, з-за шматлікіх пастырскіх абавязкаў ён не мог наведваць гэтую навучальную ўстанову так часта, як хацелася б. Але калі гэта здаралася, студэнты і выкладчыкі з вялікай радасцю сустракалі яго. Раз на год кожны клерык меў размову з кардыналам сам-насам і падчас яе мог падзяліцца сваімі перажываннямі, выказаць свае жаданні адносна вучобы ў семінарыі. Кардынал заўсёды з ахвотаю прымаў запрашэнні на розныя семінарыйныя ўрачыстасці і, удзельнічаючы ў іх, сваімі эмоцыямі, усмешкаю, воплескамі ці нават слязьмі выяўляў вялікую радасць з нагоды новых аблучынаў ці прыняцця новых паслугаў (акалітата або лектарата), пасвячэння ў дыяканы або ў святарства. Ён заўсёды радаваўся, калі з’яўляліся новыя людзі, якія хацелі несці слова Божае ў свет.

Гады майго святарства і непасрэдная лучнасць з гэтым чалавекам дапамаглі мне адкрыць у яго постаці іншыя прыгожыя рысы. Кардынал умеў дзяліцца сваім жыццёвым досведам: распавядаў пра сваё прабыванне ў лагерах, пра пераследаванні і перажыванні, звязаныя з тым часам. Ён усведамляў, што на працягу гэтых цяжкіх гадоў менавіта Бог ратаваў яго душу праз цярпенні і боль, ачышчаючы яго і рыхтуючы, як апостала Пятра, да таго, каб зрабіць яго ў будучыні скалою — спачатку для паствы ў Пінску, а пасля — ва ўсёй Беларусі і за яе межамі. Праз яго я адкрыў для сябе тую праўду, што Бог можа скарыстацца рознымі жыццёвымі сітуацыямі, каб весці чалавека па правільным шляху. Часам Божая воля настолькі не зразумелая нам, часам настолькі цяжка яе прыняць, што мы пачынаем наракаць... Але праходзяць дні, праходзяць гады — і мы бачым, што ўсё тое цяжкае і незразумелае, з чым мы не згаджаліся, было сапраўдным Божым благаслаўленнем.

Поўнае цярпенняў жыццё кардынала Свёнтка навучыла і вучыць мяне надалей пакорна прымаць Божую волю, цешыцца ўсім, што Бог дае дзеля нашага ўдасканалення. Кардынал застаўся ў маёй памяці як светлая, поўная чалавечнасці асоба, якая мела глыбокую духоўнасць і вельмі моцную веру.

*Кс. Аляксей Раманчук,*
*прэфект Вышэйшай міждыяцэзіяльнай духоўнай семінарыі ў Пінску.*

# СЛОВА стала жыццём



Кардынал Казімір Свёнтэк віншуе кс. Юрыя Бакава, якому ўдзяліў сакрамэнт святарства.

На жыццёвым шляху Бог дае людзей, якія тым або іншым чынам уздзейнічаюць на нас, змяняюць наш спосаб існавання. Часта здараецца, што гэтыя людзі нават не заўсёды ўсведамляюць, як шмат зрабілі для іншых, учынілі сваім жыццём, сваімі паводзінамі.

Постаць Яго Эмінэнцыі кардынала Казіміра Свёнтка — адна з наймагутнейшых у гісторыі Беларусі XX – пачатку XXI ст. Памятаю яго словы пра тое, што «пакорны чалавек падрыхтаваны Богам, каб даць з сябе найвышэйшую моц». Тая падрыхтоўка, праведзеная праз жыццё святара Казіміра Свёнтка, якраз і дала вялікія плады, якімі мы карыстаемся і сёння. Сапраўды, Божыя планы часта пераўзыходзяць чалавечае разуменне. Сваім жыццём і цярпеннем кардынал Свёнтэк перамяніў унутраны свет многіх людзей, з якімі, магчыма, непасрэдна так ніколі і не сустрэўся. Ён зрабіў католікамі тых, хто не меў веры, хто не жадаў пазнаваць Хрыста. Сапраўды, Слова найбольш патрэбна «напачатку», а потым — дзеянні, учынкі і абавязкова ахвяра з сябе, са свайго жыцця. Божае слова, якое засялілася ў душы маладога Казіміра Свёнтка, перарасло ў сапраўдны жывы Касцёл на Беларусі. Убачыўшы гэта, Бог дае яму, тады проста кс. Казіміру, уладу будаваць нанава Касцёл на Беларусі, так, як калісьці апосталу Пятру ва ўсім свеце.

Будучы палякам, прыехаўшы на беларускую зямлю, ён змог зрабіць для духоўнасці і нават беларусізацыі нашага краю больш, чым шмат хто з беларусаў. Менавіта ад кардынала Казіміра Свёнтка найперш залежала, як будзе развівацца Касцёл на Беларусі, як будзе даносіцца Божае слова да кожнага чалавека. І Яго Эмінэнцыя абірае за асноўную мову для Слова тую, якой даў карыстацца гэтаму народу Бог, — беларускую. Як давалася яму ўсё гэта, ведае толькі сам Бог. Але вынік, альбо плады, відавочныя: мы маем найважнейшыя літургічныя кнігі па-беларуску, а галоўнае, духоўнае ажыўленне сэрцаў тых, хто ў іншых мовах наўрад ці прыняў бы Хрыста. Шмат якія не толькі дзяржаўныя, але і рэлігійныя, і грамадскія арганізацыі не вытрывалі гэтага выпрабавання часам. Касцёл, магчыма, цяпер адзіны, хто вытрываў. Божая справа мацнейшая за чалавечую. І, напэўна, на дадзеным этапе гісторыі было якраз найлепш, каб гэтай справай беларусізацыі Касцёла кіраваў менавіта паляк.

Безумоўна, немагчыма не ўзгадаць і пра чалавечыя якасці нашага кардынала. Асабліва мяне ўражвала тая вялікая шляхетнасць, якой была перапоўненая яго душа. Уменне вырашаць самыя складаныя справы, шануючы кожную асобу, і, што самае важнае, шануючы годнасць чалавека, незалежна ад таго, рабіў той чалавек добрае альбо дрэннае. Шляхетнасць, спалучаная з Божымі цнотамі, і дае сапраўды Божага чалавека, прыклад якога хочацца наследаваць. Для нас, святароў, ён быў сапраўдным айцом. Ён меў тую айцоўскую любоў, якая найперш выхоўвае, а не распешчвае.

Падчас вучобы ў семінарыі ў Драгічыне (Польшча, тэрыторыя былой Пінскай дыяцэзіі) я не раз чуў словы захаплення кардыналам Свёнткам, яго духоўнасцю і жыццёвым шляхам ад многіх людзей. Лічу вялікім гонарам, што менавіта праз яго рукі Пан Бог удзяліў мне дар святарства. Гэтая падзея застанецца ў маім сэрцы і памяці на ўсё жыццё.

Так сталася, што Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Свёнтэк адышоў з гэтага свету 21 ліпеня, якраз у дзень майго нараджэння. Веру, што гэты дзень і стаў днём нараджэння для Неба Казіміра Свёнтка, які завяваў сваю святасць праз мукі і цярпенні ўсяго жыццёвага шляху і падмацаваў пакутамі апошніх месяцаў на зямлі. Веру, што ён будзе дапамагаць мне і ўсім нам на Беларусі пашыраць Божае слова і пераменяць нашае жыццё да лепшага, каб Божае слова стала і нашым жыццём.

*Ксёндз Юры Быкаў,*
*пробашч парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Бабруйску.*



# Свёнтэк

Прафесія — самая важная рэч у свеце, а распараджаецца гэтым, як меркаваў Паскаль, выпадак. Значыць мой выпадак быў шчаслівым, бо менавіта ён прывёў мяне ў касцёл і дазволіў мне ведаць ксяндза Казіміра.

Праўду кажучы, я сумняваюся ў сваім праве гаварыць пра Яго Эмінэнцыю Кардынала, але... калі ў мінскую архікатэдру, адроджаную яго воляй і стараннямі, унеслі труну з яго целам, я зразумеў, што 32 гады (Божа, як ляціць час!) я чытаў не кнігу з серыі «ЖЗЛ», а меў шчасце палову жыцця быць яго супрацоўнікам, гатовым заўсёды адгукнуцца на яго заклік.

Рэдка калі я не звяртаўся да яго ў думках, намагаючыся разгадаць дзіўны сюжэт яго жыцця, напісаны няйначай як на нябёсах. Зрэшты, яго зыход у вечнасць не перашкодзіць мне рабіць гэта і надалей, «таму што бачнае — часовае, а нябачнае — вечнае» (пар. 2 Кар 4, 17).

Не ўяўляю, як трэба апісаць яго жыццё (не прыкладаючы дакументальных пацвярджэнняў), каб паверылася, што гэта не легенда і не выдумка не вельмі дасведчанага апавядальніка. Рэальнасць часта здаецца менш праўдападобнаю, чым вымысел. Аднак тут і выдумляць нічога не трэба — сапраўды пражытая легенда. Гэта асабліва ясна разумееш цяпер, калі ён пайшоў, не размінуўшыся з тым, што яму было прызначана на шляхах Божага Провіду.

Безумоўна, ён збіраўся дажыць да 100 гадоў — ён па-дзіцячы любіў рэкорды. У яго жыцці ўсё і заўсёды закруглялася-закальцоўвалася... Мяркуйце самі: нарадзіўся — 21 кастрычніка, памёр — 21 ліпеня, асуджаны на катаргу — 21 ліпеня, атрымаў біскупскую сакру — 21 мая.... і стагоддзе — XXI. Калі б гаворка ішла пра блэкджэк — адну з самых папулярных гульняў у казіно, дзе лічба 21 азначае выйгрыш, яго можна было б лічыць шчаслiўцам і чэмпіёнам. Але ў яго жыцці, напэўна ж, меў значэнне той адлік, у якім чысло 21 уплывала на эарталогію (святазнаўства) Божай Маці — у копцкіх календарах, якія рэгламентавалі жыццё старажытнаегіпецкай Царквы, 21 дзень кожнага месяца быў прысвечаны Панне Марыі...

У яго жыцці кожны дзень кожнага месяца кожнага года быў прысвечаны Панне Марыі. Без трох гадоў — 100 летаў і зімаў. І прозвішча яго — гэта свята, святы дзень.

Трошкі не дацягнуў да ста — як быццам не завяршыў чагосьці... напэўна, упершыню ў жыцці.

Але са смерцю не паспрачаешся. Хоць яму і гэта ўдавалася. І не раз.

Як было заўважана Абеля-

рам, чалавечыя пачуцці часта мацней абуджаюцца або змякчаюцца больш прыкладам, чым словамі. А яго жыццё — гэта, несумненна, прыклад.

Жыццё, у якім не было не галоўнага. Усё галоўнае. Нават непрыкметная кветачка ў лузе, знятая ім на аматарскую камеру так, што адчуваеш і дрыжанне яго рукі, і ўсхваляваны позірк, і замілаванне з дзіцячым пачуццём бясцэннасці кожнай малой травінкі — стварэння Божага...

Але чалавеку (нават калі ён апостал) для таго, каб паверыць, трэба абавязкова «пальцы свае ўкласці ў рану, руку ўкласці ў рэбры»...

Аглядаючыся на яго завершаны зямны шлях, ці ж здолею я ацаніць маштаб яго асобы і справы яго жыцця? Ці ж мне гэта рабіць? Але каб не ўпасці ў перабольшванні і разам з тым нічога не зменшыць, трэба мець на ўвазе і гістарычны фон, на якім чалавек проста не паспяваў прыстасавацца да жыцця: з 1939-га па 1944 у Пінску чатыры разы змянялася ўлада. І надалей было не прасцей. І ўсё менш заставалася тых, хто верыў, што час абавязкова падыдзе «да таго канца, які загадзя Богам устаноўлены»...

Гавораць, што перш чым стаць святым, кожны бывае проста чалавекам, аднак здараюцца абставіны, у якіх і проста чалавекам заставацца вельмі складана.

А калі б не выратавала гестапа ад КДБ, а потым КДБ — ад гестапа? А калі б яго прайграла ў карты «ахова», калі б выйшаў з камеры смяротнікаў да сценкі, калі б не вытрываў нялюдскіх здзекаў і крывавай дызентэрыі — можа, і не выйшаў бы на свет з халоднай цемры палярных лагераў. Магло ж і так здарыцца — і здаралася найчасцей за ўсё.



Казімір Свёнтэк — семінарыст.

А калі б з'ехаў вучыцца за мяжу і лёг бы там на гары, дзе «czerwone maki», — так ён казаў сам, маючы на ўвазе гару Монтэ-Касіно ў Італіі...

Магло не быць ні гестапа, ні КДБ, ні камеры смяротнікаў, ні лагераў, калі б паехаў вучыцца... але лёг бы на Монтэ-Касіно, бо ён, безумоўна ж, быў бы разам з палякамі, а там іх палегла нямала.

Разважаючы пра лагерныя жахі, не трэба забываць пра жахлівую ўласцівасць людзей прывыкаць да ўсяго. Пекла, напэўна ж, адрозніваецца ад лагера, але толькі тым, што ў ім не дадзена прывыкнуць да пакутаў...

Ён 10 гадоў быў адарваны ад жыцця. Зрэшты, яго «ахоўнікі» былі адарваныя не менш, нават больш, але, «ахоўваючы» яго, яны гублялі Божы дар любові і спачування, загартоўваючыся ад аднаго сузірання чалавечых пакутаў. Ён жа пераканаўся сам і пераканаў сваіх «ахоўнікаў» у тым, што з вераю ў Бога можна сцярпець усе пакуты.

Ён часам казаў (можа, па звычцы тых гадоў адлічваць дні катаргі): перажыў 21-е, значыць яшчэ год буду жывы... Запалярная ноч — гэта паўгода. Дзень — як паўгода. Ноч-дзень — як год. Дзесяць доўгіх начэй, дзесяць доўгіх дзён. Дзесяць гадоў няволі.

Ён зведаў адваротны бок жыцця.

Гэта быў сапраўды «страчаны час», шукаць які нікому не прыйдзе ў галаву. Досвед лагераў — адмоўны досвед (здаецца, гэта сказаў Варлам Шаламаў).

Але многія, жывучы нібыта свабодна, кепска ўяўлялі сабе свет «без права перапіскі» і яшчэ горш уяўлялі той, у якім жылі, не ведаючы праўды, напрыклад, пра падзеі ў Польшчы 1956 года, пра Венгрыю таго ж года...

Як ззялі яго вочы і якой энергіяй ён прамяніўся, калі паказваў мне спадцішка значок «Салідарнасці»! Ён быў шчаслівы, а я быў шчаслівы не яго шчасцем, а тым, што ён падзяліўся са мною зразумелаю мне таямніцаю і радасцю. Я паверыў, што ёсць чаму радавацца — гэта было ў 81-м годзе мінулага стагоддзя.

...Аднойчы ён прачнуўся ў апартаментах, прадастаўленых яму Папам Рымскім, і ўбачыў на столі высокае-высокае неба з аблокамі, і, напэўна, успомніў, як навісала над яго тварам, нібы века труны, негабляваная дошка другога «ярусу» лагерных нараў... Ва ўсялякім выпадку (як

сам расказваў) падумаў: гэта ж колькі б тут змясцілася маіх хатак на вуліцы Шаўчэнкі разам з садам і агародам... Але гэта так, між іншым...

У той хатцы ў Пінску на Шаўчэнкі 12, у яго малюсенькім пакойчыку ледзьве змяшчаліся, выцясняючы адно другое, ложак, шафа і пісьмовы стол каля вакна. На століку так і засталіся фотаздымак біскупа Лазінскага, мініяцюрны абразок Вастрабрамскай, падараваны рэстаўратарамі, і розныя паперы — яны нібыта чакаюць свайго гаспадара...

Мы судзім нашай меркаю, а ён проста быў такім і не мог быць іншым. І ў Варкуце, і ў Сочы ён не здрадзіў бы сабе, свайму пакліканню — не сышоў бы з прадвызначанага шляху. Такім стварыў яго Пан Бог, паклікаўшы на служэнне каля труны біскупа Лазінскага, дзе Казімір Свёнтэк усяго толькі прасіў доўгіх гадоў для сваёй маці і здольнасці быць добрым хрысціянінам. Ён памятаў дотык рукі біскупа да сваёй шчакі — так Лазінскі пасвяціў яго ў рыцары... Рыцары веры.



На рыштаваннях катэдры Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Пінску. 1960-я гг.

Можа таму, яму была ўласцівая «велікадушная вясёласць» (пра якую гаварыў С. Аверынцаў, разважаючы пра Чэстэртона), і ішла яна ад «адносінаў да жыцця як да рыцарскай прыгоды, вынік якой абсалютна невядомы». Непахісная вера ў Бога, у дапамогу Божай Маці і ў тое, што дабро заўсёды перамагае зло, рабіла гэтага рыцара непераможным у любых абставінах. «Mater Misericordiae» — было напісана на яго біскупскім гербе.

Ды як жа паверыць, «пальцы не ўклаўшы»?

Яго лёс здзіўляў нават тых, у пагонах, «видавших виды» і ўсялякія жахі, — яны мелі доступ да яго «асабістай справы».

— Верыў, — па-дзіцячы проста тлумачыў ён маёру сваю жывучасць.

Зрэшты, гэта ўжо вядома ўсім. Але хто ведае таямніцу яго сэрца?

Ён і сам не мог да канца зразумець таго пералому, што адбыўся з ім каля труны біскупа Лазінскага ў 1933 годзе: у склеп увайшоў выпускнік гімназіі, які марыў пра філфак універсітэта, а са склепа выйшаў юнак, які выразна адчуў Божае пакліканне.

Душу пераўтварыла і абудзіла тое, што замест мараў і прадчуванняў, якія жылі ўнутры, раптам пачулася пакліканне звонку. І ўвасобілася ў сапраўднасць...

Яму заўсёды былі ўласцівыя іронія і гумар, таму яго сябры гімназісты, ведаючы яго гарэзлівыя жарты, прынялі як жарт заяву пра паступленне ў семінарыю. Але ён не жартаваў, як не перастаў жартаваць і ў семінарыі. Уяўляю здзіўленне і нават страх чалавека, які, зайграўшы ранішнюю пабудку на званіцы, не пачуў звыклага звону, што заклікаў зімовы світанак у змрочныя манаскія калідоры семінарыі. А як мог загучаць звон, калі ноччу яго знялі з крука, вынеслі на мароз і запоўнілі вадою, якая, замерзнуўшы, наглуха прымарозіла жалезны язык? Затое, развешваючы на фасадзе дома ў Варкуце на кастрычніцкія «святы» партрэты ўладароў імперыі, можна было ад душы крычаць, не баючыся застудзіць горла: «Берыю вешай! І Калініна — таксама!» І потым мерзнуць у карцары разам з языком...

Адзін філосаф сказаў, што пайшоў бы на край свету за сапраўдным рыцарам веры, калі б толькі ведаў, дзе яго знайсці. Я не шукаў ні рыцара, ні веры, але мой выпадак стаў для мяне шчаслівым.

У 1980 годзе, калі мне пашчасціла ведаць яго, ён (у свае 66) быў маладым пастырам сваёй састарэлай паствы. Ён сапраўды быў поўны шчасця і маладой энергіі, як жаваранак, выпушчаны з клеткі ў неба... Ды і пражыў у той час, як мы цяпер ведаем, усяго толькі дзве трэція свайго зямнога веку. Ну ведалі мы, што ён адсядзеў дзесяць гадоў, — зразумела, што ў лагерах не піянерскіх здароўя, пэўна ж, не дадавалася... Ці мала хто сядзеў у краіне пераможнага сацыялізму...

З кім можна было параўнаць яго? Ён быў першым каталіцкім святаром, якога я ведаў. І доўга

— адзіным. Параўнаць яго не было з кім. Але планка аказалася вельмі высокай, недасягальнай, як пераканаўся пазней...

Нецярпімы да лайдакоў і невукаў, актыўны, дзейны, рэзкі, энергічны, ён быў напоўнены схаванай дабрынёю, нейкай паэтычнай рассеянасцю, любоўю да дзяцей, жывёлаў і раслінаў.

Ён быў чалавекам дзеяння, і думка ягоная заўсёды была яснаю і зразумелаю. І сам ён быў вельмі ясны і цэласны.

А тады фон быў такі: у багне брэжнеўскага застою канчаткова разбураліся «зачыненыя» цэрквы і касцёлы. Хрушчоўскі «пілотны праект» выкаранення веры ў Бога ў БССР павінен быў завяршыцца цалкам натуральна: старыя рана ці позна памруць, знявечаныя храмы разбурацца самі па сабе — справа будзе рухацца акрэсленым партыяй курсам. Чыноўнікі ад культуры мірна драмалі, закалыханыя просценькім матывам: за мяне ўжо ўсё вырашылі, мяне ніхто не пытаецца, а таму я ні ў чым не вінаваты, не магу быць вінаватым.


Ксёндз прэлат Казімір Свёнтэк. Пінская катэдра. 1980-я гг.

Разбураючы святыні ў імкненні разбураць веру, яны нішчылі культуру, якая стагоддзямі жыла ў сценах цэркваў і касцёлаў. Магчыма, у гэтым і была задача работнікаў культуры — знішчыць частку культуры. Але ў іх была і праблема. Праблема называлася ксёндз Казімір Свёнтэк.

...Ксёндз хвацка раскатваў на матацыкле (пакуль касцёльныя бабулі, занепакоеныя дзіцячаю зухаватасцю ваджэння, звязанаю з рызыкаю для здароўя любімага ксяндза, не адабралі матацыкл) і рэгулярна наведваўся ў аддзел культуры, дзе сумавалі чыноўнікі. Ксёндз прысаромліваў іх за бясчынствы ў горадзе і ваколіцах у адносінах да помнікаў гісторыі і культуры. Ён змагаўся з іх коснасцю, баязлівасцю, бяздушнасцю, бо «няма рыцарскага і вартаснага жыцця без ведання пра д'яблаў і дэманаў і без няспыннай барацьбы з імі», як напісана ў адной разумнай кніжцы. Ён дамагаўся дазволу зрабіць у сваім касцёле памятную дошку з імёнамі святароў, якія загінулі ў час вайны. Чыноўнікі ж павінны былі разабрацца, ці вартыя вечнай памяці ксяндзы-ахвяры фашызму, і лічылі, што для высвятлення гэтага і ім дадзеная вечнасць, тым больш што ў ахвярах маглі апынуцца і забітыя камуністамі. На «служыцеля культу», двойчы асуджанага ўладаю, якой яны служылі (да таго ж нерэабілітаванага), апаратчыкі выканкама ўглядаліся, як на прарока Ёну пасля яго прабывання ў чэраве кіта марскога, калі Бог паказаў Ёну «ацалелым усім існым». Ксёндз жа глядзеў на чыноўнікаў як на тых, хто «не можа адрозніць правую руку ад левай». Чым яны, не здолеўшыя да канца сваіх дзён атрэсціся ад страху крывавай сталіншчыны і хрушчоўскіх эксперыментаў, маглі напалохаць пужанага? «Да асновы гор я сышоў, зямля сваімі замкамі навек загарадзіла мяне; але Ты, Пане Божа мой, душу маю вывеў з пекла», — так мог бы адказаць ім ксёндз. Аднак яму не пасавала роля місіянера ў чыноўніцкіх норах. Ён збіраў з парафіянамі мох у пінскіх балотах, каб ставіць на мох чарапіцу.

Ён крыў дах свайго старажытнага касцёла новаю чарапіцаю. Кожная чарапічка была акуратна прывязана спецыяльным дроцікам, і ксёндз, як узрадаванае дзіця, падрабязна расказваў пра гэта, а тым часам... вароны выцягвалі мох з-пад чарапіцы. Гэта была яго праблема. І ксёндз вырашыў яе, спілаваўшы ў двары касцёла агромністыя ліпы. Заадно назапасіў драўніну для рэстаўрацыі скульптураў у разьбяных алтарах. На будучыню. І, як бы саромеючыся сваёй дзіцячай захопленасці, нібыта абыякава махаў рукою, кажучы: «Ну, гэта так і між іншым...»

Неяк заўсёды ўсё ў яго выходзіла складна і адно дапамагала другому...

...Я памятаю той час. Экспедыцыйны аўтобус Дзяржаўнага музея калясіў па прасёлках Беларусі ў пошуках ацалелых комплексаў мастацтва, і я на свае вочы бачыў сляды жахлівага варварства. Быццам прайшло нейкае бязглуздае, страшнае жніво, а музейшчыкі з дазволу ўладаў услед за ім збіралі вар-



Падчас першай святой Імшы ў вернутай католікам мінскай архікатэдры. 1994 г.

тыя жалю «каласкі» — іконы і алтарныя абразы, не знойдзеныя актывістамі-атэістамі на гарышчах і ў падвалах разбураных святыняў. Тады я неаднойчы думаў пра тое, як трэба мала часу, каб знішчыць тысячагадовую культуру і нават сцерці памяць пра яе ў людзях. Памятаю той настрой, з якім я ўпершыню ўвайшоў у касцёл, акунуўшыся ў незабыўныя клубы катэдральных прыцемкаў, у прахалоду, пранізаную гуллівымі слупамі святла, стаў пад напружана выгнутае скляпенне, што змушала падняць галаву і ўбачыць скульптурную выяву цуда на гары Альверна ў Апенінах, якое здарылася ў 1224 годзе...

Потым пачалася праца, якая доўжылася шэсць летніх сезонаў. І настрой памірання святыні паступова знікаў, хоць на службу ў вялікі касцёл прыходзіла каля дзесяці бабулек (праўда, на святы касцёл быў поўны). Паступова мы «заражаліся» вераю і справаю ксяндза Казіміра.

Якое шчасце было працаваць з ім,ператвараць у жыццё яго задуму, яго ідэю! Можна было быць пэўным, што ён без доўгіх дэбатаў зразумее і прынцыпы, і тэорыі, і супярэчнасці навуковай рэстаўрацыі і разам з табою парадуецца добра зробленай працы. Хацелася зрабіць гэтак, каб убачыць, як яго твар асвятліцца дзіцячаю ўсмешкай, і, усклікнуўшы «выдатна!», ён рэзка развернецца на пятцы і памкнецца кудысьці па справах або проста, каб застацца на адзіноце... магчыма, узнесці малітву падзякі Панне Марыі.



Святая Імша на Божае Нараджэнне каля мінскай архікатэдры, у якой знаходзіўся Дом фізкультуры. 1993 г.

Мы працавалі, не зважаючы на чыноўніцкія перашкоды і забароны, абароненыя яго малітваю. Працавалі ўпэўнена, спакойна і радасна, быццам частка Божага благаслаўлення і поспеху, падараваных небам яму, перападала і нам, яго супрацоўнікам. Аднак непрафесіяналізму ён не дароўваў: крыўдзіўся і злаваўся, як падманутае дзіця... Мы ведалі — аднавіць страчаны давер будзе немагчыма. І стараліся ад душы. Галоўнае для яго станавілася галоўным і для нас.

...Кожную раніцу гулка ссоўваліся прыдзверныя краты, разносіўся гук імкліва-палётнага поступу — і благаслаўлёная цішыня, настоеная на водарах язміну і ладану, накрывала з галавою. Стоячы на рыштаваннях, рэстаўратар перапыняў сваю павольную працу і, заміраючы ў пашане, баяўся парушыць цішыню недарэчным рыпеннем дошкі пад нагою. Цішыню, у якой здзяйснялася малітва ў капліцы Маці Божай Вастрабрамскай.

Хто мог тады здагадацца, што капліца, пабudаваная паводле абяцання ацалелага лагернага вязня, служыць яшчэ і пахавальняй, у сцяну якой умураваная труна з целам біскупа Лазінскага. Гэта была таямніца. Я не ведаў пра гэта, і гэтага быццам і не было.

Я не ўмеў маліцца і не ведаў, пра што ён моліцца перад Міласэрнай Маці, але ўсёю істотаю далу-



Кардынал Казімір Свёнтэк з будаўнікамі-рэстаўратарамі падчас аднаўлення мінскай архікатэдры. 1997 г.

чаўся да яго малітвы, усёю сваёю сутнасцю растваpаючыся ў той сакрамэнтальнай цішыні...

Дворык, агароджаны каменнаю сцяною з нішамі, належаў касцёлу. Але адзін з кляштарных фасадаў, злучаны з фасадам касцёла і звернуты ўнутр двара, быў у той час уласнасцю Міністэрства абароны. Яго вокны былі шчыльна закладзеныя цэглай. Прыгожы, як барочная цацка, фасад выглядаў аслепленым.

— Калі-небудзь я расчыню гэтыя вокны, — сказаў ён.

Я паглядзеў на яго з недаверам: відаць, жартуе — ён можа так пажартаваць.

Застойная ўлада тады здавалася непахіснаю, вечнаю, і штаб навучальнага цэнтра ВМФ СССР разам з клубам афіцэраў размяшчаўся ў кляштары францішканаў. У іншы час там жылі і навучаліся юнакі семінарыі, якую ў 1939 годзе скончыў 25-гадовы Казімір Свёнтэк. А сёння, дзякуючы волі і энергіі кардынала Казіміра Свёнтка, там зноў працуе духоўная семінарыя, у якой навучаюцца будучыя беларускія святары. І некалі аслеплены фасад помніка архітэктуры, гісторыі і культуры цяпер глядзіць у будучыню.

...Не пытайся пра веру, а прыглядайся да ўчынкаў — аднойчы вычытаўшы гэтую параду, я пачаў прыглядацца, шукаючы якія-небудзь дзівацтвы, асаблівасці нават у знешнім — у абліччы, паходцы, жэстах, манеры гаварыць, тэмбры голасу. Але хутка я зразумеў, што галоўнае не ў гэтым. Галоўнае — гэта беззапаветнае (як казалі бальшавікі) служэнне звышасабістым задачам. Для такога чалавека як кс. Казімір асабістым мог быць галаўны боль ці якая-небудзь фізічная хвароба, якую ён пераадольваў самастойна, таму што... А чаму? Мною кіраваў нават не пошук праўды, а хутчэй простая цікаўнасць. Я прыглядаўся да тых, чыё не зразумелае мне духоўнае жыццё дазваляла ім (я адчуваў гэта) інакш бачыць людзей, жывёлаў, расліны. Я намагаўся спасцігнуць сутнасць прыгажосці твораў чалавечых рук, зробленых з вераю стагоддзі назад, і з дня ў дзень назіраў за людзьмі, для якіх Асоба Хрыста служыла мадэллю паводзінаў, але... тады свет пачуццяў і думак Плінія Малодшага быў мне значна бліжэй, чым свет парафіянаў пінскага касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і іх пробашча...

А потым была рэстаўрацыя архікатэдральнага касцёла ў Мінску. Ужо не ў спартзале, але яшчэ не ў касцёле каталікі маліліся пад першым ярусам будаўнічых рыштаванняў. У адроджаным ксяндзом кардыналам Казімірам Свёнткам касцёле я прыняў хрост...

Але чаму жыццё, напоўненае Божым Провідам, завяршылася такім невыносным болем? Хіба мала было ў ім фізічных паку-



Рэкансэкрацыя касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Пружанах, дзе кардынал Казімір Свёнтэк у 1939 годзе быў вікарыем. 14 верасня 1998 г.



Яны захавалі скарб веры...

таў? Можа, Бог хацеў сказаць, што перажытае ў чаканні смерці, на допытах і ў лагерах не было такім невыносным?

Бясспрэчна, Бог любіў яго і даў доўгае жыццё, насычанае зместам, здзейсненымі задумамі і справамі, але... і Самага Найлепшага Пан Бог таксама любіў і ўсё ж не пранёс міма Яго чашу, хоць Ён і маліў, каб пранёс. Не абмінуў...

А можа, чалавек, які вычарпаў сваю волю на пераадоленне пакутаў, памёр у нясцерпным болю для таго, каб нам было куды «ўкласці свае пальцы»? Так, ён вычарпаў менавіта волю, бо якія ж былі сілы ў фізічна зламанага векавога старца? А можа, гэта было тое «часовае лёгкае цярпенне», якое «дае нам бязмернае багацце вечнай славы» (пар. 2 Кар 4, 17)...

«Прыманне любой рэчаіснасці, чуванне на краі ўсіх безданяў і прорваў — дабрадзейнасць усіх рыцараў і святых — з набліжэннем смерці толькі павялічваецца», — так лічыў Г. Гессэ. Аднак...

...Хіба ж не было б справядлівым свята старасці і адыходу — ціхае і светлае, з усмешкаю споўненага шчасця і споўненага жыцця? Чаму спатрэбілася (мяне не пакідае гэта пытанне), каб нямогламу старому чалавеку было гэтак нясцерпна балюча, каб ён, ужо ў які раз і цяпер у апошні, перажыў... не, ужо не перажыў, як раней... Памёр.

Усё той жа садок — толькі дрэвы сталі большымі і не адчуваецца гаспадарскай рукі. А былы ксёндз стаў ксяндзом кардыналам, камандорам ордэну ганаровага легіёну, і яму ўжо не выйсці раніцаю ва ўзгадаваны, успешчаны ўласнымі рукамі садок, не працаваць на світанку, не размаўляць з кветкамі, з пералётнымі птушкамі, з жучкамі-павучкамі і жабкамі, з такімі непераможна-цэпкімі ў прагненні да жыцця сорнымі травамі, якія заўсёды здзіўлялі сваёй невытрутнасцю, як і культурныя расліны здзіўлялі няздольнасцю выжыць без дагляду чалавека. Не гаварыць са сваімі ціхмянымі карасямі... Не глядзець на камень у альпійскай горцы — надмагільны граніт, падрыхтаваны для сябе самога гадоў сорак назад.

Яму было прыгатавана месца ў крыпце галоўнага ў яго жыцці касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі... А Слуга Божы біскуп Лазінскі нават і не думаў, што будзе спачываць вечным сном побач з кардыналам — былым юнаком, якога ён некалі пасвяціў у рыцара веры, благаславіў на святое служэнне... Цяпер яны побач назаўсёды.

...Напэўна, яго абавязкі даўно ўжо не прыносілі радасці і высокай пашаны, а былі хутчэй цяжарам, неабходнаю працаю, для выканання якой яму трэба было неяк сабраць, мабілізаваць, стымуляваць самога сябе, пераканаць і настроіць.

...Ад касцёла да касцёла, з канца ў канец Беларусі, у спёку і ў холад — у дарозе. Аўтамабіль, вядома ж, не самае зручнае месца для адпачынку... Дзе ён браў сілы і цярплівасць для сваіх доўгіх паездак, для спаўнення службы ў самых розных месцах, для кантактаў з людзьмі, для выхавання маладых пастыраў, для бясконцага будаўніцтва і бясконцага здабывання грошай, якія ўсім патрэбныя і не для таго прыдуманыя, каб іх проста дарылі ці раздавалі. Як ён знаходзіў заўсёды жывыя словы, якія кранаці душы, падтрымлівалі і напаўнялі годнасцю...

Далёка засталіся і паляванне, і любімая рыбалка, і начлегі ў стозе сена, і лодка на Ясельдзе даўным-даўно спарахнела...

Ніколі не ўспрымаў яго як старога. Калі бачыў яго, заўсёды ўспамінаў — «будзьце як дзеці», і сам сабе побач з ім здаваўся старэйшым... Вельмі хацелася б спасцігнуць гэта глыбей, чым мне ўдаецца, і пра гэта я таксама малюся...

І няхай застанецца ўва мне назаўсёды радасная, як дзіцячая ўсмешка, светлая памяць пра яго...

*Аркадзь Шпунт,*
*рэстаўратар, Мінск.*

# На Божую хвалу

Першую сустрэчу з кардыналам Казімірам Свёнткам я памятаю вельмі добра — гэта было вясною 1999 года ў Фрайзінгу. Напэўна, яму было цікава, хто прыйдзе ў «Renovabis» на пасаду, якая і цяпер мае вялікае значэнне для Касцёла на Беларусі, а ў той час адыгрывала асаблівую ролю для перспектываў яго развіцця. Падчас сустрэчы з кардыналам я адразу перапрасіў за тое, што не ведаю добра рускай мовы і павінен буду размаўляць па-польску, на што ксёндз кардынал сказаў: «Ах, дзякуй Богу!..» І моцна засмяяўся. Я здзівіўся: «Як гэта, „дзякуй Богу“?» Але потым зразумеў: тое, што я гаварыў на польскай мове, азначала большую ступень даверу і больш блізкую сувязь. Магу адразу сказаць, што з ксяндзом кардыналам Свёнткам мы мелі вялікую ўзаемную сімпатыю. Да сённяшняга дня ён з’яўляецца для мяне непараўнальным аўтарытэтам, калі гаварыць пра яго асобу і сведчанне яго жыцця. Але былі таксама канкрэтныя прафесійныя справы, канкрэтныя рашэнні, у адносінах да якіх мы мелі розныя погляды. <...>

Калі гаварыць пра асобу кардынала, то ў першую чаргу звяртала на сябе ўвагу яго прастата. Ён нічога не хацеў і не браў для сябе. Розныя цырымоніі, знешнія адзнакі, арнаты, нават кардынальскі персцень яму самому не былі патрэбныя — яны павінны былі служыць толькі на хвалу Божую. Ён хацеў жыць у простым памяшканні і нават рэзідэнцыю біскупаў у Пінску будаваў для свайго наступніка, а не для сябе і сваіх выгодаў. Выгоды не рабілі на яго ніякага ўражання. Ён не быў чалавекам з амбіцыямі, ён сапраўды хацеў служыць толькі Богу — ад пачатку і да канца.

Многія могуць засведчыць, што кардынал моцна клапаціўся пра дабро Касцёла, менавіта пра яго адбудову і аднаўленне. Гэты досвед ён атрымаў падчас вяртання незалежнасці Польшчы. Наш нямецкі досвед быў для яго заўсёды амбівалентны, бо, з аднаго боку, немцы маюць шмат цікавага вопыту ў адукацыі і дзейнасці свецкіх, якія могуць на высокім узроўні супрацоўнічаць са святарамі, а з другога боку, кардынал не вельмі хацеў, каб людзі звонку ўмешваліся ў справы ўнутраныя. Для яго важна было, каб не пусцелі касцёлы. Памятаю, як у Галандыі кардынал увайшоў у нейкі касцёл, дзе была толькі прыбіральшчыца. Ксёндз кардынал не мог знайсці ў гэтым касцёле канфесіянал і спытаў у яе. Жанчына яго не зразумела, тады ён растлумачыў ёй, як выглядае канфесіянал, для чаго ён прызначаны, але суразмоўніца ўсё роўна яго не зразумела. І толькі праз некаторы час жанчына здагадалася, пра што ідзе гаворка, і сказала: «Ах, здаецца, я крыху разумею. Так, у Сярэднявеччы ён павінен быў быць дзесьці тут, але цяпер ён нам ужо не патрэбны». Відавочна, для кардынала гэта быў вялікі шок. Але ён разумеў такую сітуацыю, бо калі ў Польшчы ў кожнай парафіі ёсць пробашч і пяць вікарыяў, то канфесіянал падчас Імшы выкарыстоўваецца, а калі ў Германіі на пяць парафій толькі адзін пробашч, то канфесіянал не патрэбны, бо вернік заўсёды можа дамовіцца пра грунтоўную асабістую размову са святаром, і тады ў яго за спіною не стаіць у чарзе пятнаццаць чалавек, якія хочуць паспавядацца перад святой Камуніяй. Ксёндз кардынал быў адкрыты на розніцу ў досведзе і культуры, відавочна, ён меў свае ўяўленні і погляды на гэта, але не глядзеў з пагардаю на людзей з іншым досведам і іншымі традыцыямі.



Доктар Герхард Альберт, кардынал Казімір Свёнтэк і Марцін Бюшэрмёле. 2003 г.

Калі я пазнаёміўся з кардыналам, яму было ўжо больш за 80 гадоў. Нягледзячы на гэта, ён увесь час вучыўся, шмат чытаў,

глыбей вывучаў нямецкую мову і авалодаў ёю ўжо настолькі, што пры неабходнасці з ім можна было паразумецца па-нямецку.

Нельга сказаць, што ён ахвотна прымаў парады і заўвагі, але гэта была праблема ў большай ступені пратакольная. Не ведаю, ці зразумеў ён да канца, што для мяне азначала тое, як я заўсёды вітаўся з ім. Адчувалася, што ён не вельмі любіў, калі яму цалавалі персцень, — для яго гэта была цырыманіяльная празмернасць. Не любіў таксама, калі людзі спрабавалі цалаваць яму руку. Я ж яго па-сяброўску абдымаў, і гэта было для мяне найвышэйшым праяўленнем павагі, а не жадання стаць на адным узроўні з ім. Таму для мяне быў балючы той перыяд, які працягваўся больш за два гады, калі ксёндз кардынал не хацеў мяне бачыць, бо злаваўся на мяне: справа была ў розных поглядах на праект, звязаны з выданнем Імшала, але цяпер гэта ўжо дэталі...

Увогуле, калі ён аб чымсьці прасіў, то быў шчырым, канкрэтным, адкрытым. Я таксама заўсёды казаў яму, калі не разумеў або не мог прыняць некаторыя рэчы. Напрыклад, «Renovabis» прапаноўваў наладзіць для ўсіх святароў з чарнобыльскага рэгіёна медыцынскае абследаванне і побыт у санаторыях, найлепш у Польшчы, бо большасць святароў паходзіла менавіта адтуль. Такім чынам мы імкнуліся не проста дапамагчы, але і выявіць сваё прызнанне цяжкай святарскай працы ў тых асаблівых умовах, дзе святары, як і мясцовыя жыхары, мусілі цярпець і даваць сведчанне свайго жыцця. Ксёндз кардынал адказаў мне, што вельмі хацеў бы, каб гэтая задума ажыццявілася, але нікога не можа знайсці на месца гэтых святароў, калі яны з'едуць. Я не разумеў, як святары, што прысягалі паслушэнства кардыналу, не маглі па яго просьбе прыехаць у тое ці іншае месца, каб даць магчымасць іншаму адправіцца на лячэнне. Для мяне гэта было балюча, для кардынала — таксама. Яму балела і тое, што нават староннi чалавек мог заўважыць гэтыя недахопы і праблемы.



Марцін Бюшэрмёле і доктар Герхард Альберт з біскупамі Беларусі. 2003 г.

Ксёндз кардынал неаднойчы бываў у «Renovabis» і ў такой вось цудоўнай форме прадстаўляў праекты: маўляў, хутка я памру, напэўна, гэта ўжо апошняе хадайніцтва, а ў апошняй просьбе адмаўляць не выпадае... І так штогод звяртаўся да нас з «апошнімі» просьбамі. Але ён рабіў гэта з імкненнем яшчэ штосьці здзейсніць у сваім жыцці, штосьці, можа, завяршыць, як найлепш выканаць сваю місію.

Я цешуся, што меў магчымасць наведаць кардынала ў Мінску ў шпіталі год таму. Гэта быў мой апошні кантакт з ім, і мне здавалася, што ён яшчэ поўны энергіі і не паддасца хваробе...

Кардынал быў таксама адкрыты на экуменізм. Ён не ўспрымаў гэта як сваю асаблівую місію, але і не «замкнуў» перад экуменічным рухам ніводных дзвярэй, заўсёды даючы «Renovabis» зялёнае святло, каб рэалізоўваць праекты і з праваслаўнага боку. Думаю, жыццё паказала яму, што Праваслаўная Царква таксама вельмі шмат цярпела ў часы пераследаванняў, у складаных умовах яна знаходзіцца і сёння. Кардынал згадваў, што беларускія людзі яшчэ з'яўляюцца «homo soveticus» — у тым ліку і святары, і нават ён сам. Я думаю, што гэта было таксама праяўленнем пакоры: чалавеку нялёгка змяняцца і адаптавацца ў новых рэаліях.

Кардынал вельмі моцна давяраў «Renovabis», у адрозненне ад многіх іншых разумеў, што ў «Renovabis» не проста можна ўзяць пэўныя сродкі і распараджацца імі, але трэба супольна з яго прадстаўнікамі абмяркаваць і падрыхтаваць праект. Ёсць, праўда, і шмат бюракратыі, звязанай з гэтым, але ксёндз кардынал верыў, што гэта апраўдана, бо спрыяе таму, каб сродкі былі выкарыстаныя як найлепш.

Кардынал быў тым чалавекам, які меў бязмежны давер да

Пана Бога і моцна верыў у справядлівасць Божага Провіду. Ён нават не стараўся знаходзіць якія-небудзь кампрамісы і ладзіць «гандаль» з уладамі. Ён хацеў, каб Касцёл меў пэўную аўтаномію, бо Касцёл не з'яўляецца ўнутранаю справаю Беларусі, а мае паўсюдны характар. <...>

Апошнія пяць-шэсць гадоў мне здаралася назіраць, што ксёндз кардынал часам занадта давяраў людзям. Ён быў настолькі дабрадушны, настолькі праўдзівы, што нават не мог сабе ўявіць, што хтосьці гаворыць яму хлусню. Здаралася так, што ён станавіўся ахвяраю інтрыгаў, бо не меў механізму абароны супраць людской маны. <...>

У апошнія гады, калі ксёндз кардынал быў пастырам толькі Пінскай дыяцэзіі, я заўважыў, што ён нібы ажыў: аб'ехаў усе парафіі, нават па-за візітацыямі, паразмаўляў са святарамі. Сфера яго служэння зменшылася, таму кардынал мог больш поўна ахапіць яе. Два-тры разы мы сустракаліся з ім у Пінску і размаўлялі пра канкрэтныя праекты. Кардынал Свёнтэк у гэтым сэнсе даваў вялікае сведчанне, ён меў вялікі аўтарытэт у беларускім епіскапаце і сачыў за тым, каб ахвяраваныя сродкі былі выкарыстаныя найбольш эфектыўна, згодна з інтэнцыямі ахвярадаўцаў.

Былі некаторыя рэчы, за якія я крыўдаваў на ксяндза кардынала і якія бачыў па-іншаму. Так, сясцёр законных ён успрымаў як тых, хто павінен служыць, але не як тых, хто гэтак жа, як і людзі свецкія, могуць быць раўнапраўнымі членамі Цела Хрыста. Такое разуменне ў сваю чаргу звязана з тэалогіяй: Касцёл — гэта не толькі ахвяра Хрыста на крыжы, гэта таксама Цела Хрыста, і ўсе мы з'яўляемся яго членамі, а Хрыстус — Галавою. Гэта, можа, крыху навейшы падыход. Зрэшты, мы абвяшчаем такое эклезіяльнае разуменне ў Каталіцкім Касцёле для таго, каб мець магчымасць лепш яго рэалізаваць. Прашу не ўспрымаць гэта як дакор у адносінах да ксяндза кардынала, але проста былі пытанні, у якіх нашыя погляды разыходзіліся. Ён папракаў мяне за тое, што я ўзяўся за ўтварэнне прафесійнага саюзу сясцёр і сказаў яму, што хацеў бы, каб яны мелі больш самастойную арганізацыю, маглі атрымліваць у сваё распараджэнне грошы ад «Renovabis» на занаванне школаў, на выезды за мяжу, на розныя ўнутраныя праграмы. Праўда, ксёндз кардынал і не забараняў гэтага, бо мы праводзілі такія душпастырскія праграмы праз душпастырскія бюро, ён ведаў пра гэта, атрымліваў справаздачы. Проста адрозніваліся нашыя падыходы і нашае разуменне гэтае справы. Можа, з-за таго, што я маю асаблівую сімпатыю да сясцёр. Думаю, калі б не жанчыны, то мы ўвогуле не даведаліся б, што Хрыстус уваскрос. І калі б не сёстры законныя — ва ўкрытых і адкрытых законах — то, думаю, Касцёл не перажыў бы пераследу мінулага стагоддзя. Таму мы шмат чым абавязаныя менавіта ахвярнасці сясцёр. Гэта яшчэ адзін прыклад таго, у чым нашыя з кардыналам погляды разыходзіліся, калі гаварыць аб прыярытэтах. Кампраміс не быў яго моцным бокам, і менавіта таму, што ксёндз кардынал быў вельмі проста і канкрэтна мыслячым чалавекам. Ён меў канкрэтныя погляды, канкрэтныя прынцыпы і трымаўся іх, верачы, што Пан Бог выправіць тое, што мы сапсуем з-за нашай людской недасканаласці. <...>

Дарэчы, фотаздымак ксяндза кардынала заўсёды стаяў на маім пісьмовым стале ў «Renovabis». Гэта быў адзіны біскуп, за жыццём якога я ўважліва сачыў. Я часта разважаў над тым, што ён перажыў, якім чынам ён змог сфармаваць структуры Касцёла на Беларусі. Бачу, што сёння маладыя людзі ўсё менш здольныя ацаніць гэтыя ўрокі гісторыі, гэты досвед. Цяпер, калі веданне гісторыі абмяжоўваецца «забіваннем» тэрміну ў «Гугл», можна знайсці пэўныя гістарычныя даты, пэўныя кароткія рэкамендацыі, але складана мець цэласнае разуменне гісторыі. А чалавек, які пражыў амаль сто гадоў і сапраўды яшчэ памятаў іншыя часы, калі само жыццё мела іншую вартасць, калі перад чалавекам ставіліся іншыя вымаганні, чым сёння, — гэта скарб. Яго перажыванні, жыццёвы досвед выявілі мудрасць не імкнуцца да кароткачасовых эфектаў.

Мне застаецца падзякаваць Пану Богу за тое, што я меў магчымасць у сваёй прафесійнай дзейнасці супрацоўнічаць з кардыналам Казімірам Свёнткам. Ён сапраўды быў для мяне вялікім аўтарытэтам — кажучы гэта, я маю на ўвазе перш за ўсё не справы «Renovabis», а маё асабістае стаўленне да яго. Дзякую Богу за тое, што я меў магчымасць сустракацца з ім і пераняць ад яго крыху жыццёвай мудрасці.

*Марцін Бюшэрмёле,*
*тэолаг, «Renovabis».*

# Ліст у вечнасць

Ваша Эмінэнцыя, шаноўны і дарагі ойча!

Мне аніяк не хочацца звяртацца да Вас у мінулым часе — мне ўсё яшчэ здаецца, што Вы зусім ненадоўга паехалі ў сваю службовую вандроўку... Можа, у Вечны Горад, і ад Вас неўзабаве прыйдзе прыгожая паштоўка з начным Рымам і радасным паведамленнем пра нядаўнюю сустрэчу з Папам...

А, можа, Вы цяпер у Каліфорніі і пасля, вярнуўшыся, распавядзеце нам гісторыю пра тое, як Вас пасялілі ў шыкоўным біскупскім палацы пасярод апельсінавага саду. Раніцою Вы з ружанцам выйшлі ў двор, а там — апельсіны, спелыя, вялікія, падаюць проста Вам пад ногі. І птушкі, раней нябачаныя, рознакаляровыя, шчабечуць і пырхаюць на дрэвах. І Вам здалося, што Вы апынуліся ў раі... А калі падчас абеду гаспадары спыталі, ці падабаецца Вам у іх, Вы з прытоенаю ўсмешкаю адказалі, што... зусім не падабаецца. І яны ажно анямелі ад здзіўлення. А Вы, вытрымаўшы паўзу, пацвердзілі: «Не падабаецца, бо паміраць тут было б вельмі цяжка — шкада было б пакідаць такую прыгажосць...» І тады ўсе за сталом з палёгкаю ўздыхнулі і засмяяліся, ацаніўшы і Вашу дасціпнасць, і Ваш гумар, і Вашу шчырасць...

Мы так любілі слухаць Вашы гісторыі, Эмінэнцыя. Вы — цудоўны апавядальнік, і ў Вас выдатнае пачуццё гумару і такая тонкая іронія...

Дарэчы, я ўсё хацела ў Вас перапытаць пра адну гісторыю з Вашага маленства. Памятаеце, Вы распавядалі, як мама пасылала Вас, малога хлопчыка, на вакзал прадаваць яблыкі. Вы прыбягалі на перон, калі прыходзіў цягнік, і прапаноўвалі пасажырам яблыкі. Часцей за ўсё яны іх куплялі, і Вы вярталіся дадому шчаслівы, з выручанымі грошыкамі. Але бывала, што яблыкі заставаліся і трэба было чакаць наступнага цягніка... А яны, тыя яблыкі, былі такія прыгожыя, чырвонабокія, духмяныя... І аднаго разу Вы не ўтрымаліся: акуратненька надкусілі самы большы яблык, ці, дакладней, толькі крышачку смактанулі ягонага соку, так, каб не было нават заўважна... А пасля Вы ішлі з тымі яблыкамі дадому і не ведалі, як пра ўсё сказаць маме, як прызнацца ў сваім «злачынстве»... Тады, калі Вы нам гэта распавядалі, мы ўсе разам весела смяяліся. А цяпер мне чамусьці да слёз шкада таго малога светлагаловага хлопчыка... Тым больш, што ўжо ведаю ад Вас, якое было Вашае жыццё: «з дзяцінства, а таксама ў школьныя і юнацкія гады яно праходзіла ў беднасці. А часта — у крайнім убостве, бо не хапала нават хлеба»...


Кардынал Казімір Свёнтэк з Крыстынай Лялько падчас святкавання 90-гадовага юбілею Яго Эмінэнцыі. 2004 г.

Мы ўсё збіраліся зрабіць з Вамі вялікае інтэрв'ю, дакладней, проста запісаць Ваш аповед пра ўсё Вашае доўгае, «прысвечанае Богу і Касцёлу жыццё». Але так і не дабралі часу. А гэта ж такая вялікая несправядлівасць, што Ваш такі незвычайны, багаты і непаўторны свет пайшоў ад нас назаўсёды, і многія цікавыя эпізоды і гісторыі, якія ведалі толькі Вы, ужо ніхто нам не зможа распавесці...

Не, пакуль што я аніяк не магу з гэтым змірыцца, не магу пазбыцца адчування пякучай і непапраўна-запозненай віны перад Вамі... Мы шмат чаго не паспелі, Эмінэнцыя. Не паспелі нават як след падзякаваць Вам за Ваш давер, за Вашае ра-



Кардынал Казімір Свёнтэк са святарамі і супрацоўнікамі выдавецтва «Pro Christo» на адкрыцці кнігарні «Духоўная кніга». Мінск, лістапад 2005 г.

зуменне ўсяе гэтай справы з нашымі выданнямі. Памятаеце, як на пачатку 1995 года мы прыйшлі да Вас з ідэяй выдаваць каталіцкі квартальнік для інтэлігенцыі... Тады толькі-толькі пачаў выходзіць наш часопіс «Ave Maria», які друкаваўся на шэрай брыдкай паперы... А Вы нас выслухалі і далі сваё пастырскае благаслаўленне. Хоць і без дыскусій тады не абыходзілася: час быў такі — складаны, цяжкі. Вы нам часта казалі: «Зразумейце, калі ласка, мне трэба муры касцёлаў падымаць з руінаў...» А мы Вам: «Глядзіце, каб муры потым пустыя не стаялі: людзям патрэбна каталіцкая прэса, літаратура духоўная патрэбна...» Спрачаліся мы з Вамі, Эмінэнцыя, часта сваё даводзілі... Прабачце нам, што назалялі і лезлі ў вочы са сваімі праблемамі. Але ж мы прыходзілі да Вас, як дзеці прыходзяць да бацькі — строгага, справядлівага і добрага. Дзякуй Вам, што далі нам адчуць шчасце быць Вашымі дзецьмі.

Мы Вас пабойваліся, Эмінэнцыя, але й моцна любілі і паважалі. Мы адчувалі, ведалі, што ў душы Вы — паэт, рамантык, а рэчаіснасць вакол жорсткая, жыццё — цяжкае. Лёс Вас ніколі не песціў — ні ў маленстве, ні ў маладосці, ні ў сталыя гады. Вы спаўна перажылі тую «дасканалую радасць», пра якую пісаў святы Францішак, гэта значыць — чым горш, тым лепш. Дарэчы, Вы любілі гэтага Асізскага Бедачыну. Памятаю, як казалі, што чытаеце кнігу пра яго, і захапляліся: «Вось хто не змарнаваў жыцця! Ды што там жыцця — не змарнаваў ніводнага дня, дадзенага Богам!» Я тады слухала Вас і не адважылася сказаць, што праз восем вякоў, ужо на нашай зямлі, Хрыстус знайшоў новага Францішка, дакладней, Казіміра, і скіраваў да яго свой заклік: «Ідзі, адбудуй Мой Касцёл!» І Вы, Эмінэнцыя, пачулі гэты заклік і таксама не змарнавалі ніводнага дня, аддаючы сябе дарэшты Богу і людзям... Добра сказаў Сяргей Аверынцаў, разважаючы пра Францішка Асізскага: «Святасць суцяшае, але менавіта таму, што вучыць не шукаць суцяшэння». Вы не шукалі суцяшэння ў гэтым матэрыяльным, прагматычным свеце, Эмінэнцыя, Вы самі былі для нас усіх суцяшэннем і прыкладам веры, яе непахісным абаронцам. І Вы таксама, як святы Францішак, усім сваім жыццём складалі гімны і ўбоству, і цярпенню, і гэтай прыгожай зямлі, якую пасля ўсіх ганенняў і пераследаў не захацелі пакінуць і прамяняць на спакойнае і выгоднае жыццё на чужыне; трывалі тут, з гэтым верным людам, да канца, да апошняга ўздыху...

Я ўсё згадваю нашу апошнюю сустрэчу з Вамі, Эмінэн-



На кніжнай выставе каля стэнда выдавецтва «Pro Christo» з народным паэтам Беларусі Нілам Гілевічам, пісьменнікамі Анатолем Бутэвічам і Крыстынай Лялько. 2005 г.

цыя, Ваша апошняе благаслаўленне... Мы тады прыехалі да Вас у Пінск 5 сакавіка, на другі дзень пасля Вашых імянінаў... Перад тым Вы вярнуліся з Любліна, пасля другой аперацыі. Было бачна, як Вам баліць нага, як Вы цярпіце. Але Вы, як і раней, мужна трымаліся, гаварылі пра справы Касцёла, пілі з намі моцную духмяную каву «па-кардынальску». І ўсё было, як заўсёды, у Вашым гасцінным дамку на Шаўчэнкі, 12. Нам здавалася, што цярпенне нейкім дзіўным чынам адмаладзіла і распраменіла Ваша аблічча: позірк Вашых светлых вачэй быў такі глыбокі і ясны, памяць па-ранейшаму чэпкая, а Ваш гумар і Вашыя жарты вярталі надзею, што ўсё будзе добра, што і на гэты раз Вы выйдзеце пераможцам. Гледзячы на Вас, хацелася сказаць за апосталам Паўлам: «Калі я слабы, тады я дужы». Вы заўжды былі дужы і моцны, Эмінэнцыя. І тады, калі падчас тае сакавіцкай сустрэчы загаварылі пра цярпенне... Не, Вы не называлі яго, як святая Фаўстына, «найвялікшым скарбам на зямлі», але Вы, гэтаксама як яна, казалі, што «яно ачышчае душу», што цярпенне дапамагло Вам «у фармаванні і крышталізацыі духу». Памятаю, як Вы ўзнялі вочы да Укрыжаванага Езуса на абразе над ложкам і сказалі: «Гляджу на гэты абраз і думаю пра тое, што Ён цярпеў боль, не параўнальны з маім, і таму мне наракаць не выпадае! А наша хрысціянская вера дапамагае зразумець сэнс цярпення і такім чынам прыняць яго...» Гэта былі словы, поўныя сыноўняй



Альбом «Fidei testis» у падарунак кардыналу ад выдавецтва «Pro Christo».

пакоры, надзеі і абсалютнага даверу Богу...

Мы тады не ведалі, Эмінэнцыя, якое выпрабаванне яшчэ чакае Вас наперадзе, не ўяўлялі нават, што праз два месяцы ўбачым Вас у пінскім шпіталі, сапраўды ўкрыжаванага болем, упадобненага да маўкліва цярпячага Хрыста, які ўвесь час дзяліўся з Вамі сваім крыжам, а напрыканцы жыцця аказаўся асабліва шчодрым... Але ж Ён ведае, з кім можа быць шчодрым...

І тады, стоячы каля Вашай Галготы і душачыся бяссільнымі слязьмі ды бессэнсоўнароспачнымі пытаннямі «за што» і «навошта», я пачула, здаецца, Ваш спакойны, разважлівы голас: «Для мяне неістотна, дзе выконваць свае абавязкі і Божую волю: ці ў камеры смяротнікаў, чакаючы выраку, ці, скажам, прымаючы з рук Папы знак кардынальскай годнасці. І ў адным, і ў другім выпадку — адно і тое ж выкананне Божай волі...» Ведаю, што калі б Вы маглі размаўляць тады, у шпіталі, то дадалі б: «І ў гэтым, трэцім выпадку, таксама».

Дзякуй, Вам, Эмінэнцыя, за той вялікі ўрок цярпення і пакоры... Дзякуй за прыклад Вашай моцнай веры і поўнага даверу Божай волі і Божаму Провіду...

**P. S.** Эмінэнцыя, калі я ўжо дапісала Вам гэтыя радкі, нечакана атрымала ліст ад свае праваслаўнай сяброўкі з Бельска. Недзе тыдзень таму гэтая светлая асоба гасціла на радзіме і забегла да нас у рэдакцыю. Мы тады размаўлялі з ёю пра Вас (мы ўсе вельмі часта Вас успамінаем), і я падаравала ёй прысвечаны Вам альбом, «Fidei testis». Яна яго адразу прачытала і тут жа даслала ліст. Не магу не працытаваць Вам некалькі радкоў з яго. Вось што яна піша: «І я цяпер ведаю, уяўляю сабе шлях незвычайнага чалавека і святара, на прысутнасць якога таксама абапіраюся. Гасанна! Якое шчасце, што ён быў дадзены Беларусі... Распачалося і маё „сумоўе“ ў духу з ім...»

Ваша Эмінэнцыя, Вы працягваеце жыць і служыць Хрысту і Яго справе тут, на нашай зямлі. Вы застаецеся, як і раней, з намі, побач, як шчыры сябра, добры айцец і пастыр.

Дзякуй Вам!

*Адна з Вашых духоўных дачок Крыстына Лялько.*

# Ён быў незвычайны




Кардынал Казімір Свёнтэк уручае галоўныя прызы першага фестывалю «Magnificat». 2004 г.

У асобе ксяндза кардынала я страціў чалавека, які для мяне стаў родным у прамым сэнсе гэтага слова. Першыя два гады, калі я здымаў кіно, кардынал... проста не заўважаў мяне. Я хоць і не крыўдаваў, але не мог зразумець, чаму ён так ставіцца да маёй працы. Праз некаторы час зразумеў, што кардынал, прайшоўшы праз жыццёвыя цяжкасці, магчыма, несвядома выпрацаваў у сабе звычку давяраць толькі тым людзям, якія былі ўжо «выпрабаваныя» ў адносінах з ім. Іншых людзей ён мог проста не заўважаць. І толькі праз два гады, калі мы з Аркадзем Шпунтам і Святланай Адамовіч знялі прысвечаную кардыналу кінастужку «Mater Misericordia» («Маці Міласэрнасці»), ён пачаў прыглядацца да мяне. Падчас працы над гэтым фільмам увогуле стварылася цікавая сітуацыя: калі ксёндз Казімір Свёнтэк стаў кардыналам, яму ўжо было больш за семдзесят гадоў, і калі Святлана з Аркадзем прыйшлі да яго з прапановаю здымаць стужку, кардынал адказаў: «Навошта гэта рабіць цяпер? Пачакайце крыху, можа мне ўжо няшмат засталося, і тады ўжо будзеце здымаць...» Але яны ўсё ж угаварылі Яго Эмінэнцыю на здымкі.

Калі пэўны чалавек ужо быў «выпрабаваны» кардыналам, то ў стасунках з ім ён станавіўся вельмі мяккім і душэўным, умеў праявіць свой гумар і распавесці якую-небудзь цікавую гісторыю. У такім выпадку перад табой нібы адкрываўся зусім іншы чалавек. І я зразумеў, што сталінскія лагеры, праз якія мусіў прайсці ксёндз кардынал, вельмі моцна змянялі людзей, можна нават сказаць выпрацоўвалі своеасаблівы тып людзей, якія маглі зрабіць усё для тых, каму давяралі, а іншых маглі проста ігнараваць.

Пасля быў зняты фільм «Вяртанне» пра гісторыю мінскага архікатэдральнага касцёла. А калі мы ўжо працавалі над стужкаю «Канікулы кардынала», Яго Эмінэнцыя размаўляў з намі вельмі раскавана і адкрыта. Нават святары падыходзілі да мяне і са здзіўленнем пыталі: «Як табе ўдалося зняць такі фільм пра кардынала? Як гэта ён расказаў табе пра свае дзіцячыя і юнацкія гады?». Нават яны ніколі не чулі ад Казіміра Свёнтка падобных аповедаў.

Я ведаў кардынала таксама як простага чалавека, які меў свае слабасці, свае захапленні і зацікаўленні. Напрыклад, у маладосці ён вельмі сур’ёзна захапляўся кіно. Аднойчы распавядаў мне, як сам рабіў здымкі. Гэта было вельмі складана з тэхнічнага боку: асобна выява і асобна гук... У гэтым сэнсе кардынал праводзіў вялізную эксперыментальную працу і ствараў далёка не аматарскае кіно. Напрыклад, цяпер я працую над фільмам пра вельмі вядомага польскага фатографа Зоф’ю Хаментоўскую, якая ў маладосці таксама здымала Палессе. Яе цікавілі мясцовая этнаграфія і самі палешукі. Але кардынал зазняў гэтую інфармацыю нашмат раней! Я бачыў яго фільмы пра жыхароў Палесся, пра палескія расліны і кветкі. Нават сучасныя беларускія этнаграфічныя музеі не маюць такога матэрыялу, які меў кардынал ужо ў тыя часы. Ён спецыяльна падбіраў музыку да сваіх фільмаў! Ён распавядаў мне, чаму для той ці іншай сцэны падыходзіць, напрыклад, музыка Шапэна альбо Грыга. Было відаць, што ксёндз кардынал цудоўна разбіраўся ў класічнай музыцы. У якасці дыктарскага тэксту ён чытаў вершы: для кветак падбіраў адны радкі, для здымкаў лесу — іншыя... Ман-

тажныя лісты ў яго распісаныя па кадрах. Гэта была сапраўдная рэжысёрская праца! І, дзякуй Богу, гэтыя матэрыялы захаваліся. Праўда, Яго Эмінэнцыя не дазваляў паказваць свае стужкі. Мне каштавала вялікіх намаганняў угаварыць кардынала паказаць яго фільм «Polesia czar» на фестывалі. Ён згадзіўся, але з умоваю, каб гэтая стужка потым нідзе не распаўсюджвалася.

Мне хацелася зняць пра Яго Эмінэнцыю чатыры карціны. Гэта ж быў адзіны кардынал у Беларусі, іерарх, які прайшоў такі складаны шлях! Таму, збіраючыся здымаць наступную стужку, я прапанаваў: «Ваша Эмінэнцыя, давайце зробім фільм пра Вас як пра простага чалавека». Спачатку ён нібы не пачуў маёй прапановы, прапусціў міма вушэй. Але праз некаторы час кажа: «Вось збіраюся з’ездзіць у Будслаў...» Сказаў нібы проста так, але ж я зразумеў, чаму ён мне пра гэта гаворыць, і спытаўся, ці можна будзе паехаць разам з ім. Кардынал згадзіўся. У Будслаў ён прыехаў з пані Барбарай, якая шмат дапамагала яму ў жыцці. Разам з кусташам Будслаўскага санктуарыя айцом Віктарам Бурлакам OFM ён цэлебраваў Імшу, на якой у касцёле прысутнічалі толькі тры вернікі. Затым ксёндз кардынал паехаў у Мосар, пахадзіў сярод кветак, пастаяў на мастку, разам з ксяндзом Юзафам Булькам схадзіў да крыніцы, і відаць было, што ён проста радуецца навакольнай прыгажосці... На наступны дзень ён запрасіў мяне ў свой пінскі дамок на вуліцы Шаўчэнкі. Там мы запісалі інтэрв’ю, у якім размаўлялі пра яго маму. Я яшчэ ніколі не чуў, каб дарослы мужчына гаварыў пра сваю маці так, як малое дзіця. Ён распавёў усё так, што я ўбачыў у ім зусім іншага чалавека! Гэты чацвёрты мой фільм пра кардынала атрымаў назву «Fidei testis». Цяпер я збіраюся здымаць яшчэ адну стужку, якая будзе прысвечана кардыналу і над сцэнарыем якой працуе вельмі таленавіты чалавек і рэстаўратар Аркадзь Шпунт.



Фільмы «Mater Misericordia», «Вяртанне» і «Канікулы кардынала» ў падарунак іх галоўнаму герою.



У капліцы Маці Божай Вастрабрамскай у Пінскай катэдры.

Адыход кардынала сапраўды стаў для Касцёла вялікаю стратаю. Цяжка нават параўнаць кардынала Казіміра Свёнтка з якой-небудзь іншай асобай XX стагоддзя, якая адыграла б такую важную ролю ў духоўным жыцці Беларусі.

*Юры Гарулёў, рэжысёр,*
*старшыня Асацыяцыі SIGNIS-Беларусь,*
*дырэктар студыі «СТОП-КАДР».*



# ЯГО ЖЫВОЕ АПОСТАЛЬСТВА

Я хацела б укленчыць перад Ім на споведзі... Прыняць з яго благаслаўлёных рук святую Камунію... Не давялося ні першага, ні другога... Бачыла блізка Кардынала падчас ягонай сустрэчы з творчай інтэлігенцыяй Мінска. Падчас той сустрэчы ўразіла яго аблічча, найперш — вочы, у якіх адбіваліся глыбіня і праўда Хрыстовай веры. Ён гаварыў з намі проста, сардэчна пра рэчы, якія мы і самі нібыта разумелі і адчувалі, але ў той жа час у яго словах чулася вялікая сіла духу, якая нанава адкрывала нам тое, што здавалася ўжо засвоеным і ясным. Мы прыходзім у гэты мітуслівы, грэшны свет ужо ад пачатку рознавялікімі грэшнікамі... Дзе, па якіх гасцінцах пралягае шлях да святасці?.. Кардынал паказваў гэты шлях, мужна ім крочыў у любых, нават самых жорсткіх, лагерных выпрабаваннях. Шлях святасці... Думаю аб тым, *што* ён ёсць?.. Яго прамералі сваімі лёсамі Кірыла Тураўскі і Еўфрасіння Полацкая. Ім крочыў свецкі чалавек Францыск Скарына. Постаць Кардынала лучыцца ў маім уяўленні менавіта з гэтымі вялікімі абліччамі асветнікаў. Хто зможа паўтарыць падобны шлях, калі ён непаўторны па сваёй сутнасці і вымагае ад кожнага найвялікшага напружання жыццятворчых сілаў, строга-аскетычнага самазахавання ў зямным быцці?.. І служэння... Не наймання дзеля заробку, выгодаў, славы, а менавіта служэння... Выканання дзвюх простых запаведзяў любові, якія ў кожным паспалітым чалавеку закладзеныя Провідам Божым, але чалавек бывае альбо чуйным, альбо глухім. Любоў да Бога і любоў да бліжняга маюць канкрэтныя вымярэнні і патрабуюць штодзённай ахвяры, і гэта не дэкларацыі. Гэта рэальныя, буднямі перамераныя самаахвярныя ўчынкі. Здаецца, што гэта вельмі проста. Але толькі здаецца. Хто здольны на такую «простасць», ахвяруючы амбіцыямі, зямным дабрабытам, а найперш монстрам уласнага эгаізму?... Служэнне — гэта і ёсць добраахвотная ахвяра, той апостальскі шлях, які па сілах толькі цярпліўцам у Духу. Кардынал у маім уяўленні быў менавіта такім. Ён выконваў сваю апостальскую місію для Беларусі і быў пасланы Богам у наш край дзеля адраджэння Яго Касцёла. Быў пакліканы і адгукнуўся, узышоў на гэты шлях і зрабіў усё, што мог, і нават тое, што здавалася немагчымым, каб Сталец Божы ў Беларусі не быў пустым...

Ёсць у кожнага, пэўна, комплекс прыроджанай дасканаласці, які ўклаў у чалавека ад нараджэння сам Пан Бог. Але, вядома, нехта іншы папсаваў і спартачыў гэты Провід Божы, і мы мучаемся ў палоне сваіх грахоў. Ратаваць людства прыходзяць у гэты свет святары, як апосталы на покліч Хрыста. Кардынал Казімір Свёнтэк быў святаром між святароў. Ён лёсам сваім сцвердзіў вышыню і праўдзівасць веры і глыбока разумеў тайны душы чалавечай, павернутай да Бога і ад Бога. Гэтыя праўды чуліся мне, калі я слухала яго гаворку падчас той памятнай сустрэчы. Калі я думаю і разважаю ў сённяшнім маім дні пра святасць, я думаю пра Кардынала. Выстаяць, выжыць у нялюдскіх умовах... Сцвердзіць вышыню і праўду веры. Веру несці людзям, якія прагнуць яе, гатовыя ці нават і не гатовыя прыняць яе гаючы ў Духу пасыл... Ён узводзіў Храм — Святыню — рэальную, як гожая камяніца-катэдра ў старым горадзе, і нябачную, але чутую сэрцам у людскіх душах. І гэтыя абедзве Святыні — яго, Кардынала Свёнтка, учыннасць, яго выкананне Боскіх запаведзяў Любові, яго жывое апостальства. Дай і нам, Божа, належна захоўваць такую спадчыну веры.

*Ірына Багдановіч,*
*кандыдат філалагічных навук,*
*Мінск.*




У гербе Яго Эмінэнцыі
кардынала Казіміра Свёнтка —
сімвал Хрыста Валадара,
выява Маці Божай Вастрабрамскай,
а таксама знак
Садаліцыі Марыянскай —
арганізацыі, да якой ён належаў
з маладых гадоў.



Святы Айцец Ян Павел II
менаваў арцыбіскупа Казіміра Свёнтка кардыналам.
26 лістапада 1994 г.



Падчас рэкансэкрацыі мінскай архікатэдры Імя Найсвяцейшай Панны Марыі.
21 кастрычніка 1997 г.



Праз 62 гады ксёндз кардынал Казімір Свёнтэк асвяціў і адкрыў
адноўленую ім духоўную семінарыю, якую закончыў у 1939 годзе.
Пінск, 12.09.2001 г.





Ян Павел II благаслаўляе абраз, які будзе змешчаны ў галоўным алтары архікатэдры Імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў Мінску.



Першы экзэмпляр Рымскага Імшала на беларускай мове — для Папы.



Падчас уручэння ўзнагароды *Fidei testis*. Кастэль Гандольфа. 27 верасня 2004 г.



Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч
выказвае падзяку свайму папярэдніку — Сведку веры кардыналу Казіміру Свёнтку.
Санктуарый Маці Божай у Будславе. 11 лістапада 2007 г.



Благаслаўленне Найсвяцейшым Сакрамэнтам удзельнікаў урачыстасці, прысвечанай 95-годдзю кардынала Казіміра Свёнтка ў пружанскім касцёле, дзе ён у 1932 годзе распачаў сваё святарскае служэнне. 2009 г.



Пінск, вуліца Шаўчэнкі, дом 12.
Тут з 1954 г. жыў і працаваў кардынал Казімір Свёнтэк.

## Чалавек

*Памяці кардынала Казіміра Свёнтка*

Смерць пускалі за ім след у след
гітлеравец і савет
і хам паўсюдны і прайдзісвет
і цэлы шалёны свет —
а ён ішоў перад імі сам
у Пінск ішоў у свой Храм
быў час калючы горай за дрот
камень плакаў адзін —
бо людзі не людзі народ не народ
скрыгат вострых ільдзін
а трэба неяк кнігу на стол
і Слова ў ноч паўтараць
прайсці руіны падняць Касцёл
з людзей людзей назбіраць
а дзе іх узяць? адкуль і каго?!
кругом — як прайшла чума
і душыць Пінск яго аднаго
як вераб'я зіма
пакуль у дзеда вырасце ўнук
пакуль той пройдзе амок
жыві і слухай той стук і грук
і на дзвярах замок
цяпер тут кожны плача інакш
няма таго што было
цяпер тут кожны хто свой той наш —
начальства дало дабро! —
пагода светлая на двары
як рай — ні даць ані ўзяць
і ў першай лаўцы гаспадары
на Божае Цела сядзяць
а Чалавек памірае сам
з ім толькі боль — як той нож
вось стала сэрца — і душа ў Храм
зляцела пад летні дождж
і хоць займела свой Вечны Дом
а страшна да нематы
і пуста кругом — як нейкі пагром
прайшоў гэты Край пусты

і што цяпер і куды пісаць
і слёзы ноччу страсаць
каму і навошта што гаварыць?!
магу адно паўтарыць:

«Божа прабач мне зло якое рабіў не я
бо я быў тут — дзе было тое зло
і цэлы Край быў тут і ўвесь просты люд
і цяпер сорамна плакаць —
усім простым людам
над Адным Чалавекам»

*Алесь Чобат*
*27.07. 2011 г.*

## Сведку веры

*Кардыналу Казіміру Свёнтку*

Наш кардынал, наш пастыр дарагі,
якога лёсу выпаў Вам ладунак:
турма у Брэсце — смерці пацалунак,
суровай Поўначы глыбокія снягі.
Праз дзесяць год цягнуўся шлях крыжовы,
з адной пакутнай стацыяй: Гулаг,
з сабранай воляй у адзін кулак,
каб вытрываць нялюдскія умовы.
І толькі ў снах кароткіх вулкі Пінска
прыходзілі не раз з гадоў юнацтва —
семінарыйнае святое брацтва,
якое біскуп блаславіў Лазінскі...
Бог даў вярнуцца Вам на бераг Піны,
каб Божую святыню ратаваць,
каб праўды веры людзям адкрываць,
нягледзячы на пострахі і кпіны.
Вас хараство Палесся захапляла —
рака і лес, і кожнае стварэнне,
ў хвіліны адзіноты і сумненняў
прырода-маці сілы Вам давала.
За ўсмешкаю, за гумарам і жартам
Вы боль у сэрцы часта так хавалі...
Касцёл з руінаў мужна уздымалі
з апостальскім нязломным гартам.
Святар ад Бога, мужны сведка веры,
Хрыстовы воін і слуга адданы,
нястомны рыцар Беззаганнай Панны,
Вы столькім душам адчынілі дзверы
у Валадарства Божае. Прыгожы
Вы шлях прайшлі служэння і пакуты.
Любоўю да крыжа прыкуты,
былі Вы чалавекам Божым.
Укрыжаваны за Касцёл цярпеннем,
Вы крыж з Хрыстом пакорна падзялялі
і болем Бога моўчкі праслаўлялі
да гэтага апошняга імгнення, —
наш кардынал, наш пастыр дарагі...

*Крыстына Лялько*
*21.07.2011*

## На развітанне

Яго нявалілі
далёка адвозілі
потым сам ён па свеце
нахадзіўся наездзіўся

З сабою меў крыж
крышэнь хлеба кроплю віна
і Прачыстую Ружу
якая ў неба вяртае душы

Хадзіў праз мора людское
заўсёды з любоўю
крыж ўздымаў высока над галавою

над людскімі галовамі
хлебам дзяліўся з галоднымі
каму хлеб удзяляў — меў такі «пароль»
— Цела Хрыста...

Найцяжэйшы крыж моцны боль
цярпеў — невыносны...

згарэў
гарыць промень Гостыі

калі мы пры Ім —
то і мы моцна стаім

*Данута Бічэль*

***Пераклад прысвячаецца памяці кардынала Казіміра Свёнтка***

Джозуэ Кардучы[1]

## Базыліка Святой Марыі Анёльскай у Асізі

Браце Францішак, колькі прасторы аблашчыў
Гэты цудоўны купал Віньёлы[2],
Дзе ты распрануты ляжаў, скрыжаваўшы
Рукі ў агоніі, на зямельцы голай!

Ліпень спякотны, над працавітым долам
Поўніцца спеў любоўю. О, дай мне шчасце
У спевах Умбрыі[3] слова пачуць тваё здолець,
У небе Умбрыі воблік твой светлы пабачыць!

Ля велічнай брамы далёкага раю
У высокім, самотным і сцішаным ззянні,
Над даляглядам горных крыніцаў,

Гляджу, як сташ і рукі ўзнімаеш,
Усхваляючы Бога: «Дзякую табе, Пане,
За нашую цялесную смерць-сястрыцу!»

*Пераклад з італьянскай мовы*
*Аксаны Данільчык.*

[1] Джозуэ Кардучы (1835–1907) — лаўрэат Нобелеўскай прэміі за 1906 г.
[2] Джакамо да Віньёла, або проста Віньёла (*Il Vignola*; сапр. *Якапо дэ Бароцы*; 1507–1573) — італьянскі архітэктар.
[3] Вобласць Італіі, дзе знаходзіцца Асізі.

* * *

*Кардыналу Казіміру Свёнтку*

На крылах сваіх панясу цябе,
закалыхаю, укрыю, злагоджу,
і волас з тваёй галавы не ўпадзе,
і горыч тугі цябе не патрывожыць.

На крылах сваіх панясу цябе
праз сцятае сцюжаю мёртвае поле,
праз строй сутарэнняў пракураных, дзе,
забраўшы свабоду, не знішчылі волю.

На крылах сваіх панясу цябе
праз шэраг эпох будаванняў і стратаў,
дзе ў войнах за дух, што вядзе чалавек,
цень лобнага месца згушчаўся праз краты.

На крылах сваіх панясу цябе,
дзе млын прамінання гісторыю чыніць —
хлеб тых, хто ідзе за табой. Ты ж ідзеш,
пакінуўшы край, каб вярнуцца ў Айчыну.

На крылах сваіх цябе панясу.
Ўзыходзіць світанак твайго прагнення.
Сустрэну цябе на парозе, скажу:
Добрай раніцы, сынку, з днём нараджэння...

*Юлія Шэдзько*
*21–25 ліпеня 2011 г.*

# На святую памяць кардынала Казіміра Свёнтка

«Азірніся назад — там непамерная бездань часу, зірні наперад — там другая бязмежнасць» (Марк Аўрэлій. Роздумы 4, 50). Гэтак паміж дзвюма неабсяжнасцямі апынаецца чалавек пры жыцці, балансуючы на тонкім, знікомым вастрыі цяпершчыны, пакідаючы за сабой мінулае і спрабуючы асягнуць будучыню.

І калі невядомая прышласць можа адкрывацца з Божае волі толькі абраным, мінуўшчына застаецца ў памяці, хоць паволі і вымываецца адтуль хвалямі часу. І асядаюць у памяці, хутчэй, не дакладныя злепкі былога, а толькі знакі, штрыхі, рэшткі ўражанняў і схемы думак, уломкі-сымбалі, праз якія спрабуе прабіцца навонкі і акрэсліцца сутнасць. Астатняе заціраецца, выкрэсліваецца, нібы рукою нябачнага карэктара. Што застаецца ў нашай душы ад свету рэчаў? Іх формы, якасці, сутнасць, прызначэнне? А якія сляды пакідае па сабе постаць чалавека, калі ён сам ёсць адбіткам найвышэйшай Сутнасці і цэлым сусветам?

Казімір Свёнтэк, наш Кардынал, пакінуў па сабе выразны, прыгожы і велічны след. Ягоны жыццёвы шлях да прыняцця біскупскага сану бачыцца цяпер як выкоўванне і гартаванне мяча, які Божы Провід рыхтаваў для таго, каб рассячы ўладу цемры і паняверкі ў краі. Цяжкое, поўнае пакутаў і доўгае гартаванне, часам на лязе жыцця і смерці, каб меў сілу прыняць, сказаць сваё *Fiat* і стаць на бітву ў першым шэрагу. І ён шмат у чым сапраўды стаў аднаўляльнікам і першым: першым мітрапалітам і першым кардыналам новай Беларусі, ягонымі стараннямі аднавілася першая духоўная семінарыя ў Пінску, пры ім адбыліся першыя святарскія пасвячэнні, прызначаныя першыя біскупы на новыя дыяцэзіі, з'явіліся першыя адноўленыя святыні, першыя санктуарыі, першы беларускі Імшал і літургічныя кнігі, першыя перыёдыкі і разам з гэтым упершыню паўнавартасна ўкрочыла ў Касцёл беларуская мова.



Уручэнне выкладчыцкага пасведчання Алесю Жлутку падчас адкрыцця Міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі імя св. Тамаша Аквінскага ў Пінску.

Памяць выдабывае са сваіх глыбіняў ягоны воблік, знешне суровы і непрыступны, у якім пры набліжэнні адкрываліся чалавечнасць і прастата, добрая і чулая душа, далікатная і нават датклівая. Аднак разам з тым угадваліся схаваная моц і ўнутранае гарэнне, спароджанае не іначай як натхненнем звыш. Разважаючы пра ўсё здзейсненае гэтым чалавекам, разумееш, што тое было б немагчымым без ласкі веры ды асаблівай, вялікай любові да людзей і да Бога. А шмат для каго яго душпастырская праца, сам прыклад ягонага жыцця сталіся чыннікам навяртання, кардынальнай змены жыццёвага ладу, духовага росту.

Відаць, у нашу эпоху катаклізмаў, зменаў і выпрабаванняў, на стыку тысячагоддзяў Пан Бог паслаў у распятую паміж Усходам і Захадам Беларусь асобу, якая змагла б узяць на сябе і годна вытрываць крыж часу, спакутаваць злачынствы веку і ўвесці народ у новы этап Адраджэння — Адраджэння ў Духу.

*Алесь Жлутка*



Выкладчыкі і першыя пінскія семінарысты з іерархамі Касцёла. 12.09.2001 г.

**Прысвячаецца памяці кардынала Казіміра Свёнтка — выхаванца былой і першага рэктара адроджанай Пінскай духоўнай семінарыі імя св. Тамаша Аквінскага**

# Залатое Сярэднявечча — нашаму часу: святы Тамаш і яго інтэрпрэтар Стэфан Свяжаўскі

Тамаш Аквінскі, адзін з найвялікшых хрысціянскіх мысляроў і тэолагаў, нарадзіўся ў канцы 1224 ці на пачатку 1225 года ў Роккасэкка каля Неапаля ў сям'і Ландульфа графа Аквінскага. Пачатковую адукацыю з пяці да чатырнаццаці гадоў атрымліваў у бэнэдыктынскім кляштары Монтэ-Касіно, абатам якога быў ягоны дзядзька, а ўжо з 1239 і да 1243 г. навучаўся вызваленым навукам ва ўніверсітэце Неапаля. У 1244 г. Тамаш паступіў у ордэн дамініканаў, што было супраць волі бацькоў, якія сілай забралі яго і некалькі месяцаў трымалі пад вартаю.

Магчыма, што неўзабаве пасля гэтага зняволення, у 1245 г., юнак пераехаў у Парыж, дзе, верагодна, слухаў лекцыі знакамітага Альбэрта Вялікага, якога за markup рознабаковыя энцыклапедычныя веды тытулавалі «Універсальным Доктарам» (Doctor Universalis). Дакладна вядома, што трыма гадамі пазней, з 1248 да 1252 г., Тамаш быў сярод вучняў Альбэрта ў дамініканскай школе ў Кёльне аж да свайго пераезду ў Парыж, дзе ў славутым універсітэце стаў бакалаўрам, а затым з 1257 г. — прафесарам тэалогіі. Тут ён піша некалькі тэалагічна-філасофскіх трактатаў, а каля 1260 г. выпраўляецца ў Італію, дзе выкладае ў Рыме, Фларэнцыі, Арв'ето і Вітэрбо ды распачынае працу над сваім самым вядомым творам — «Сума тэалогіі» (Summa theologiae). На пачатку 1269 г., будучы ўжо дасведчаным выкладчыкам і тэолагам, ён зноў вяртаецца ў Парыжскі ўніверсітэт і працягвае пісаць «Суму...» і іншыя творы. У 1272 г. ён зноў у Італіі, у Неапалі, каб заснаваць пры мясцовым універсітэце дамініканскую вышэйшую школу (Studium generale). На бацькаўшчыне ішла праца над трэцяю часткаю «Сумы...». У канцы 1273 г. Тамаш перажыў моцнае містычнае ўражанне, і разам з гэтым пагоршылася яго здароўе. У 1274 г. на запрашэнне Папы ён выправіўся ў Ліён, каб узяць удзел у Саборы, хаця быў ужо моцна хворы, і 7 сакавіка 1274 г. адышоў да вечнасці ў цыстэрцыянскім кляштары Фоссанува паміж Неапалем і Рымам.

Адразу пасля смерці некаторыя з палажэнняў яго філасофскай канцэпцыі былі паддадзеныя асуджэнню кансерватыўнымі багасловамі і нават аб'яўленыя ерэтычнымі. Толькі пасля кананізацыі ў 1323 г. гэтыя нападкі паступова спыніліся. Святы здабыў вялікую славу і аўтарытэт. Яго параўноўвалі са св. Паўлам і св. Аўгустынам, называючы «Анёльскім Доктарам» (Doctor Angelicus), а Дантэ ў «Боскай камедыі» змясціў душу святога ў найвышэйшых сферах Раю сярод настаўнікаў Боскай мудрасці. Яго пачалі ўшаноўваць як апекуна дамініканаў, тэолагаў і студэнтаў, абаронцу падчас бураў.

І ўсё ж у сярэднія вякі св. Тамаш не атрымаў такога высокага статусу ў Касцёле, якога заслугоўваў сваёй творчасцю. Толькі пасля энцыклікі папы Льва XIII «Aeterni Patris» з 1879 г. яго вучэнне стала разглядацца як афіцыйная дактрына Каталіцкага Касцёла.

У XX ст. адбылося новае адкрыццё філасофска-тэалагічнай думкі св. Тамаша як філасофіі праўды і навукі мудрасці. Вялікую ролю ў гэтым адыгралі прадстаўнікі так званага экзістэнцыйнага тамізму Эцьен Жыльсон (Etienne Gilson)[1], Жак Марытэн[2] і Стэфан Свяжаўскі, кніга якога «Святы Тамаш, прачытаны нанава» (Święty Tomasz na nowo odczytany) у даходлівай і яснай форме раскрывае погляды св. Тамаша Аквінскага.

Каб бліжэй пазнаёміць шаноўных чытачоў з гэтым аўтарам і зрабіць больш зразумелымі некаторыя месцы ў ягонай кнізе, пачатак якой у нашым перакладзе мы прадстаўляем ніжэй, падаем кароткія звесткі пра яго.

Стэфан Свяжаўскі (Stefan Swieżawski), у асобе ягога спалучыліся вялікі навуковы талент і глыбокая вера, з поўным правам можа быць залічаны да самых выдатных філосафаў нашага часу.

Нарадзіўся ён 10 лютага 1907 г. у вёсцы з украінскаю назваю Голуб каля Грубешава (сёння Голэмбе Грубешаўскага павета Люблінскага ваяводства) на самым памежжы з Украінай, а па-



Стэфан Свяжаўскі.

мёр 18 траўня 2004 г. у Канстанціне-Езёрне, недалёка ад Варшавы, не дажыўшы трох гадоў да ста. Меў жыццё доўгае, плённае і багатае на падзеі і асягненні. Перажыў дзве вайны, акупацыю, камуністычны рэжым і яго крах, адраджэнне новай Польшчы.

У 1921 г. сям’я Свяжаўскіх пасля Першай сусветнай вайны і вандраванняў пераехала у Львоў, дзе юнак скончыў гімназію і праз чатыры гады паступіў у Львоўскі ўніверсітэт, які тады




насіў імя Яна Казіміра, на гістарычна-філасофскі аддзел філасофскага факультэта. Яшчэ да паступлення браў чынны ўдзел у Таварыстве школьнай каталіцкай моладзі «Адраджэнне» і нават стаў яго кіраўніком. У Таварыства ўваходзіла шмат людзей, якія пазней сталі вядомымі асобамі ў Польшчы, у тым ліку ягоны сябар Тадэвуш Федаровіч, які потым будзе даверанай асобай і спаведнікам папы Яна Паўла II.

Пасля заканчэння ўніверсітэта ў 1929 г. Стэфан выехаў на далейшае навучанне ў Парыж, а ўжо праз год быў на службе ў войску. Вярнуўшыся пасля гэтага ў Львоў, працаваў ва ўніверсітэце асістэнтам праф. Казіміра Айдукевіча і пад яго кіраваннем пісаў доктарскую працу, якую абараніў у 1932 годзе. Выкладаў у тым жа ўніверсітэце, а падчас вайны ў 1944 г. у таемным універсітэце ў Варшаве абараніў працу габілітацыйную, якая была афіцыйна зацверджаная ў Пазнанскім універсітэце у 1946 годзе. У тым жа годзе пачаў выкладаць у Люблінскім каталіцкім універсітэце на катэдры гісторыі філасофіі, дзе працаваў 30 гадоў, 18 гадоў даязджаючы да Любліна з Кракава, у якім жыў раней, і потым 12 гадоў — з Варшавы. Апрача таго, ён быў заняты ў Інстытуце філасофіі і сацыялогіі Польскай акадэміі навук у Варшаве, а яшчэ быў чынным удзельнікам розных навуковых, рэлігійных і грамадскіх ініцыятываў, у тым ліку выкладаў вучэнне св. Тамаша Аквінскага для Супольнасці ў Лясках пад Варшаваю.

Ён адзіны з свету «за жалезнаю заслонаю» браў удзел у працы Другога Ватыканскага Сабору ў якасці свецкага эксперта (аўдытара), супрацоўнічаў з філосафамі Эцьенам Жыльсонам і Жакам Марытэнам і быў асабістым сябрам папы Яна Паўла II.

Пяру Стэфана Свяжаўскага належыць больш за 250 навуковых працаў. У свеце ён найбольш вядомы сваімі творамі ў галіне гісторыі сярэднявечнай філасофіі. Варта ўзгадаць хаця б ягоную грандыёзную васьмітамовую «Гісторыю еўрапейскай філасофіі ў XV стагоддзі» (Dzieje filozofii europejskiej w XV wieku) альбо вельмі папулярную «Гісторыю еўрапейскай класічнай філасофіі» (Dzieje europejskiej filozofii klasycznej).

Але сапраўдным бестселерам сталася ягоная кніжка «Святы Тамаш, прачытаны нанава», якая выйшла ў 1983 г., вытрымала шэраг новых выданняў і перакладалася на многія еўрапейскія мовы. Дзякуючы ёй шмат хто адкрыў для сябе велічны і прыгожы свет філасофіі праўды св. Тамаша. У сваім перакладзе з польскае падаем пачатак кнігі разам з аўтарскай прадмовай, дзе апавядаецца пра гісторыю яе стварэння.

*Алесь Жлутка*

Стэфан Свяжаўскі

# СВЯТЫ ТАМАШ, ПРАЧЫТАНЫ НАНАВА

## УСТУПНАЕ СЛОВА ДА ПЕРШАГА ВЫДАННЯ

Кніжка, якую я аддаю ў рукі чытачоў, мае — як зрэшты кожная — сваю гісторыю. Яна стваралася ў тры этапы. Першы — гэта доўгі перыяд каля пяцідзесяці гадоў. За гэты паўвекавы адцінак часу майго жыцця мне шмат разоў і па-рознаму было дадзена сутыкацца з думкаю св. Тамаша з Аквіна. Гэта было больш ці менш сістэматычнае чытанне яго твораў. Было таксама і вывучэнне — галоўным чынам сучаснай літаратуры, якая датычыла ягонай творчасці. Урэшце былі гэта і выклады яго поглядаў — дакладней, яго філасофіі. Гэтыя выклады я рабіў у рамках універсітэцкага азнаямляльнага курсу лекцый ці таксама асобных лекцый на пэўную тэму з гісторыі філасофіі альбо яшчэ і ў скарочанай форме, як цыклы, што павінны былі азнаёміць розныя асяродкі з думкаю Тамаша. Так на працягу многіх гадоў выбудоўваўся асноўны каркас праблематыкі, прадстаўлены ў дваццаці пяці раздзелах гэтай кніжкі. Сабраны такім чынам матэрыял не дачакаўся б, аднак, літаратурна-стылёвай апрацоўкі, калі б не другі этап гісторыі гэтага тома.

Другі адцінак гэтай гісторыі распачаўся ў 1977 годзе, калі сястра Альма Скшыдлеўская, Генеральная настаяцельніца Супольнасці Сясцёр Францішканак Слугаў Крыжа, звярнулася да мяне з прапановаю правесці для сясцёр цыкл выкладаў пра філасофска-тэалагічныя погляды св. Тамаша. Знаёмства з дактрынаю св. Тамаша з’яўляецца адным з істотных элементаў у фармаванні Супольнасці, пра якое клапаціліся кс. Уладзіслаў Карніловіч[3] і заснавальніца маці Альжбета Чацкая[4], што знайшло свой выраз у Канстытуцыях Супольнасці.

З увагі на ранг прапановы і на блізкія стасункі, а таксама шматгадовае сяброўства з асяродкам у Лясках, я ахвотна прыняў запрашэнне. Карыстаючы з сабраных на першым этапе матэрыялаў, я ўзяўся за падрыхтоўку выкладаў, якія распачаў вясною 1977 года. Цыкл я скончыў перад самым Божым Нараджэннем таго ж года. Цяжкасць была ў тым, што аўдыторыя на гэтых спатканнях была вельмі разнастайная. Сярод сясцёр былі і тыя, што атрымалі сур’ёзную адукацыю, мелі шматгадовую педагагічную практыку, душпастырскі і іншы досвед, і зусім маладыя кандыдаткі, навіцыйкі ці працаўніцы, занятыя чыста практычнымі справамі, якія не мелі нічога агульнага з рэгулярным філасофскім ці гуманітарным мысленнем. Удзельнікамі спатканняў былі таксама свецкія асобы. Кожны выклад я рабіў у двух месцах, чытаючы лекцыі для слухачоў у Лясках і паўтараючы выклад для суполкі, якая збіралася ў кляштары на вул. Піўнэй у Варшаве. Цяжкасці, якія вынікалі з вялікай стракатасці аўдыторыі і датычыліся філасофска-тэалагічнай падрыхтоўкі, пераадольваліся дваякім чынам. Найперш праз высілкі выкладчыка, скіраваныя да найбольш поўнага высвятлення — і зразумелым спосабам — цяжкіх паняццяў і канцэпцый, далёкіх ад звычайнага мыслення. Потым — праз падсумаванне зместу выкладаў на спатканнях, якія мелі характар паўтарэння пройдзенага. Гэтыя спатканні праводзілі рэгулярна на вул. Піўнэй сястра Яна Лёсаў, магістр філасофіі і ліцэнцыят тэалогіі, а ў Лясках — сястра Марыя Яніна Баркоўская, сельскагаспадарчы інжынер і магістр філасофіі. Гэтыя сёстры зрабілі вялікі ўнёсак у працэс навучання, бо на спатканнях удзельніцы маглі задаваць пытанні, на якія не было часу на саміх выкладах, — і высніць для сябе розныя цяжкасці.

Трэці этап палягаў у працы над рэдакцыяй тэксту выкладаў як кніжкі. У гэтай працы ахвярную дапамогу мне аказалі сястра Рут Восек, паланістка і магістр тэалогіі, а таксама Тадэвуш Урбаняк, магістр філасофіі; я вельмі ўдзячны ім за гэтую дапамогу. Але, нягледзячы на гэтую каштоўную і неабходную дапамогу, тэкст яшчэ не быў гатовы да друку, бо грунтаваўся на вусным тэксце, запісаным з магнітафоннай стужкі. Таму я пастанавіў узяць на сябе цяжар апрацавання ўсяго матэрыялу нанава, але так, каб парадак раздзелаў і іх змест дакладна адпавядалі тэмам выкладаў і іх унутранай структуры.

Погляды св. Тамаша прадстаўлены тут па неабходнасці сцісла, але з тым намерам, каб былі падкрэсленыя найважнейшыя і ключавыя моманты вучэння. Гэтае вучэнне не магло быць выкладзенае з аднолькавай дакладнасцю ва ўсіх сваіх частках. Неабходна было выбіраць. Больш дакладна і глыбока трактаваная філасофія быту, з адмысловым разглядам тэалагічнай праблематыкі, а таксама філасофская канцэпцыя чалавека. Аднак я не меў на мэце больш грунтоўна займацца ў гэтай публікацыі этычнымі пытаннямі (асабліва ўласна этыкай), бо для гэтага давялося б напісаць асобную вялікую працу, тым больш,

што ўласна этычным праблемам св. Тамаш прысвячае найбольшую частку *«Сумы тэалогіі»*, вядомую як «другая частка другой часткі» (*Secunda secundae*).

Кожная аўтэнтычная — а тым больш кожная вялікая філасофская думка — заўсёды пазачасавая, але і гістарычная, бо яна знаходзіцца па-за часам і прастораю ў сферы найглыбейшых канцэпцый, якія належаць да метафізікі; і яна ж цалкам гістарычная як думка, што паўстала ў акрэсленым *hic et nunc*[5] (гэта выяўляецца ва ўсіх прыкладаннях метафізікі да розных галінаў даследаванняў) — і якая нанава прымаецца і прамысліваецца ў іншым *hic et nunc*. Гэтая кніжка таксама прадстаўляе вынікі новага — здзейсненага ў новых умовах XX стагоддзя — прачытання філасофска-тэалагічных разважанняў вялікага мысляра і вучонага з XIII стагоддзя. Няхай сам чытач мяркуе, наколькі плады роздумаў св. Тамаша маюць непрамінальную вартасць і ў якой меры яны актуальныя сёння.

Ужо шмат гадоў з розных бакоў да мяне даходзілі галасы, якія вымагалі сціслага і даступнага прадстаўлення нарысу філасофіі Тамаша з Аквіна. Буду шчаслівы, калі гэты том стане адказам на даўнюю патрэбу, якая ёсць адзнакаю ўзрастання зацікаўленасці класічнай філасофіяй і філасофска-тэалагічнай думкай вялікага Сярэднявечча. Сёння мы ведаем, як на працягу стагоддзяў тамізм, які хацеў быць дактрынальнай плынню, вернай думцы св. Тамаша, у сапраўднасці шмат разоў і ў многіх асноўных пунктах здраджваў гэтай думцы, што прывяло да фальшывай інтэрпрэтацыі думкі св. Тамаша, якая да таго ж значна дэфармавала гэтую думку. Мне хацелася б, каб кніжка, у якой я маю намер прадставіць погляды самога св. Тамаша, ачышчаныя ад налёту розных «тамізмаў», магла прычыніцца да лепшага і больш бесстаронняга пазнання і зразумення гэтых поглядаў. Гэта неабходная ўмова для таго, каб выявілася іх непрамінальная і актуальная вартасць.

*Стэфан Свяжаўскі,*
*Варшава – Тэнчын, у верасні 1982 года.*

## НАВОШТА ФІЛАСОФІЯ?

Навошта мы павінны займацца філасофіяй, навошта св. Тамаш? Пытанне ўласна гучыць так: дзеля чаго ў такім загнаным, поўным клопатаў і цяжкасцяў жыцці ў Супольнасці[7] дадаецца яшчэ такі занятак як гэтыя выклады? Аднак справа важная і вельмі істотна звязаная з духоўнасцю Лясак. Гаворка ідзе аб тым, што ўласна вучэнне і менавіта вучэнне, узятае кантэмпляцыйна, г.зн. так, як належыць разумець яго не фармальна, але сутнасна, складае бадай адзін з асноўных указальнікаў на шляху духоўнасці Лясак: Супольнасці і ўсяго асяроддзя. Францішканская любоў, бэнэдыктынская літургія і вучэнне — думка св. Тамаша — гэта тыя тры рэчы, якія павінны паяднацца ў справе Лясак. Гэта я заўсёды чуў з вуснаў ксяндза Карніловіча.

Сённяшняя сітуацыя даволі цяжкая. У наш час гаварыць пра гэты тып філасофіі і заглыбляцца менавіта ў думку св. Тамаша — гэта, напэўна, нейкі рух супраць плыні, бо плынь, якая ў гэтую хвіліну нас ахоплівае, — антыфіласафічная і ў вялікай меры антытамашава. Аднак уласна рух супраць плыні, можна сказаць «стронгавы» (бо стронга плыве супраць плыні), важны, бо дзякуючы яму мы супрацьстаім таму д'ябальскаму млыну, які толькі памнажае розныя функцыі і дзеянні, а не дазваляе рабіць рэфлексію, спакойнае сузіранне і глыбокае ўгляданне ў рэчаіснасць. Набліжэнне да думкі св. Тамаша — гэта таксама канфрантацыя з пануючымі сёння ў філасофіі тэндэнцыямі, бо ў сучасных філасофскіх кірунках надзвычай цяжка знайсці тое, што нам трэба, калі маем на думцы неабходнасць філасофіі для Супольнасці і Лясак. Таму я хацеў бы паразважаць найперш над тым, чым у сваіх асновах павінна быць філасофія і чаму займанне філасофіяй патрэбнае для вашай Супольнасці. Сапраўды, можа здавацца дзіўным, што францішканкі Слугі Крыжа павінны займацца філасофскай праблематыкай.

Паразважайма над паходжаннем самой назвы, над першасловам. Назва гэтая грэцкая і складаецца з двух словаў: *fileo* — г. зн. *сябрую*, *люблю* і *sofia* — г.зн. *мудрасць*. Такім чынам мы адразу патрапляем у самую сутнасць праблематыкі: філасофія нішто іншае — і не павінна быць нічым іншым — як наладжваннем сяброўства з мудрасцю. І гэта вельмі цяжкая справа, якая вымагае практыкавання і працы праз усё жыццё. Вартасць мудрасці, што — як пабачым — пашыраецца на ўсе сферы, на сферу прыродную і надпрыродную, і ў надпрыроднай сферы дасягае свайго завяршэння, вартасць гэтай мудрасці нагэтулькі вялікая, што аўтар Кнігі Мудрасці не вагаўся напісаць пра яе такімі словамі:

Таму я маліўся і дадзенае было мне
разуменне.
Гукаў і прыйшоў да мяне дух Мудрасці.
Я паставіў яе вышэй за берлы і троны,
і багацце ў параўнанні з ёю меў за нішто.
Не параўнаў з ёй камень каштоўны,
бо ўсё золата перад ёю — дробная пясчынка,
і граззю здаецца срэбра супраць яе.
Больш за здароўе і прыгажосць палюбіў я яе,
і мець яе было для мяне лепш, чым святло,
бо ззянне яе непагаснае.
Усялякае дабро прыйшло разам з ёй да мяне,
і незлічонае багацце ў руках яе.
Радаваўся я ўсяму, бо прыводзіць яго
Мудрасць,
хоць не ведаў я, што яна маці гэтага.
Без падману навучыўся і не шкадуючы

дзялюся,
не хаваю яе багацця.
Бо невычэрпны скарб яна для людзей,
хто яго набыў, здабыў сяброўства Бога
і паяднаўся з Ім праз дары навучання.
Каб толькі Бог даў мне казаць разумна
і пра дадзенае думаць годна,
бо Ён сам праваднік Мудрасці
і кіруе мудрымі.
Бо ў руцэ Ягонай і мы, і нашыя словы,
і ўсё разуменне, і абазнанасць у справах.
Ён сам даў мне пра тое, што ёсць, веданне
без падману,
каб знаў я будову свету і моц стыхіяў,
пачатак і канец часоў, і іх сярэдзіну,
Чарговасць сонечных абяртанняў і змены
пораў года,
Кругі гадоў і становішча зорак,
Прыроду жывёлаў і звычкі звяроў,
магутнасць духаў і думкі людзей,
віды раслінаў і моц каранёў:
Усё, што схаванае і яўнае, уведаў я,
бо Мудрасць, стваральніца ўсяго,
навучыла мяне (пар. Мдр 7, 7–21)[8].

Гэты славуты тэкст мае сваё дапаўненне ў іншым месцы Старога Запавету, у кнізе Ёва:

Але Мудрасць, дзе знайсці яе?
І дзе месца разумення?
Не ведае чалавек дарогі да яе,
і не знайсці яе ў зямлі жывых.
Бездань кажа: «Не ўва мне яна»,
і мора кажа: «Яна не са мною».
Не даецца яна за шчырае золата,
і не ўзважваецца цана яе срэбрам.
Не важыцца яна золатам Афіру,
ані каштоўным оніксам, ані сапфірам.
Не зраўняецца з ёю ані золата, ані шкло,
і не выменяць яе на посуд са шчырага золата.
Каралі і крышталь не варта і ўзгадваць,
а здабыццё Мудрасці лепшае за пярліны.
Не зраўняецца з ёю тапаз Этыёпіі,
і не важыцца за яе шчырае золата.
Але адкуль прыходзіць Мудрасць?
І дзе месца разумення?
Схаваная яна ад вачэй усяго жывога
і ад птушак нябесных утоеная яна.
Знішчэнне і смерць кажуць:
«Вушамі нашымі чулі мы пра яе чутку».
Адзін Бог ведае дарогу яе,
і Ён адзін знае месца яе.
Бо Ён аглядае да краёў зямлю
і бачыць усё, што ёсць пад небам.
Калі надаваў вагу ветру
і водам устанаўляў меру,
калі вызначаў закон дажджу
і шлях маланцы грому,
Тады Ён убачыў яе і распавёў,
устанавіў і вывучыў.
А чалавеку сказаў:
«Вось страх Божы ёсць Мудрасцю,
а ўхіленне ад зла — разуменнем»
(пар. Ёў 28, 12–28)[9].

Гэтыя тэксты ёсць класічным прызнаннем характва, велічы мудрасці, мудрасці дваякай: прыроднай і надпрыроднай. Трэба маліцца аб мудрасці, бо дзякуючы ёй мы знаходзім праўду, а праўда такая ж важная, як і любоў. Праўда сваёй вартасцю не меншая за любоў, бо гэта вартасці ўзаемназамяняльныя. Больш за тое, яна ёсць і павінна быць даступнаю ўсім; каб быць мудрым, не абавязкова быць адукаваным, адукацыя часам нават перашкаджае мудрасці. Калі-нікалі яна нашмат лепей прывіваецца менавіта ў чалавеку простым, бо пэўная духовая прастата — умова мудрасці. Вось жа, мудрасць нярэдка хутчэй укараняецца ў чалавеку простым, незакамплексаваным, чым у вучоным, які часта носіць у сабе шмат запынаў і ўскладненняў.

Важная таксама тэза, што без мудрасці няма святасці, бо яна абавязковая ўмова святасці, — кажа св. Тамаш. І гэта важная рэч, бо ўсе павінны ўзрастаць у святасці і вельмі маліцца аб гэтым дары. Зрэшты, гэта адзін з найважнейшых дароў Святога Духа. Чакаючы дару мудрасці, трэба з нашага боку з усіх нашых сілаў і прыродных магчымасцяў зрабіць усё, каб прыроднай мудрасцю падрыхтаваць глебу для прыняцця гэтага надпрыроднага дару. Калі мудрасць мае быць удзелам усіх людзей, то ўсе павінны займацца філасофіяй, бо філасофія — гэта сяброўства з мудрасцю. Як св. Тамаш казаў, што мудрасць — абавязковая ўмова святасці, так у XV стагоддзі знайшоўся той, які сказаў, што не ёсць чалавекам той, хто не займаецца філасофіяй (Піко дэля Мірандоля[10]). Такім чынам, філасофія — абавязковая ўмова чалавечнасці, каб быць чалавекам, каб развіваць сваю чалавечнасць, трэба сябраваць з мудрасцю. Аднак не падаецца магчымым, каб кожны навучаўся такім цяжкім рэчам, як філасофія.

Але такое разуменне справы паказвае на тое, што мы маем неадпаведнае паняцце пра філасофію. Трэба праводзіць прынцыповае разрозненне паміж філасофіяй навуковай і пераднавуковай. Навуковая філасофія — філасофія, разуметая як навука, і як усялякая навука мае сваю тэрміналогію, г. зн. сваю тэхнічную, складаную мову, сваю развітую і цяжкую для засваення гісторыю — гісторыю вельмі абсяжную, якая ахоплівае пару тысячагоддзяў і ўсе расы свету. Бо еўрапейская філасофія — гэта толькі невялікі выцінак таго, што выпрацавана чалавецтвам як філасофія навуковая. Вось жа, філасофія — гэта навука, і ў пэўным сэнсе асабліва цяжкая. Але поруч з гэтай навуковай філасофіяй, якая ёсць навуковай сістэмай, комплексам сцвярджэнняў, доказаў, даследаванняў, вялікіх гістарычных раз-

дзелаў, што паказваюць, як усё гэта выспявала ў бегу стагоддзяў, ёсць другая: філасофія пераднавуковая, якая яшчэ не ўпарадкаваная ў сістэму, уклад сцвярджэнняў ды г.д., і менавіта гэтай пераднавуковай філасофіяй павінны займацца ўсе. Піко дэля Мірандоля меў рацыю, кажучы, што не ёсць чалавекам той, хто пазбаўлены філасофіі. Пераднавуковая філасофія набліжаецца да таго, што мы называем сялянскай мудрасцю, уменнем разважання, роздуму, спакойнага, глыбокага погляду на тыя ці іншыя справы. Усе мы ў нейкай ступені займаемся гэтай пераднавуковай філасофіяй. Пачынаем філасафаваць тады, калі нас ахоплівае здзіўленне перад нечым, што часта вядзе да захаплення. Калі айцец Тадэвуш[11] у Лясках глядзіць на расліны, кветкі ці птушак — ён філасафуе, бо здзіўляецца таму, што гэтае стварэнне так выглядае, што яно мае такія звычаі, што мае гэткую вытанчаную будову. І гэта не чыста эстэтычнае разгляданне, не толькі захапленне хараством свету, гэта штосьці большае. І таму ўжо Платон — адзін з найбольшых філосафаў свету — сказаў, што філасофія бярэ свой пачатак менавіта са здзіўлення, здзіўленне — крыніца філасафавання, а да гэтага здзіўлення нас могуць пабуджаць найпрасцейшыя рэчы.

Такое здзіўленне найчасцей праяўляецца ў дзецях. Пан Езус сказаў: «калі не станеце як дзеці» (Мц 18, 3). Можна сказаць, што, «калі не станеце як дзеці» — не патрапіце філасафаваць; не толькі «не ўвойдзеце ў Валадарства Нябеснае», але не патрапіце філасафаваць, бо сапраўды найглыбейшае і найсапраўднейшае здзіўленне выяўляецца ў дзіцяці ў філасофскім веку, гэта значыць перад векам рацыянальным, калі дзіця пачынае ўжо разумець. Чатыры, пяць, шэсць гадоў — гэта час, калі дзеці ставяць найбольш складаныя пытанні, на якія часта ім не адказваюць, бо не хочуць разам з дзіцем уваходзіць у глыбіню рэчаіснасці. Аднак трэба выплысці на гэтую глыбіню і даць волю поўнаму развіццю дзіцяці. Уся наша культура — культура, якая прыносіць плады тэхнікі, камфорту — выводзіцца з таго, што выхаванне было заснаванае не на веку філасофскім, які ёсць пачаткам мудрасці, а менавіта на веку пазнейшым, рацыянальным, калі дзіця пачынае разумець, а разуменне — гэта не тое самае, што філасофская рэфлексія. Уласна ў гэтых першых пытаннях, якія ёсць праявай захаплення і здзіўлення перад дробнымі справамі, абмінаючы якія, мы пераходзім да парадку дня, менавіта тут мае свой пункт выйсця філасофскае стаўленне. Усё роўна, ці гэта будзе датычыць усёй рэчаіснасці, усяго свету, ці будзе адносіцца да нейкага жывога арганізму альбо да нейкіх маленькіх унутраных структураў ці праяваў жыцця. Кожны кавалачак рэчаіснасці, якая нас атачае, ад прыроды сваёй пакліканы да таго, каб выклікаць у нас захапленне і здзіўленне.

Шмат гадоў таму я пісаў артыкул пра філасофію, пра розныя яе віды і задачы, у якім абвяшчаў, што «задачаю філасофіі не ёсць выпраўленне жыцця, але разам з тым ёсць неаспрэчным фактам, што філасофія — гэта адзін з чыннікаў, якія найбольш дзейсна ўплываюць на гэтае выпраўленне»[12]. Філасофія — не проста нейкае жыццёвае правіла, яна не раздае прадпісанняў, якія кажуць нам, як трэба паступаць, але калі ёй добра займацца — яна ўзвышае і паглыбляе нашую культуру думкі і культуру дзеянняў, г.зн. наш спосаб мыслення і наш спосаб дзеяння. Была яшчэ адна, даволі дзіўная назва, якую далі філасофіі ў платонаўскай школе *meditatio mortis* — разважанне смерці. Тут не ідзе гаворка пра панурае заглыбленне ў факт, што ўсё павінна скончыцца, што няма нічога трывалага, што набліжаецца канец і г.д. Пра гэта няма гаворкі, гаворка пра штосьці зусім іншае: калі добра займацца філасофіяй, яна мае быць школай, якая вучыць таму, што толькі ўмярцвенне нараджае жыццё, што няма жыцця без умярцвення, гэта значыць без зamірання адных элементаў на карысць развіцця іншых. І гэта тая рэч, якая мае каласальнае значэнне для ўсяго жыцця, для ўсёй найлепш разуметай аскезы. Гэта школа, якая дазваляе нам выбіраць і практыкуе нас у добрым разуменні шкалы вартасцяў, заўжды спрычыняецца да выпраўлення жыцця.

*Meditatio mortis*, ці разважанне смерці палягае на тым, што мы пастаянна — ад пачатку нашага свядомага жыцця да яго апошняга моманту — мусім рабіць выбар, выбар рэфлексійны, выбар думкі, бо тады павінны заўсёды выбіраць паміж большым і меншым дабром, і меншае дабро павінна заміраць, каб узрастала большае, менавіта гэта і ёсць медытацыя смерці, якая з'яўляецца нібы нараджэннем і паглыбленнем жыцця. Дзякуючы выхаванню ў сабе здольнасці да здзіўлення і ўмення добра ацэньваць вартасці мы з боку прыроджанага, нашымі ўласнымі высілкамі рыхтуем шлях мудрасці. Гэтая мудрасць у найвышэйшым вымярэнні ёсць, як мы ўжо казалі, дарам «звыш», але філасофія ў найбольш адпаведным значэнні слова — гэта падрыхтоўка мудрасці, узрошчванне яе «знізу», і мы ўсе пакліканыя да пераднавуковай філасофіі, якая нібы з неабходнасці тэалагічная, адкрытая на праблему Абсалюту, г.зн. на праблему безумоўнай і найвышэйшай вартасці, на праблему рэчаў найвышэйшых, на Бога.

Робячы першыя крокі ў філасофіі, у мудрасці, мы вучымся сузіранню. Філасофія — гэта проста школа прыроджанага сузірання. Мы прызвычаеныя гаварыць пра сузіранне толькі ў значэнні малітоўнага сузірання, якое набліжае нас да містычнага перажывання, гэта значыць пра сузіранне надпрыроднае. Але ёсць таксама сузіранне прыроджанае, натуральнае, якое ў сутнасці яшчэ не малітоўнае, але толькі падрыхтоўка да малітоўнага «ўглядання». Гэта, можна сказаць, сузіранне пераддзвернае, няпоўнае, сузіранне ўступнае, неабходнае для таго, каб у чалавеку цалкам магло

развіцца тое, другое. Калі нашая сучасная культура нагэтулькі перашкаджае нам чуць голас Евангелля, то гэта таму, што не маем вушэй, каб чуць і вачэй, каб бачыць, г.зн. не маем усёй той падрыхтоўкі, якую педагогіка павінна даваць ад самага пачатку: у сям'і і школе. Здавён мы выхоўваемся не ў духу першынства мудрасці, а ў духу першынства тэхнікі, першынства карыснасці, выгоды, камфорту. Нашая еўрапейская культура надзвычай шмат страціла ў параўнанні, напр., з пэўнымі культурамі Усходу ці Афрыкі. Развіццё дакладных навук, тэхнікі, выгодаў было аплачанае цаной неправўдападобна вялікай, а менавіта стратаю мудрасцева-сузіральных вартасцяў.

А пакліканне кожнага хрысціяніна, таксама і таго, які жыве ў свеце, у тым, каб весці жыццё сузіральнае і практыкаваць яго — як кажа Рэнэ Вуаём (René Voillaume)[13], — *au coeur des masses* («у сэрцы масаў»)[14] — у самім тлуме жыцця, у сярэдзіне таго, што адбываецца вакол нас, у віры абавязкаў і справаў. І таму філасофія як школа сузірання і мудрасці — справа неабходная для кожнага чалавека, можна сказаць, што яна — сапраўдная школа жыцця. Аднак філасофію такога кшталту мы дарэмна шукалі б сярод сучасных філасофскіх плыняў. Развіццё культуры белага чалавека прывяло да таго, што філасофскія разважанні, практыкаваныя навукова, пайшлі ў іншым, чым мудрасць, кірунку — і патрэбны велізарныя высілкі, каб перавесці стрэлку, трэба вярнуцца і часам вельмі далёка, нават не на дзясяткі, а на сотні гадоў назад, каб у нашай спадчыне думкі знайсці тыя вартасці, якія маглі б служыць нам указальнікамі на шляху ў цяперашні час. Дзе знайсці менавіта такую школу філасофіі, такога настаўніка?

Гаворка ідзе пра тое, каб мудрасць, якой мы вучымся, у якой маем практыкавацца, была мудрасцю ўніверсальнай, што падыходзіла б усім расам і ўсім культурам. Справа такога выбару і такога шукання вельмі цяжкая. Другі Ватыканскі Сабор, паводле агульнага меркавання, лічыцца Саборам пастаральным, душпастырскім, які нібыта забыўся пра філасофію. Так кажуць, але гэта няслушная інтэрпрэтацыя даробку і дасягненняў Сабору. Другі Ватыканскі Сабор у сваёй душпастырскай Канстытуцыі пра Касцёл у сучасным свеце *Gaudium et spes* выказвае такія вельмі важныя словы (падаю іх у лацінскім гучанні): *Servandi apud homines facultates contemplationis ac admirationis, quae ad sapientiam adducunt* («З захаваннем у людзях здольнасці да сузірання і здзіўлення, якія вядуць да мудрасці») — пра неабходнасць дастасавання сучаснай культуры (GS 56). У гэтых словах змяшчаецца праграма філасофіі, хоць гэта не называецца так у саборавым тэксце. Калі мы не патрапім разбудзіць у пакаленнях, што прыйдуць, здольнасці сузірання і здзіўлення, то будзем паглынутыя культурамі, якія яшчэ ў стане звярнуць увагу на гэтыя вартасці і творча іх развіваць. Вось чаму патрэбная філасофія, чаму патрэбная яна нам усім, чаму патрэбная асабліва ў Лясках. З гэтых меркаванняў як праваднікa ў занятках філасофіяй мы абіраем св. Тамаша.

*Працяг будзе.*

---

[1] Эцьен Жыльсон (1884–1978) — французскі хрысціянскі філосаф, якога лічаць неатамістам, прадстаўніком экзістэнцыйнага тамізму, даследчык Сярэднявечча. Даказаў уплыў схаластыкі і ў прыватнасці св. Тамаша Аквінскага на філасофскую канцэпцыю Дэкарта.

[2] Жак Марытэн (1882–1973) — французскі хрысціянскі філосаф і тэолаг, які лічыцца заснавальнікам неатамізму, прадстаўніком экзістэнцыйнага тамізму. Прапанаваў канцэпцыю інтэгральнага гуманізму, тры асноўныя прынцыпы якога — сцвярджэнне каштоўнасцяў асобы, суіснаванне людзей з імкненнем да грамадскага дабра, лучнасць з Богам.

[3] Кс. Уладзіслаў Карніловіч (нар. 5 жн. 1884 г., Варшава – пам. 26 вер. 1946 г., Ляскі) каталіцкі ксёндз, які разам з Альжбэтаю Ружай Чацкаю быў стваральнікам і духоўным кіраўніком Супольнасці Сясцёр Францішканак Слугаў Крыжа і Таварыства сляпых у Лясках. Быў духоўным аўтарытэтам для гуртка інтэлігенцыі («Kółko»), які групаваўся вакол гэтага духовага асяродку. Яго духоўным сынам, вучнем і сябрам быў пазнейшы Прымас Польшчы (названы Прымасам тысячагоддзя), кардынал, Слуга Божы Стэфан Вышынскі. У верасні 1978 г. распачаўся беатыфікацыйны працэс самога кс. Уладзіслава Карніловіча.

[4] Ружа Марыя Чацкая, вядомая таксама як маці Альжбэта Чацкая (нар. 22 кастр. 1876 г. у Белай Цэркве ва Украіне – пам. 15 тр. 1961 г. у Лясках), Слуга Божая, заснавальніца Супольнасці Сясцёр Францішканак Слугаў Крыжа і Таварыства сляпых у Лясках, апякунка сляпых. Паходзіла з сям'і графаў Чацкіх. З дзяцінства хварэла на вочы і ў 22 гады цалкам страціла зрок. Успрыняла гэтае як Божы знак і вырашыла заняцца апекаю над сляпымі дзецьмі і моладдзю, заснаваўшы дзеля гэтага адмысловы цэнтр непадалёку ад Варшавы ў в. Ляскі.

[5] *Лац.:* тут і цяпер.

[6] Адна з найбольшых выдавецкіх установаў Польшчы, заснаваная ў 1959 г. пры падтрымцы часопіса «Знак» і «Тыгодніка Повшэхнэго». Сядзіба ў Кракаве.

[7] Супольнасць Сясцёр Францішканак Слугаў Крыжа была закладзеная Слугой Божай Ружай Чацкай у 1918 г. у Лясках. Галоўны кірунак працы Супольнасці — апека над сляпымі дзецьмі і моладдзю.

[8] У польскім выданні гэтае месца з Кнігі Мудрасці падавалася ў перакладзе Чэслава Мілаша, у беларускай версіі даем свой пераклад з Сэптуагінты: Septuaginta. Ed. Alfred Rahlfs. Duo volumina in uno. – Stuttgart, 1979. Vol. 2. – P. 354–355.

[9] У польскім выданні гэтае месца з Кнігі Ёва падавалася ў перакладзе Чэслава Мілаша, у беларускай версіі даем свой пераклад з выдання: Biblia Hebraica Stuttgartensia. Ed. K. Elliger et W. Rudolph. Editio quinta emendata. — Stuttgart, 1997. P. 1255-1256.

[10] Джаванні Піко дэля Мірандоля (Giovanni Pico della Mirandola, 1463–1494) — італьянскі філосаф і містык, вучоны, пісьменнік — прадстаўнік рэнесанснага неаплатанізму. Незадоўга да смерці ўступіў у ордэн дамініканаў.

[11] Маецца на ўвазе кс. Тадэвуш Федаровіч (Tadeusz Fedorowicz, нар. 4 лют. 1907 г. на ўкраінскім Падоллі, пам. 26 чэрв. 2002 г. у Лясках). Вучыўся ў Львоўскім універсітэце імя Яна Казіміра, вывучаў права і тэалогію, быў сябрам Стэфана Свяжаўскага. У 1940 г. добраахвотна выехаў з вывезенымі ў Сібір людзьмі і спаўняў сярод іх свае святарскія абавязкі. Толькі ў 1944 г. яму ўдалося выехаць у Польшчу. На запрашэнне кс. Уладзіслава Карніловіча вёў душпастырскую працу і служыў капеланам Таварыства сляпых і Супольнасці Сясцёр Францішканак Слугаў Крыжа ў Лясках, быў вялікім аўтарытэтам для польскай інтэлігенцыі, якая гуртавалася вакол Лясак пры камуністычным рэжыме. Блізкі сябра Караля Вайтылы і яго спаведнік. Ян Павел ІІ напісаў пра яго ў кніжцы «Дар і Таямніца» (пер. Крыстыны Лялько. – Непакалянаў, 1998. – С. 48).

[12] Swieżawski Stefan. O roli filozofii i o niektórych jej typach; гл. у яго ж кнізе: Rozum i tajemnica. – Kraków 1960, S. 103–104.

[13] Рэнэ Вуаём (1905–2003) — французскі ксёндз, манах, заснавальнік Супольнасці Малых Братоў Езуса, у дзейнасці якіх спалучаюцца сузіральнае жыццё і праца ў свеце з убогімі людзьмі. Быў місіянерам у Сахары. Досвед сваёй дзейнасці апісвае ў кнізе «У сэрцы масаў» (Au coeur des masses).

[14] Voillaume Rene. Au coeur des masses. – Paris, 1957.




Бэнэдыкт XVI

# СВЯТЛО СВЕТУ: ПАПА, КАСЦЁЛ І ЗНАКІ ЧАСУ

## Размова з Петэрам Зээвальдам

*Фрагменты з кнігі*

### ГЛАБАЛЬНАЯ КАТАСТРОФА

*— Крызіс Касцёла — гэта адно, крызіс секулярызму — іншае. Першы крызіс, можа, і вялікі, але другі ўсё больш і больш нагадвае перманентную глабальную катастрофу.*

*У выніку кліматычных зменаў пашыраецца трапічны пояс Зямлі, падымаецца ўзровень мора. Растаюць полюсы, азонавыя дзіры ўжо не зарастаюць. Мы з'яўляемся сведкамі такіх трагедый, як нафтавая катастрофа ў Мексіканскім заліве, пажары, якія ахопліваюць велізарныя тэрыторыі, небывалыя па маштабах паводкі, непрадбачаныя хвалі гарачага паветра і перыяды засухі. Генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый Пан Гі Мун ужо ў верасні 2007 года, напярэдадні сесіі ААН у Нью-Ёрку акрэсліў стан планеты Зямля як «крайне небяспечны». Камісія па расследаваннях ААН устанавіла, што чалавецтву ўжо засталося толькі некалькі дзесяцігоддзяў да* ***point of no return*** *— «пункту вяртання», пасля якога будзе занадта позна ўласнымі сіламі трымаць пад кантролем праблематыку гэтага так моцна тэхнізаванага свету. Шэраг экспертаў лічыць нават, што гэты пункт ужо дасягнуты.*

— «І ўбачыў Бог усё, што Ён стварыў, — гаворыцца ў кнізе Быцця, — і было яно вельмі добрым». Таму выклікае жах тое, што сталася ад таго часу з гэтай цудоўнай планетай. Узнікае пытанне: ці проста Зямлі вытрымліваць велізарны патэнцыял развіцця нашага віду? Можа, яна ўвогуле не прыстасаваная для таго, каб мы заставаліся тут неабмежавана доўга? Ці мы тут нешта няправільна робім? Пра тое, што мы не застанемся тут навечна, нам гаворыць Святое

Пісанне, пра гэта кажа нам таксама досвед. Але, несумненна, нешта мы робім няправільна. Думаю, тут знаходзіць сваё адлюстраванне сукупнасць праблем, звязаных з паняццем прагрэсу. Сучаснасць шукала свой шлях, кіруючыся паняццямі «прагрэс» і «свабода». Але што такое прагрэс? Сёння мы бачым, што ён можа быць і разбуральным. Таму мы павінны падумаць над тым, якія трэба знайсці крытэрыі, каб прагрэс быў сапраўды прагрэсам.

Канцэпцыя прагрэсу мела спрадвеку два аспекты. Адзін датычыўся прагрэсу пазнання. Пад гэтым разумелі прагрэс у спасціжэнні рэчаіснасці. І ён здзейсніўся ў неймаверных маштабах у выніку спалучэння матэматычнай карціны свету і эксперымента. Сёння мы можам рэканструяваць ДНК — структуру, якая ляжыць у аснове жыцця, як і ўвогуле функцыянавання ўсяго, што існуе, — і дайшлі ўжо да таго, што можам часткова дабудоўваць яе і гатовыя нават узяцца за будаванне самога жыцця. Як бачым, разам з такім прагрэсам з'явіліся таксама новыя магчымасці ў чалавека.

*— Асноўная думка была: прагрэс — гэта пазнанне.*

— А пазнанне — гэта ўлада. Калі я нешта пазнаю, то магу таксама распараджацца гэтым. Пазнанне дае ўладу, але так, што з гэтай нашай уласнаю ўладаю мы можам у той жа час разбурыць і той свет, які — як мы лічым — трэба бачыць наскрозь.

Такім чынам, становіцца відавочным, што ў разгледжанай у сувязі з паняццем прагрэсу камбінацыі пазнання і ўлады адсутнічае важны момант, а менавіта аспект дабра. Паставім пытанне: што будзе добрым? Куды пазнанне павінна скіроўваць уладу? Ці гаворка ідзе толькі пра тое, каб увогуле мець магчымасць менавіта распараджацца, ці трэба таксама ставіць пытанне пра ўнутраныя крытэрыі, пра тое, што для людзей, для свету будзе добрым? А гэта, як я лічу, не адбылося ў дастатковай меры. У выніку этычны аспект, да якога адносіцца адказнасць перад Стварыцелем, па сутнасці паўсюдна не прымаецца ў разлік. А калі пазнаннем фарсіруецца толькі ўласная ўлада, то такі від прагрэсу становіцца на самай справе разбуральным.

*— Якія могуць быць наступствы гэтага?*

— Сёння трэба было б зрабіць вялікі рахунак сумлення. Што такое сапраўдны прагрэс? Ці прагрэс гэта, калі я магу разбураць? Ці прагрэс гэта, калі я сам магу вырабляць людзей, праводзіць сярод іх штучны адбор, знішчаць іх? Як апанаваць прагрэс, зрабіць яго маральным і гуманным? Але не толькі крытэрыі прагрэсу трэба было б абдумаць нанава. Разам з пазнаннем і прагрэсам гаворка ідзе таксама пра іншае асноўнае паняцце сучаснасці — пра свабоду. Пра тую свабоду, якая разумеецца як усёдазволенасць.

З такога мыслення вынікае прэтэнзія на тое, каб веды былі непадзельнымі. А таму, калі нешта можна зрабіць, то гэта дазволена рабіць. Усё іншае было б супраць свабоды.

Ці праўда гэта? Я думаю, не. Мы бачым, як нечувана ўзрасла ўлада чалавека. Але яго маральны патэнцыял разам з ёй не павялічыўся. Гэты дысбаланс адбіваецца сёння на пладах прагрэсу, які не клапаціўся асабліва пра маральнасць. Цяпер перад намі вялікая праблема: якія можна ўнесці папраўкі ў паняцце прагрэсу і ў тое, чым ён ёсць рэальна, а таксама, як можна пазітыўна падпарадкаваць яго паводле ўнутраных крытэрыяў? У гэтых адносінах патрэбны ўсёабдымныя фундаментальныя разважанні.

*— Тое, як цяжка нам даецца змяніць гэтыя крытэрыі прагрэсу, яскрава паказала Сусветная канферэнцыя па пытаннях клімату, што праходзіла ў 2009 годзе ў Капенгагене. Сямнаццаць гадоў спатрэбілася ўрадам краінаў гэтага свету ад першай сустрэчы ў Рыа да гэтага вырашальнага саміту, які прызнаны навукоўцамі, прадстаўнікамі арганізацый па ахове навакольнага асяроддзя і палітыкамі аднаой з найважнейшых канферэнцый у гісторыі чалавецтва. Падставаю паслужылі вынікі даследаванняў больш як тысячы навукоўцаў, якія па даручэнні Камісіі ААН па змене клімату (IPCC) падлічылі, што ў параўнанні з сёняшнімі глабальныя тэмпературы могуць павысіцца толькі максімум на два градусы. Пры далейшым пацяпленні кліматычная раўнавага будзе незваротна парушаная.*

*Аднак кампрамісны капенгагенскі праект не ўтрымлівае яшчэ ніякіх канкрэтных прадпісанняў. Сёння з вялікай упэўненасцю можна сцвердзіць, што вызначаная вучонымі мяжа ў два градусы, напэўна, ужо пройдзена. У выніку мы маем ураганы, паводкі, знішчаныя ўраджаі.*

*Хіба не ўмацоўвае гэта ў сваіх перакананнях таксама тых, хто лічыць чалавецтва відавочна няздольным увогуле калі-небудзь калектыўнымі намаганнямі адвесці пагрозу, якой з'яўляецца змена клімату?*

— Гэта на самай справе вялікая праблема. Што мы можам зрабіць? Перад абліччам катастрофы, якая пагражае свету, паўсюдна існуе між іншым усведамленне таго, што нам трэба прымаць рашэнні маральнага кшталту. Існуе таксама больш ці менш ярка праяўленае разуменне глабальнай адказнасці; разуменне таго, што этыка больш не можа адносіцца толькі да сваёй групы або сваёй нацыі, але павінна мець на ўвазе Зямлю і ўсіх людзей.

Як бачым, у наяўнасці пэўны патэнцыял маральнага ўсведамлення. Але ператварыць яго ў палітычныя намеры і ў палітычныя акцыі зноў жа паўсюдна робіцца немагчымым з-за таго, што адсутнічае гатоўнасць адмовіцца ад нечага. Сапраўды, гэта патрабавала б зменаў у нацыянальным бюджэце і ў канчатковым выніку лягло б на плечы кожнага, прычым гаворка тады зноў ідзе пра розніцу ў абцяжарванні розных групаў.

Такім чынам, становіцца ясным, што палітычныя намеры ў канчатковым выніку не могуць быць дзейснымі, калі ва ўсім чалавецтве — перадусім гэта датычыць галоўных носьбітаў развіцця і прагрэсу — няма новай, паглыбленай маральнай свядомасці і гатоўнасці ад нечага адмовіцца, якая была б канкрэтнай і надала б таксама вартасць жыццю кожнай асобы.

Таму ўзнікае пытанне: якім чынам вялікая маральная воля, якую ўсе падзяляюць і да якой усе заклікаюць, можа стаць асабістым рашэннем? Бо пакуль гэтага не адбудзецца, палітыка застанецца бяссільнай. А хто можа ўчыніць так, што гэтае ўсеагульнае ўсведамленне стане таксама нечым асабістым? На гэта здольная толькі такая інстанцыя, якая закранае сумленне, якая блізкая кожнай асобе і заклікае не толькі да нейкіх відовішчных мерапрыемстваў.

Як бачым, гэта выклік Касцёлу. Касцёл тут не толькі нясе вялікую адказнасць, ён, я сказаў бы, часта з'яўляецца адзінай надзеяй. Таму што Касцёл настолькі блізкі сумленню многіх людзей, што можа схіліць іх да таго, каб яны адмовіліся ад нечага, і сфармаваць у іх душах фундаментальныя паставы.

*— Філосаф Петэр Слотэрдзійк так сказаў пра глабальны гео-менеджмент: «Людзі з'яўляюцца атэістамі ў адносінах да будучыні. Яны не вераць у тое, што ведаюць, нават калі даць ім пераканаўчыя доказы таго, што павінна настаць».*

— Тэарэтычна яны, магчыма, ужо вераць. Але кажуць сабе: мяне гэта ўжо не будзе датычыць. У любым выпадку, *сваё* жыццё я не буду мяняць. І тады тут выяўляецца не толькі індывідуальны эгаізм, з якім людзі процістаяць адзін аднаму, але таксама эгаізм групавы. Прызвычаіўшыся да таго ці іншага спосабу жыцця, людзі натуральным чынам абараняюцца, калі гэты спосаб жыцця апынаецца пад пагрозай. Яны занадта мала бачаць узораў таго, як магло б канкрэтна выглядаць адмаўленне ад нечага.

З гэтага пункту гледжання значэнне ўзору маюць манаскія супольнасці. Сваім жыццём яны могуць даць своеасаблівы прыклад таго, што магчыма практыкаваць такі спосаб жыцця, які абапіраецца на рацыянальнае і маральнае адмаўленне ад нечага, і пры гэтым не адкідаць цалкам тыя магчымасці, якія дае наш час.

*— Калі гаворка ідзе пра добры прыклад, то аказваецца, што дзяржава таксама тут не на вышыні. Урады накапліваюць сёння даўгі ў небывалых раней памерах. Адна Германія заплаціць у 2010 годзе не менш за 43,9 мільярдаў еўра толькі для пагашэння банкаўскіх працэнтаў; гэта значыць дзеля таго, каб у дадатак да ўсяго нашага багацця мы жылі не па сродках. Адных гэтых выплатаў было б дастаткова, каб на працягу года забяспечыць прадуктамі харчавання ўсіх дзяцей у краінах, якія сталі на шлях развіцця.*

*Пачынаючы з таго моманту, калі выбухнуў фінансавы крызіс, ва ўсім свеце даўгі дзяржаваў узраслі на 45 працэнтаў і дасягнулі за гэты час узроўню звыш 50 трыльёнаў долараў — неймаверныя лічбы, небывалая яшчэ ніколі сітуацыя. Толькі краіны ЕС атрымліваюць у 2010 годзе крэдытаў на суму звыш 800 мільярдаў еўра. Новая запазычанасць у дзяржаўным бюджэце ЗША складае каля 1,56 трыльёнаў долараў — самы высокі ўзровень за ўсю гісторыю краіны. Таму гарвардскі прафесар Кенэт Рагоф сказаў, што больш няма нармальнасці, а толькі засталася яшчэ ілюзія нармальнасці. Несумненна, што наступныя пакаленні будуць абцяжараныя гіганцкімі даўгамі. Хіба ж гэта*

*таксама не вялікая і жахлівая маральная праблема?*

— Зразумела, гэта так, мы жывём за кошт наступных пакаленняў. З гэтага вынікае, што мы жывём у няпраўдзе. Жывём напаказ, а вялікія даўгі трактуем пры гэтым як нешта такое, што проста ўласцівае нам. Тут таксама тэарэтычна ўсе разумеюць, што трэба было б адумацца, зразумець нанава, што сапраўды магчыма, што можна і што дазволена. Аднак гэта не пранікае ў сэрцы людзей.

У адносінах да паасобных фінансавых планаў неабходны глабальны рахунак сумлення. Касцёл паспрабаваў зрабіць тут свой уклад з дапамогаю энцыклікі *Caritas in veritate*. У ёй не даюцца адказы, якія б выраралі ўсе праблемы. Але гэта крок да таго, каб паказваць рэчы ў іншай перспектыве і разглядаць іх не толькі з пункту гледжання поспеху і магчымасці нешта здзейсніць, але з той пазіцыі, што існуе нарматыўнасць любові да бліжняга, якая арыентуецца на Божую волю, а не толькі на нашыя жаданні. І тут патрэбныя такога роду імпульсы, каб на самай справе маглі адбыцца змены ў свядомасці.

*— Праблему нішчэння навакольнага асяроддзя мы ўсвядомілі. Але тое, што перадумоваю ратавання экалогіі з'яўляецца ратаванне нашага духоўнага азонавага слою і перадусім ратаванне нашых духоўных трапічных лясоў, здаецца, пранікае ў нашу свядомасць даволі марудна. Ці не павінны мы ўжо даўно спытацца: што там з затручваннем чалавечага мыслення, з забруджваннем нашых душаў? Многае з таго, што мы дапускаем у гэтай медыяльнай і камерцыйнай культуры, па сутнасці адпавядае таксічнаму абцяжарванню, якое амаль непазбежна павінна прывесці да духоўнага атручання.*

— Нельга не заўважаць, што мае месца атручанне мыслення, — яно ўжо загадзя ўводзіць нас у фальшывую перспектыву. Вызваленне ад гэтага праз сапраўднае навяртанне (выкарыстаем тут гэтае фундаментальнае для хрысціянскай веры слова) з'яўляецца адным з тых выклікаў, відавочнасць якога стала паўсюдна заўважнаю. У нашым свеце, арыентаваным на навуковасць і сучаснасць, такія паняцці больш не маюць ніякага значэння. Навяртанне, як яно разумеецца вераю, да Божай волі, якая паказвае нам шлях, палічылі старамодным і састарэлым. Паволі, аднак, на маю думку, становіцца бачным, што ў гэтым нешта ёсць, калі мы кажам, што павінны нанава ўсвядоміць сябе.

*— Абатыса і лекарка Хільдэгарда Бінгенская ўжо 900 гадоў назад трапна акрэсліла гэтыя сувязі ў наступнай формуле: «Калі чалавек грашыць, пакутуе космас». Праблемы цяперашняга гістарычнага моманту, — як пішаце Вы ў сваёй кнізе «Езус з Назарэта», — з'яўляюцца вынікам таго, што Бог становіцца ўжо непатрэбным. У іншым месцы Вы кажаце нават пра «згасанне святла, якое прыходзіць ад Бога».*

— Для многіх практычны атэізм з'яўляецца сёння звычайным жыццёвым правілам. Можа, існуе, лічаць яны, штосьці або хтосьці, хто ў старадаўнія часы даў штуршок свету, але нам да гэтага няма справы. Калі такі погляд становіцца паўсюдным спосабам жыцця, то тады свабода не мае ўжо больш ніякіх крытэрыяў, тады ўсё магчыма і дазволена. І таму так неадкладна трэба зноў вярнуць пытанню пра Бога цэнтральнае месца. І зразумела, што гэта не нейкі Бог, які існуе дзесьці, а Бог, які ведае нас, які прамаўляе да нас і цікавіцца намі, і які таму з'яўляецца нашым Суддзёю.

*Пераклад з нямецкай мовы Ірыны Бурак.*

*Паводле: Benedikt XVI. Licht der Welt: Der Papst, die Kirche und die Zeichen der Zeit. Ein Gespräch mit Peter Seewald. — Verlag Herder, 2010.*

*Працяг будзе.*

Тамаш Кэмпійскі

# СЬЛЕДАМ ЗА ХРЫСТОМ

## Чатыры кніжкі

*З лацінскай мовы пераклаў д-р Ст. Грынкевіч*

**КНІЖКА ЧАЦЬВЁРТАЯ**

## АБ НАЙСЬВЯЦЕЙШЫМ САКРАМЭНЦЕ

Пабожны заклік да сьвятой Камуніі

*Голас Хрыста*

**1.** *Хадзеце да Мяне ўсе спрацаваныя і абцяжараныя, а Я дам вам палягчэньне* (Мц 11, 28), — кажа Пан.

*А хлеб, які Я дам, — гэта цела Маё за жыцьцё сьвету* (Ян 6, 52).

*Бярыце і ешце: гэта ёсьць цела Маё, якое за вас будзе выданае, гэта рабіце на Маю памяць* (Мц 26, 26; Лк 22, 19; 1 Кар 11, 24).

*Хто спажывае Маё цела і п'е Маю кроў — ува Мне жыве, а Я ў ім* (Ян 6, 57).

*Словы, якія Я вам казаў, — ёсьць духам і жыцьцём* (Ян 6, 64).

**Разьдзел I**

*Зь якой пашанай трэба прымаць Хрыста*

**1.** О Езу, праўда спрадвечная, вось словы Твае, хоць не ў адным часе сказаныя і не ў адным месцы.

Але таму, што яны Твае, таму што яны праўдзівыя, трэба прымаць іх з падзякаю і зь вераю.

Твае гэныя словы, Ты іх казаў, але і мае яны, бо ж дзеля збаўленьня майго яны сказаныя.

З радасьцю падхопліваю іх з вуснаў Тваіх, каб глыбей пранялі яны сэрца маё.

Узрушаюць мяне словы так вялікае пабожнасьці, поўныя гэткае дабраты і салодкасьці ды любові, але палохаюць грахі мяне ўласныя, а нячыстае сумленьне з жахам глядзіць на гэныя вялікія таёмнасьці.

Салодкасьць слоў Тваіх парывае мяне, але стрымлівае велічыня грэшных нахілаў маіх.

**2.** Прыказваеш, каб я зь вераю падыходзіў да Цябе, калі хачу часьцінку мець з Табою, і каб прыняў я пажыву несьмяротнасьці, калі хачу атрымаць жыцьцё і хвалу вечную.

*Хадзеце,* — кажа, — *да Мяне ўсе спрацаваныя і абцяжараныя, а Я дам вам палягчэньне* (Мц 11, 28).

Слова гэта салодкае і мілае вушам грэшніка, слова, якім заклікаеш Ты, Пане Божа мой, кожнага патрабуючага і ўбогага да спажывы найсьвяцейшага цела Твайго.

Хто ж я такі, Пане, каб сьмеў прыступіцца да Цябе?

Вось *неба небаў ня здолее Цябе агарнуць* (1 Вал 8, 27), а Ты кажаш: «Хадзеце ўсе да Мяне».

**3.** Скуль і што гэта такое — гэная найміласэрнейшая ласка? Ды гэткія прыяцельскія запросіны?

Ці ж пасьмею я прыступіцца, калі нічога добрага ня бачу ў сабе, што магло б мяне асьмеліць?

Ці ж пасьмею ўпусьціць Цябе ў хату сваю я, які гэтак часта абражаў найласкавейшы Твой воблік?

Анёлы і арханёлы падаюць перад Табою, палохаюцца Цябе сьвятыя ды справядлівыя, а Ты кажаш: «*Хадзеце ўсе да Мяне*».

Калі б ня сам Ты, Пане, гэта казаў, хто ж даў бы веры?

А калі б ня сам Ты прыказваў — хто ж пасьмеў бы прыступіцца?

**4.** Вось Ной — чалавек справядлівы, ладзячы Арку сваю, сто гадоў працаваў, каб выратавацца мала з кім зь людзей, а я, якім чынам здолею падгатавацца за адну толькі гадзіну, каб прыняць як трэба Тварца сьвету?

Майсей, вялікі Твой слуга ды адмыслова ўлюбёны, з дрэва, якое ніколі не парахнее, зрабіў Арку і самым чыстым золатам абклаў яе ў сярэдзіне, каб пакласьці там табліцы Закону Твайго, а я, што не-

---

*Працяг. Пачатак у № 1–4 за 2007–2010 гг. і ў № 1–2 за 2011 г.*

калі на парашок расьцярушуся, пасьмею гэтак лёгка да Цябе, Даўцы законаў і жыцьця, прыступіцца?

Салямон, наймудрэйшы з усіх каралёў ізраэльскіх, цераз сем гадоў ставіў сьвятыню цудоўную Табе, на чэсьць Іменьня Твайго.

А восем дзён сьвяткаваў урачыстасьць асьвячэньня яе; тысячу ахвяраў, каб вымаліць згоду, ён паклаў, ды пры гуках трубаў і радасным гомане людзей — на месца належнае Арку ўмовы урачыста паставіў.

А я няшчасны і самы мізэрны зь людзей — якім чынам буду клікаць Цябе ў хату сваю, я, які ледзь паўгадзіны мог вытрываць на пабожных малітвах? Ды каб на’т гэную хвілінку хоць раз стрываў я, як трэба!

**5.** О Божа мой, яны гэтак стараліся ўсё рабіць успадобу Табе!

Бяда ж ты мая — я гэтак мала раблю! Як мала часу пасьвячаю на тое, каб падгатавацца, як трэба, да сьв. Камуніі.

Мала калі думка мая не расьцярушаная і вольная ад пастаронніх думак.

А сапраўды ў Тваёй збаўленнай прысутнасьці не павінна ўва мне быць ніякая грэшная думка, і не павінен зважаць я на ніякае стварэньне на зямлі, бо ж манюся прыняць я ў госьці не Анёла, а самога Пана Анёлаў у хаце сваёй.

**6.** Бо ж вялікая розьніца паміж Аркаю ўмовы зь яе сьвятасьцямі і найчысьцейшым целам Тваім з усенькай моцай яго; паміж ахвярамі Старога Закону, вобразамі толькі будучых ахвяраў ды сапраўднаю ахвяраю цела Твайго, якая дапаўняе ўсе тыя папярэднія.

Чаму ж тады сэрца маё не гарыць агнём вялікшым да сьвятое Твае тутака прысутнасьці?

**7.** Чаму ж з вялікшай увагай не падгатаўляюся, каб прыняць сьвятасьць Тваю, калі тыя старадаўнія сьвятыя патрыярхі ды прарокі, каралі ўсе ды князі з усенькім народам выказвалі гэтулькі пабожнасьці ды ўчуцьця каля службы Богу?

**8.** Найпабажнейшы кароль Давід, успамінаючы дабрадзействы, дадзеныя некалі Айцом, скакаў Пану прад Аркай з усіх сіл сваіх; парабіў ён розныя прыладзіны да музыкі, складаў псальмы ды загадаў, каб пялі іх з радасьцяй; і сам часта іграў на цытры, пяючы адначасна, натхнёны ласкаю Духа Сьвятога; вучыў, каб народ ізраэльскі з усенькага сэрца Бога славіў ды штодзень згоднымі галасамі благаславіў і маліўся. Дык калі тады было гэткае вялікае набажэнства, калі Арка ўмовы колішняя заахвочвала памятаваць на Божыя ласкі і хвалу, — якую ж пашану мне ды ўсяму народу хрысьціянскаму трэба мець у прысутнасьці Сакрамэнту, ды з якой пабожнасьцю трэба нам прыняць Найсьвяцейшае Цела Хрыста!

**9.** Шмат ёсьць такіх людзей, што ходзяць з месца на месца, адведваючы рэліквіі сьвятых; захопліваюцца, чуючы іхныя дзеі, бачаць вялізарныя будыніны сьвятыняў ды цалуюць сьвятыя косьці, злажаныя ў шоўку ды золаце.

А вось тутака, на алтары, Ты прысутны перада мною, Божа мой, сьвяты з найсьвяцейшых, Тварэц людзей і Пан над анёламі.

Тамака часта адна толькі цікаўнасьць вядзе людзей ды ахвота паглядзець на новае, і таму малы плод іхні з гэтае паправы, асабліва калі адведваюць яны лёгкадумна і бяз жалю за грахі свае.

А тутака вось, у Сакрамэнце алтара, Ты ўсенькі прысутны, Божа мой, Бог-Чалавек, Езус Хрыстус: тутака шчодры плод вечнага збаўленьня можам дастаць, калі толькі будзем прымаць Цябе годна і пабожна.

Сюды нас ня маняць ані лёгкадумнасьць, ані цікаўнасьць, ані пачуцьцёвасьць, а толькі цьвёрдая вера, пабожная надзея ды шчырая любоў.

**10.** О невядомы Тварэц сьвету, Божа, як цудоўна Ты дзеіш з намі! Як салодка і ласкава дарыш Ты выбраных сваіх, якім самога сябе аддаеш, каб прымалі ў Сакрамэнце!

Ніякі розум ня здоляе гэтага ўцяміць: і гэта асабліва зварочвае сэрцы пабожныя да Цябе і павялічвае любоў.

Бо тыя сапраўдныя верныя Твае, якія імкнуцца на працягу ўсяго свайго жыцьця, каб паправіцца з грэшнага жыцьця, — у гэным найсьвяцейшым Сакрамэнце атрымоўваюць і ласку пабожнасьці, і любоў да цноты.

**11.** О дзіўная, таёмная ласка Сакрамэнту, якую ведаюць толькі верныя Хрыста! Няверныя ж ды тыя, што служаць грахом, ня здолеюць ніколі спазнаць яе! Праз гэты Сакрамэнт зыходзіць ласка Духа Сьвятога, і душа здабывае цноту і красу, якую праз грэх страціла.

Магутнасьць ласкі гэнае падчас так вялікая, а пабожнасьць, што на ёй узгадавалася , так грунтоўная, што ня толькі розум слабы, а на’т і цела мляўкае ў ёй новыя сілы знаходзіць.

**12.** А таму плакаць трэба надта і шкадавацца, гледзячы на сваю нядбайласьць і халоднасьць ды ў канцы і гультайства, тады калі прымаем мы Хрыста, у якім уся надзея і заслуга тых, якія хочуць збавіцца.

Бо ж Ён толькі сам нас усьвяціць і адкупіць: Ён пацеха ўсіх вандроўнікаў і вечнае шчасьце сьвятых.

Такжа дужа жалець трэба, што шмат ёсьць такіх, якія мала зважаюць на гэную таёмнасьць збаўленьня, якой і неба весяліцца, і сьвет якой трымаецца.

О якая ж гэта сьляпата і цьвёрдасьць сэрца чалавечага! Яно ня толькі што не захопліваецца штораз больш гэтым цудоўным дарам, але на'т наадварот — штораз менш зьвяртае на яго ўвагу, таму што можа ім карыстацца кожнага дня.

**13.** Бо калі б гэты Найсьвяцейшы Сакрамэнт быў у адным толькі месцы, ды каб адзін толькі духоўнік мог яго ахвяраваць, зь якім імкненьнем беглі б тады людзі да таго духоўніка, каб толькі ўбачыць, як адпраўляецца гэная Божая таёмнасьць!

Маем, аднак, шмат духоўнікаў і шмат дзе ахвяроўваецца Хрыстус, каб тым больш была выяўлена ласка ды любоў Бога да чалавека, чым шырэй распаўсюджваецца сьвятая Камунія на сьвеце.

Дзякуй вялікі Табе, добры Езу, вечны наш Пастыру, што нас, марных згнаньнікаў, схацеў пасіліць сваім Целам бязцэнным і Крывёю сваёю схацеў нас напаіць, ды яшчэ заклікаеш сам нас да гэнае таёмнасьці сваімі вуснамі, кажучы: *Хадзеце да Мяне ўсе, спрацаваныя і абцяжараныя, а Я дам вам палягчэньне* (Мц 11, 28).

**Разьдзел II**

*Вялікая дабрата і любоў Бога да чалавека аб'яўляюцца ў Найсьвяцейшым Сакрамэнце*

**1.** Спадзеючыся на вялікую дабрату ды на міласэрнасьць Тваю, Пане, прыходзіць хворы да Збаўцы, галодны ды з смагаю вялікаю — да крыніцы жыцьця, бедны — да Валадара неба, слуга — да Пана, стварэньне — да Тварца свайго, пакінуты — да свайго міласэрнага пацяшыцеля.

Дзеля чаго ж, аднак, Ты прыйшоў бы да мяне?..

Хто я такі, каб даваў Ты мне самога сябе?

Ці ж пасьмее грэшнік паказацца перад Табою? А як гэта Ты, Пане, зволіш прыйсьці да грэшніка?

Ты добра ведаеш слугу свайго, дык ведаеш, што нічога добрага ў сабе ён ня мае, каб рабіць яму гэную ласку.

Вось жа прызнаюся да благоцьця майго, бачу Тваю дабрату, праслаўляю Тваю міласэрнасьць ды дзякую за вялікую любоў.

Дзеля самога сябе Ты гэта робіш, а ня дзеля заслугаў маіх; каб паказаць мне больш сваю дабрату, каб больш прышчапіць яшчэ любові ў сэрца маё ды каб яшчэ больш навучыць мяне пакорнасьці.

Таму, калі гэтак Табе ўспадобу ды гэтак Ты загадаў, у захопленасьці прымаю я ласку Тваю; каб жа толькі не перапыньвала мяне грэшнасьць мая!

**2.** О найлепшы, найласкавейшы Езу! Зь якою пашанаю, зь якою падзякаю ды заўсёднаю хвальбою нам трэба зьвяртацца да Цябе за тое, што даў Ты нам Найсьвяцейшае Цела Тваё, годнасьці якога ня здоляе выказаць ніводзін з людзей!

Але што ж я падумаю, прымаючы гэнае Цела, прыступаючы да Пана майго, якога, як трэба, і славіць не патраплю, а якога, аднак, пабожна прыняць імкнуся?

Што ж падумаю лепшае ды карысьнейшае, калі ня тое, каб цалкам спакарыцца перад Табою ды выхваляць Тваю бязконцую дабрату адносна мяне?

**3.** Хвалю Цябе, мой Божа, ды выхваляю на векі. Пагарджаю сабою, а схіляюся перад Табою аж да глыбіні благоцьця свайго.

Вось Ты, Найсьвяцейшы з Сьвятых, а я самы благі з усіх грэшнікаў.

І вось Ты схіляешся да мяне, а я нягодны глянуць на Цябе.

Вось Ты прыходзіш да мяне, Ты хочаш быць са мною, Ты заклікаеш мяне да свайго стала.

Хочаш мне даць стравы нябеснае і хлеб анёлаў, каб я еў, як нішто іншае, як Ты сам: *хлеб Божы, што з неба прыйшоў, — і дае жыцьцё сьвету* (Ян 6, 33).

**4.** Вось крыніца любові, скуль плыве гэная дабрата, якою Ты зіхаціш! Як жа трэба за гэта Табе дзякаваць ды як выхваляць Цябе!

О які карысны ды збаўленны быў Твой прысуд, калі ўстанавіў Ты гэны сьвяты Сакрамэнт!

Якая салодкая ды радасная вячэра, дзе самога сябе на страву Ты даеш нам!

О якія ж дзіўныя дзеі Твае, Пане! Якая ж вялікая магутнасьць Твая! Якая нявыказаная праўда Твая!

Бо сказаў Ты толькі, і ўсё сталася, і сталася так, як Ты загадаў.

**5.** Цудоўная справа, якую вераю агарнуць толькі магчыма, бо вялікшае гэта за сілы розуму чалавечага, што Ты, Пане Божа мой, сапраўды Бог і Чалавек, пад самаю маленькаю часьцінкаю хлеба ды віна хаваешся ўсенькі, а той, хто спажыве Цябе, нічым не парушае суцэльнасьці асобы Тваёй.

О, Ты, Пан сьвету ўсенькага, які нічога ніколі не патрабуеш, Ты хацеў праз Сакрамэнт Твой жыць у нас; ня дай, каб сэрца і цела маё спляміліся, каб зь вясёлым ды чыстым сумленьнем часьцей я патрапіў сьвяткаваць ды дзеля майго збаўленьня вечнага прымаць таёмнасьці, якія Ты дзеля хвалы сваёй ды на вечную памятку сваю — усьвяціў і ўстанавіў.

**6.** Весяліся, душа мая, ды дзякуй Богу за гэткі знатны дар, за гэную асаблівую ды шматцэнную пацеху, пакінуў Ён якую на гэтай сьлёзаў даліне.

Бо калі толькі спамянеш на гэную таёмнасьць ды прымеш Цела Хрыста, заўсёды тады дзееш на карысьць свайго збаўленьня і становішся ўчасьнікам усіх заслугаў Хрыста.

Бо любоў Хрыста ніколі ня меншае, а крыніца міласэрнасьці Ягонае ніколі не высыхае.

І дзеля таго, каб прыняць гэты Сакрамэнт, трэба табе кожны раз падгатавацца, заўсёды аднаўляючы духа свайго і ўсьцяж глыбей разважаючы гэту вялікую тайніцу збаўленьня людзкога.

Калі Імшу адпраўляеш ці бываеш прысутным на ёй, няхай здаецца табе гэная таёмнасьць гэткаю вялікаю, новаю, гэткаю радаснаю, як быццам Хрыстус у гэную хвіліну зыходзячы ў лона Маці-Дзевы, ставаўся чалавекам, або ў гэную самую хвіліну прыбіты на крыжы, церпіць ды ўмірае, каб збавіць род чалавечы.

**Разьдзел III**
*Карысным ёсьць часта прыступаць да сьв. Камуніі*

**1.** Вось прыходжу да Цябе, Пане, каб абдарыў Ты мяне дарам сваім і каб узьвесяліўся я на Тваім банкеце сьвятым, які *ўбогаму наладзіў Ты, Божа, у салодкасьці сваёй* (Пс 17, 11).

Вось у Табе ўсё, чаго я толькі жадаць магу і мушу; Ты збаўленьне маё і адкупленьне, надзея і дужасьць, прыгожасьць і слава.

*Разьвесялі душу слугі свайго, бо да Цябе, Пане, падняў душу я сваю* (Пс 85, 4).

Хачу я цяпер пабожна ды з пашанаю прыняць Цябе; хачу ўвясьці Цябе ў хатку сваю, каб, як Захэй, заслужыць на бласлаўленьне ад Цябе ды трапіць у лік сыноў Абрагама.

Душа мая жадае Цела Твайго, сэрца ж маё імкнецца з Табою злучыцца.

**2.** Дай Ты мне самога сябе, і хопіць мне гэтага. Бо апроч Цябе — няма для мяне пацехі.

Без Цябе не магу існаваць і жыць не патраплю без наведзінаў Тваіх.

І дзеля гэтага часта мне трэба прыступацца да Цябе ды прымаць Цябе дзеля бясьпекі збаўленьня майго, каб часам без нябеснае стравы не прапаў я на сваім шляху.

Бо ж сам Ты, найміласэрнейшы Езу, калісь вучачы народы ды лечачы ўсялякія немачы хворых, так сказаў: *Не хачу пусьціць іх галоднымі да хаты, каб не пасталі ў дарозе* (Мц 15, 32).

Дык паступай гэтак і са мною, бо ж Ты пакінуў сябе ў Сакрамэнце для верных на пацеху.

Бо Ты — салодкая страва для душы, і хто табою, як трэба, будзе карыстацца, учасьнікам будзе ды спадкавічам хвалы вечнае.

А дзеля таго, што гэтак часта ўпадаю ды грашу, гэтак хутка млею ды нядужэю, трэба, каб частымі малітвамі, споведзямі ды прыманьнем сьвятога Цела Твайго сябе я абнаўляў, абчышчаў ды запальваў агонь любові, каб доўга не адкладваючы сваіх намераў, не адступіцца мне ад іх зусім.

**3.** Бо маюць нахіл пачуцьці чалавецкія да благоцьця ад маленства свайго, а калі не пасьпеюць лекі нябесныя, горш яшчэ будзе з чалавекам.

Сьвятая Камунія адцягвае ад благоцьця ды ўзмацоўвае ў дабры.

Дык калі гэтак часта цяпер я нядбалы ды халодны, камунікуючы ці Імшу адпраўляючы, што ж было б, калі б зусім я кінуў гэны лек цудоўны ды не прымаў гэнае падмогі вялікае?

І хаця не заўсёды, не на кожны дзень я, як трэба, настроены ды падгатаваны адпраўляць гэную таёмнасьць, усё ж такі буду імкнуцца, каб прынамся ў дні ўрачыстыя прымаць добра Цела і Кроў Пана, а цераз гэта зьяўляцца ўчасьнікам гэткае вялікае ласкі.

Бо ж гэта самая вялікая пацеха душы, пакуль вандруем у целе сьмяротным, каб, часта памятаючы на Бога, душа гэта ўлюблёнага свайго пабожна прымала.

**4.** О цудоўны плод дабраты Тваёй! Ты Пан і Бог мой, Ты Тварэц і Ажывіцель усіх духаў, Ты схацеў прыйсьці да беднае душы з усёю Боскасьцю ды чалавецкасьцю сваёю, каб голад прагнаць, каб накарміць яе.

О шчасьлівая ды бласлаўлёная тая душа, якая патрапіць пабожна прыняць Цябе, Пана Бога свайго, а прыняўшы Цябе, напоўніцца вясельлем духу!

О якога ж вялікага Пана прымае яна, якога госьця дарагога вітае, якога мілага сябру находзіць яна, якога вернага прыяцеля, якога прыгожага ды шляхотнага ўлюбенца, які варты найвялікшае любові, ды якога трэба больш за ўсіх любіць.

Няхай змоўкнуць перад воблікам Тваім — найслодшы ды наймілейшы Божа мой — неба і зямля, і ўсенькае іх хараство, бо што толькі ў іх ёсьць, чым могуць пахваліцца, усё гэта Ты ім падарыў, і нішто не зраўняецца з хараством і хвалаю Імя Твайго, *мудрасьці якога няма ліку* (Пс 146, 5).

**Разьдзел IV**
*Вялікім дабром карыстаюцца тыя, што пабожна камунікуюцца*

**1.** Пане Божа мой, *папярэдзі слугу свайго бласлаўленьнямі салодкасьці Тваёй* (Пс 20, 4), каб патрапіў прыступіцца да Твайго велічэзнага Сакрамэнту дастойна ды пабожна.

Зварухні сэрца маё да сябе і з цяжкой нячуласьці вырві мяне. *Адведай мяне збаўленьнем сваім* (Пс 105, 4), каб здолеў я скаштаваць салодкасьці Тваёй, якая ў гэным Сакрамэнце, казаў бы ў крыніцы, знаходзіцца ўпоўні.

Дай сьвятло вачам маім, каб патрапілі глядзець яны на так вялікую таёмнасьць, і дай мне сілы, каб я верыў у яе верай непарушнай.

Гэта ж усё Твая справа, а ня плод чалавецкае дужасьці, гэта Твая сьвятая ўстанова, а ня выдумка чалавека.

Затым ніхто сам цераз сябе ня будзе гэткім разумным, каб агарнуць і сьцяміць тое, што перавышае на'т і здольнасьць анёлаў.

Дык якім чынам я, грэшнік нягодны, зямля і попел, здолею нешта дасьледзіць ды сьцяміць у так вялікай таёмнасьці?

**2.** Пане, у прастаце сэрца майго, з добраю ды цьвёрдаю вераю, паводле загаду Твайго, прыступаюся да Цябе з надзеяй ды пашанай і веру шчыра, што Ты прысутны тутака ў Сакрамэнце як Бог і чалавек.

Хочаш, каб я прыняў Цябе і злучыўся з Табою ў любові?

Дзеля гэтага зьвяртаюся да міласэрнасьці Тваёй і прашу адумысловай ласкі, каб усенькі расстаяў я ў Табе, а сэрца маё стала поўнае любові да Цябе, ды каб ужо ніякае іншае пацехі нідзе я не шукаў.

Бо ж гэты Найвялікшы і Найсьвяцейшы Сакрамэнт зьяўляецца збаўленьнем душы і цела, ды адначасна гэта лек на ўсе немачы духа, у ім спраўляюцца нястачы мае, стрымліваюцца грэшныя нахілы, перамагаюцца ды паменшваюцца спакусы, даецца вялікшая ласка, пабольшвае цнота, дужэе вера, падкрапляецца надзея, і запальваецца ды пашыраецца любоў.

**3.** Шмат якімі дарамі Ты надзяліў улюблёных сваіх, якія пабожна камунікуюцца, ды яшчэ штораз больш іх надзяляеш; о Божа мой, Збаўца душы маёй, Лекар нядужасьці чалавецкае ды Даўца ўсякае пацехі ўнутранае!

Бо вялікую даеш пацеху сярод розных турботаў і з чорнае роспачы падымаеш да надзеі на помач Тваю, ды апроч таго, нейкаю новаю ласкаю так ажыўляеш і асьвячаеш, што людзі, якія прад Камуніяй палохаліся і былі зімнымі, пасіліўшыся Целам Тваім, шмат пераінакшыліся на лепшае.

А ўсё гэта дзеля таго даеш сваім выбраным, каб сапраўды спазналі ды ўбачылі, наколькі яны нядужыя самыя ў сабе, а сколькі дабраты і ласкі дастаюць яны ад Цябе. Бо самыя праз сябе халодныя, цьвёрдыя ды мала пабожныя — праз Цябе ж яны робяцца гарачымі, ахвотнымі і пабожнымі.

Бо хто толькі спакораны прыступаецца да крыніцы ласкавасьці, ці ж хоць крыху ня возьме стуль яе?

Або хто ж, стоячы каля вялікага агню, ня возьме зь яго хоць крышку цяпла?

А Ты — крыніца заўсёды поўная і перапоўненая, Ты — агонь, заўсёды гарачы і ніколі ня гаснучы.

**4.** Вось жа, калі нявольна мне чэрпаць з паўнаты крыніцы і піць зь яе дасыта, прытулю, аднак, губы свае хоць да беражку пратоку нябеснага і хаця адну маленькую каплечку вазьму стуль, каб смагу паменшыць, каб ня высахнуць зусім.

І калі яшчэ я не зусім патраплю быць нябесным ды гэткім гарачым, як хэрубімы і сэрафімы, буду, аднак, імкнуцца трываць у пабожнасьці і падгатаваць сэрца сваё, каб, пакорна прымаючы аджыўчы Сакрамэнт, мог я атрымаць хаця адну іскрачку з агню Божага.

А калі чагосьці мне не хапае, Ты, Езу добры, Збаўца найвялікшы, дапоўні мне цераз ласку сваю і міласэрнасьць, Ты, які клікнуў да сябе ўсіх, кажучы: *Хадзеце да Мяне ўсе, спрацаваныя ды абцяжараныя, а Я дам вам палягчэнне* (Мц 11, 28).

**5.** Я ж працую так, што пот зрасіў мне чало, болі разьдзіраюць сэрца маё, грахі цягнуць мяне да зямлі, спакусы турзаюць на ўсе бакі, а розныя благія, грэшныя нахілы блытаюць ды путаюць мяне — і няма нікога, хто памог бы мне; няма нікога, хто асвабадзіў бы ды схаваў бы мяне, апроч Цябе, Божа, Збаўца мой, якому ўсё дарую сваё і самога сябе, каб сьцярог Ты мяне ды давёў да жыцьця вечнага.

Прымі мяне для чэсьці і славы Імя свайго, Ты, што на страву і піцьцё аддаў мне Цела сваё і Кроў сваю.

Дай, Пане Божа, Збаўца мой, каб з кожным разам, калі я прыступаю да таёмнасьці Тваёй, — павялічвалася пабожнасьць мая.

*Працяг будзе.*



# Кветачкі святога Францішка

У імя Пана нашага
ўкрыжаванага Езуса Хрыста
і Яго Маці Панны Марыі
ў гэтай кнізе выкладзеныя
некаторыя справы,
цуды і прыклады добрапрыстойнасці
слаўнага нябогі Хрыстовага
месэра святога Францішка
ды іншых яго святых паплечнікаў.
Хвала Езусу Хрысту.
Амэн.

**Частка LIII**

*Як, цэлебруючы Імшу, брат Ян з Верны зваліўся, быццам мёртвы*

Згодна з тым, што расказвалі браты, якія пры гэтым прысутнічалі, з братам Янам у згаданым кляштары Мальяна здарыўся адзін раз такі цудоўны выпадак: у першую ноч пасля тыдня святога Ларэнца і ў тыдзень Унебаўзяцця Маці Божай, пасля таго, як ён адслужыў Ютрань разам з іншымі братамі, сышла на яго міласць Божай ласкі, і пайшоў ён у сад дзеля сузірання цярпенняў Хрыста і каб падрыхтаваць сябе ўсёй сваёй пабожнасцю да цэлебрацыі Імшы, на якой раніцай ён павінен быў спяваць. І, стоячы ў сузіранні словаў кансэкрацыі Цела Хрыстова, а менавіта: *Hoc est Corpus meum*[1], разважаў аб бясконцай міласэрнасці, дзеля якой Ён не толькі захацеў адкупіць нас сваёй бясцэннай Крывёю, але найперш пакінуць нам як ежу для нашых душаў свае высакародныя Цела і Кроў; у яго душы пачалі расці такі жар і такая салодкасць любові да пяшчотнага Езуса, што не мог ён болей трываць у душы сваёй, а пачаў моцна крычаць і, быццам ап'янелы духам, не спыняючыся, гаварыў пра сябе: «*Hoc est Corpus meum*». Калі ён прамаўляў гэтыя словы, яму здавалася, што ён бачыў Хрыста благаслаўлёнага з Паннай Марыяй і з мноствам анёлаў, і ў гэтых сваіх словах ён быў прасветлены Духам Святым ва ўсіх глыбокіх і высокіх цудах гэтага высокага Сакрамэнту.

І калі настаў світанак, ён у гэтым полымі духу і з гэтай прагай, і з гэтымі словамі зайшоў у касцёл, думаючы, што ніхто яго не чуе і не бачыць, але на хорах маліўся нейкі брат, які ўсё бачыў і чуў. І, не могучы ў гэтай сваёй палымянасці ўстрымацца з-за раскошы Божай ласкі, крычаў на поўны голас, і так ён прабыў, аж пакуль не надышоў час цэлебраваць Імшу, таму ён пайшоў рыхтавацца і падышоў да алтара.

Калі ён распачаў Імшу, то чым далей, тым больш расла ў ім любоў да Хрыста і тая палымянасць пабожнасці, з якой яму было дадзена

---

*Працяг. Пачатак у 3 за 2007 г.*

невыказнае пачуццё Бога, якое ён сам не ўмеў і не мог перадаць мовай. Таму, баючыся, як бы гэтая палымянасць і пачуццё Бога не ўзраслі настолькі, што яму давядзецца пакінуць Імшу, быў ён у вялікім сумненні і не ведаў, што рабіць: або працягваць Імшу або пачакаць. Але паколькі ўжо з ім здарылася падобная рэч, і Пан суцішыў гэты імпэт, яму не спатрэбілася перапыняць Імшу; спадзеючыся, што так адбудзецца і на гэты раз, з вялікай перасцярогай ён пачаў далей цэлебраваць Імшу. І калі ён ужо дайшоў да малітвы Мадонны, у ім настолькі пачала ўзрастаць Боская прасветленасць і ласкавая салодкасць Божай любові, што калі ён дайшоў да *Qui pridie*[2], то ледзь мог трываць такую салодкасць і пяшчоту. Нарэшце ён дайшоў да таямніцы кансэкрацыі і, прамаўляючы над аплаткай словы кансэкрацыі, сказаў толькі палову словаў, а менавіта: *Hoc est*, і ніякім чынам не мог рухацца далей, але працягваў паўтараць тыя самыя словы *Hoc est*, а прычына, па якой ён не мог ісці далей была ў тым, што ён бачыў і адчуваў прысутнасць Бога з мноствам анёлаў, чыю велічнасць ён не мог вытрываць, і бачыў, што Хрыстус не заходзіў у аплатку або, інакш кажучы, што аплатка не пертваралася ў Цела Хрыста, калі ён не скажа другую частку словаў, а менавіта «*Corpus meum*». Таму, знаходзячыся ў такой трывозе і не рухаючыся далей, вартаўнік ды іншыя браты, а яшчэ шмат свецкіх, што былі ў касцёле і слухалі Імшу, падышлі да алтара і стаялі спалоханыя, назіраючы і разважаючы над дзеяннямі брата Яна, і многія з іх плакалі ад пабожнасці.

Але нарэшце, пасля доўгага часу, па волі Божай, брат Ян вымавіў «*Corpus meum*» моцным голасам, і адразу хлеб змяніў сваю форму, і ў Гостыі ўзнік Езус Хрыстус Благаслаўлёны, уцелаўлёны і пахвалёны, і паказаў яму пакорлівасць і ласку, дзеля якіх адбылося Яго ўцелаўленне ад Панны Марыі і якое адбываецца кожны дзень у руках святара, калі ён кансэкруе аплатку. А таму ён яшчэ больш узняўся ў пяшчоце сузірання. Тады, узняўшы Гостыю і асвячоны келіх, ён быў захоплены і апынуўся па-за сабою, а паколькі душа яго вызвалілася ад цялесных адчуванняў, цела яго звалілася назад, і калі б яго не падтрымаў вартаўнік, які стаяў за ім, ён бы зваліўся спінаю на зямлю. Таму падбеглі браты і свецкія, якія былі ў касцёле, мужчыны і жанчыны, і занеслі яго ў рызніцу, быццам мёртвага, бо цела яго стала халодным, быццам цела мёртвага чалавека, а пальцы на руках задзервянелі так моцна, што амаль зусім не маглі выпрастацца або рухацца. І ў такім выглядзе ён ляжаў змярцвелым ці захопленым да трэцяй гадзіны, і было гэта летам.

І паколькі я там прысутнічаў, то вельмі жадаў ведаць, дзеля чаго Бог вырашыў так дзейнічаць праз яго, і адразу, як толькі ён апрытомнеў, пайшоў да яго і прасіў яго дзеля любові да Бога ўсё мне расказаць. Тады Ян, моцна мне давяраючы, расказаў усё па парадку і між іншым сказаў мне, што калі ён здзяйсняў кансэкрацыю і нават раней, сэрца яго было вадкім, быццам расплаўлены воск, а цела — быццам без касцей, так што ён амаль не мог узняць рук і далоняў, каб зрабіць знак крыжа над Гостыяй і над келіхам. Яшчэ ён мне сказаў, што перш чым стаць святаром, яму было адкрыта Богам, што ён павінен будзе страціць прытомнасць падчас Імшы, але паколькі ён адслужыў ужо не адну Імшу і ні разу нічога з ім не здарылася, ён падумаў, што адкрыццё было не ад Бога. І яшчэ за пяць гадоў да Унебаўзяцця Маці Божай, у якое здарыўся гэты выпадак, таксама яму было адкрыта Богам, што гэты выпадак павінен быў з ім здарыцца на свята Унебаўзяцця; але потым ён забыўся пра гэтае адкрыццё.

Слава Хрысту. Амэн.

[1] Гэта ёсць Цела Маё.
[2] Напярэдадні сваіх цярпенняў.

*Пераклад з італьянскай мовы Аксаны Данільчык.*

*Працяг будзе.*



Ксёндз Люцыян Хмялёвец. Фота 1930-х гг.

Іван Драўніцкі

# Святар-патрыёт Люцыян Хмялёвец

Бацькі Люцыяна Хмялёўца жылі ў Цэнтральнай Польшчы — Келецку. У сям'і было сямёра дзяцей. Люцыян нарадзіўся 12 траўня 1914 года. Пачатковую адукацыю атрымаў у Мацеевічах, дзе яго сястра працавала настаўніцай, потым паехаў да маці, Валерыі, якая жыла ў той час у Беластоку, дзе ў 1933 годзе скончыў гімназію.

Незаможная сям'я Хмялёўцаў была дружнай, усе дзеці выхоўваліся па-каталіцку. З малых гадоў Люцыян прыслужваў у касцёле, з цікавасцю слухаў пропаведзі святароў. Ён бачыў несправядлівасць у грамадстве, маральную глухасць некаторых людзей і вырашыў прысвяціць сябе служэнню Богу, дабру і справядлівасці. У 1939 годзе ён скончыў у Вільні Вышэйшую духоўную семінарыю і тэалагічны факультэт Віленскага ўніверсітэта імя С. Баторыя. Паспяхова абараніў дысертацыю і атрымаў вучонае званне доктара тэалогіі. У гэтым жа годзе біскупам Ялбжыкоўскім быў накіраваны працаваць святаром у Ваўкалату, а ў красавіку 1940 года пераведзены ў канстанцінаўскую парафію былога Свірскага раёна Маладзечанскай вобласці.

1 верасня 1939 года пачалася Другая сусветная вайна, і 17 верасня Чырвоная Армія ўвайшла ў Канстанцінава. Разам з войскам прыбылі і аддзелы палітычнага вышуку НКВД, якія сталі браць на ўлік асаднікаў, работнікаў культуры, пошты, чыгункі, гміны, настаўнікаў, леснікоў, вышукваючы «ворагаў народа». Пачаліся рэпрэсіі. І ў гэтую жорсткую ваенную пару ксёндз Люцыян Хмялёвец заступаўся за пакрыўджаных, ратаваў ад смерці сваіх парафіянаў.

Узімку 1941 года сталі вывозіць у Сібір людзей цэлымі сем'ямі. Трапіла пад «хапун» і сям'я лесніка Урублеўскага з засценка Ганугы (цяпер Мядзельскі раён), у якога было шасцёра малых дзяцей. Заробку хапала, каб толькі пракарміць сям'ю, цёплага адзення, абутку дзеці не мелі, басанож зімой сядзелі на печы.

Святар Люцыян Хмялёвец збялеў, калі даведаўся, што гэтых дзетак, закруціўшы босыя ножкі ў кудзелю, у саракаградусны мароз павезлі на чыгунку, каб адправіць у Сібір. І ён паехаў у Свір да раённага начальніка, каб заступіцца за сям'ю лесніка. Але ў адказ пачуў: «Ты заступаешься за врага народа, значит и сам такой же. Подожди, скоро будет и твоя очередь!»

Здзейсніць пагрозу перашкодзіла вайна. З самага яе пачатку немцы гналі шматлікія калоны палонных чырвонаармейцаў на станцыю Канстанцінава. Змучаных, галодных, іх размясцілі на плошчы перад касцёлам. З мястэчка і навакольных вёсак сталі збірацца салдаткі і мацяркі, чые мужы і сыны былі мабілізаваныя ў Чырвоную Армію: думалі, што сярод палонных адшукаецца родная душа. Фашысты не падпускалі людзей да палонных. Адзін чырвонаармеец падпоўз да сажалкі напіцца, але фашыст паслаў яму ў спіну кулю...

На паратунак няшчасным прыйшоў святар Люцыян Хмялёвец. Ён валодаў нямецкай

мовай і ўгаварыў камандзіра канвою даць дазвол накарміць галодных. Па просьбе святара жанчыны прыгатавалі цэлы цэбар варыва, а канваіраў «улагодзілі» вясковымі прысмакамі і нават «шнапсам» (гарэлкай). Пяцёра сутак кармілі вяскоўцы, а перад адпраўкай сабралі кожнаму «тармазок». Асабліва шчыравалі салдаткі і яўрэйкі.

У час акупацыі ўлада на Свіршчыне належала ваеннаму каменданту, які кватараваў у Свіры. Фашысты сталі вылаўліваць дзяржаўна-партыйны даваенны актыў і габрэяў. Знайшліся здраднікі, якія перадалі акупантам спіскі актывістаў і яўрэяў. Пазначаных у спісе людзей немцы арыштавалі, рыхтавалася расправа. Просьбы дзяцей, жонак, маці аб вызваленні арыштаваных не мелі выніку, і тады вернікі звярнуліся па заступніцтва да ксяндза.

4 ліпеня раніцай кс. Люцыян накіраваўся ў Свір да каменданта, які згадзіўся вызваліць людзей пад асабістую адказнасць ксяндза. Аб гэтым быў складзены адпаведны дакумент, які ксёндз падпісаў і замацаваў касцёльнай пячаткай. У выніку гэтай акцыі было выраватана ад смерці 10 чалавек: Баляслаў Карманскі, Іосіф Карманскі, Вацлаў Вярбіцкі, Адольф Харашэй, Усцін Позныш, Адольф Навашынскі, Афрэй Ізраэлевіч, Мірон Мордхавіч, Лойка Свірскі і Сайна Свірская.

Семярых арыштаваных — Антона Драневіча, Івана Драневіча, Міхаіла Сінькевіча, Віктара Лявіцкага, Станіслава Грыгаровіча, Антона Жаброўскага і Мар'яна Палэйку — немцы паспелі адправіць у Лынтупы ў распараджэнне гестапа. Ксёндз узяў з сабою старшыню касцёльнага камітэта Антона Лукашэвіча і касцёльнага эканома Невяроўскага і паехаў выручаць людзей. Шэсць вязняў удалося вызваліць. Мар'яна Палэйку немцы расстралялі ў Лынтупскім лесе, бо на яго быў персанальны данос суседа, які помсціў яму за тое, што Палэйка «з'еў» яго сына пры Саветах — адправіў у ФЗН.

Некаторыя з вызваленых адразу перайшлі на нелегальнае становішча, а потым сталі партызанамі. Пэўна, не здабраваць бы ксяндзу, калі б даведаліся пра гэта фашысты, але ваенны камендант са Свіры з'ехаў і справа не ўсплыла.

Калі на Свіршчыне і Мядзельшчыне разгарнуўся партызанскі рух, немцы для барацьбы з партызанамі сталі прымяняць блакады, выпальваць цэлыя вёскі, іншы раз і з людзьмі. Працаздольнае насельніцтва яны вывозілі на работы ў Германію, а дзяцей — у канцэнтрацыйныя лагеры.

Хаця савецкія разведчыкі з недаверам ставіліся да святароў на акупаванай немцамі тэрыторыі, але адзін рэзідэнт — «Авіятар», уражаны ўчынкам кс. Люцыяна Хмялёўца, у справаздачы адзначаў: «Захопленае ў час экспедыцыі насельніцтва сагналі ў часовыя канцлагеры Паставаў, Свянцянаў, мястэчка Канстанцінава і іншых. У мястэчках Гадуцішкі, Канстанцінава, горада Свянцяны гітлераўцы арганізавалі гандаль людзьмі. Прадавалі за тры-пяць марак за схопленае ў час экспедыцыі дзіця. Святар канстанцінаўскай парафіі выратаваў жыццё 50 дзецям, выкупіўшы іх у нямецкіх гандляроў рабамі і іх халуёў».

Калі я распытваў пра гэты факт у гаспадыні ксяндза Марыі Бекіш са Старой Вёскі, яна назвала лічбу 70 дзяцей, якіх выкупіў ксёндз і вярнуў бацькам альбо родзічам ці знаёмым, калі



Канстанцінаўскі касцёл.

бацькі былі забітыя ці вывезеныя ў Германію. Адно ўратаванае чалавечае жыццё заслугоўвае пахвалы і ўдзячнасці, а тут дзясяткі.

І яшчэ адна характэрная рыса гэтага чалавека — дабрачыннасць. З небагатай прыкасцёльнай гаспадаркі — невялікі кавалак зямлі, конь, карова — ён выгадаваў двух пляменнікаў, Цэзарыя і Андрэя, бацька якіх, польскі афіцэр, быў закатаваны бальшавікамі ў Катыні. Ён дапамагаў выхоўваць удаве Эміліі Колтан двух хлапцоў — Янку і Петруся, адзінокай Эміліі Клімашэўскай аказваў падтрымку ў выхаванні дачушкі Марыі, рэгулярна дасылаў сціплыя падарункі Гэлене Лукашэвіч, якая гадавала шасцёра дзяцей.



У дзень 90-гадовага юбілею старэйшы святар Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі прэлат Люцыян Хмялёвец прымае віншаванні кардынала Казіміра Свёнтка. 2004 г.

Радасная вестка аб заканчэнні вайны акрыліла народ. У канстанцінаўскім касцёле пробашч Хмялёвец цэлебраваў Імшу ў гонар Перамогі, маліўся за душы палеглых і закатаваных, за мір, шчасце і светлую будучыню. Аднак спакойна займацца пастырскай дзейнасцю святару не давялося: пачалося атэістычнае засілле. Першай прычэпкай стала тое, што ён польскі падданы. У студзені 1958 года яму забаранілі праводзіць у касцёле службу. Мясцовыя ўлады вырашылі выкарыстоўваць касцёл пад склад для зерня. Гэта было зроблена наўмысна, бо складоў хапала. Па загадзе старшыні калгаса да касцёла падагналі машыну з зернем, але мясцовыя жыхары згружаць зерне ў святыню адмовіліся. Тады прыслалі курсантаў свірскага СПТВ. Ратаваць касцёл прыбеглі жанчыны са Старой Вёскі. Калі адзін мех трапіў на Сімановіч Юзэфу, жанчыны паднялі моцны гвалт, курсанты разбегліся. Мяшкі ўкінулі назад у машыну і прынялі рашэнне класціся пад колы машыны, каб не дапусціць апаганьвання святыні.

Пачалося змаганне за дазвол ксяндзу адпраўляць у касцёле службу. Ва ўсе канцы паляцелі ад парафіянаў просьбы, але ўсе яны вярталіся назад, на разгляд мясцовых уладаў. Упаўнаважаны па справах рэлігіі пры Савеце Міністраў СССР даў такі адказ: «Быць духоўным кіраўніком савецкіх людзей — пераважнае права савецкіх падданых». Як законапаслухмяны чалавек, кс. Люцыян Хмялёвец прыняў савецкае грамадзянства, але гэта дало яму толькі часовую перадышку ад ганенняў. 4 красавіка 1961 года пракурор адабраў у яго даведку на права займацца духоўнай дзейнасцю. На гэты раз яму інкрымінавалі падбухторванне вернікаў свірскай парафіі да барацьбы за адкрыццё мясцовага касцёла, арганізацыю хабару высокапастаўленаму чыноўніку ў Мінску і ўдзяленне шлюбу маладым членам партыі. Распачаўся судовы працэс, які цягнуўся цэлы тыдзень. Дапыталі каля 80 сведак, запрасілі на працэс тэлебачанне, мяркуючы зрабіць вялікае атэістычнае шоу. Але ксяндза апраўдалі, бо доказаў яго антыканстытуцыйнай дзейнасці не было. Гэты фарс сястра ксяндза суседняй парафіі Гэлена Шылэйка характарызавала так: «Думалі растаптаць ксяндза, а ён выйшаў героем». Ксяндзу вярнулі дазвол на права працаваць пробашчам, але ўпаўнаважаны па культах ігнараваў рашэнне суда і прапанаваў яму пакінуць парафію. Ксёндз астравецкага касцёла Інгелевіч пераканаў кс. Л. Хмялёўца пакінуць парафію, бо ад савецкіх уладаў чакаць справядлівасці не выпадала. Л. Хмялёвец падаў заяву аб сваёй згодзе працаваць у іншай парафіі і атрымаў прызначэнне ў парафію Дзераўное Стаўбцоўскага раёна.

Ксёндз моцна перажываў перамену парафіі, спадзяваўся, што яго вернуць назад.

— У душы я меў надзею, — успамінаў кс. Люцыян Хмялёвец, — што праўда ўсё ж пера-



Магіла кс. Люцыяна Хмялёўца на цвінтары канстанцінаўскага касцёла.

можа, што мяне вернуць працаваць у Канстанцінава, дзе я адслужыў звыш 20 гадоў, дзяліў з парафіянамі ваеннае ліхалецце і цяжкія пасляваенныя гады. Але ўлады былі глухія.

Яшчэ ён успамінаў, як пракурор Гушчык штотыдзень выклікаў яго ў пракуратуру і пагрозліва пытаўся:

— Ну дзе працуеш? Ідзі ў калгас гной кідаць ці кукурузу палоць, а інакш як дармаеда адпраўлю да белых мядзведзяў!

— Я ад'язджаў у Дзераўное, — дзяліўся ўспамінамі кс. Л. Хмялёвец, — і зайшоў у пракуратуру далажыць аб гэтым пракурору.

— Что вы из себя строили мученика? Давно бы так, — такімі словамі сустрэў мяне пракурор. А калі даведаўся, што са мною пераязджае і мая гаспадыня Марыя Бекіш, запытаў:

— А она не ваша сожительница случайно? Без медицинской справки о её девственности ничего не будет.

Давялося Марыі Бекіш прайсці і праз гэту абразу — прынесці бессаромнаму «ахоўніку маралі» адпаведную даведку.

З 23 кастрычніка 1963 года кс. Люцыян Хмялёвец працаваў у парафіі Дзераўное. Тут ён у 1989 годзе ўрачыста адзначыў паўвекавы юбілей свайго святарства, атрымаў ад Яна Паўла II годнасць генеральнага вікарыя Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Ён быў сябрам і памочнікам кардынала Казіміра Свёнтка. Тут жа ён адзначыў і свой 90-гадовы юбілей.

65 гадоў кс. Люцыян ахвярна служыў Богу, дапамагаючы многім адчуць сваё пакліканне стаць святаром ці выбраць дарогу манаскага служэння Богу. Ён быў настаўнікам і выхавацелем цяпер ужо біскупа Антонія Дзям'янкі, ксяндза Віталія Гайца, настаяцельніцы бэнэдыктынак Імальды Дзям'янкі, сястры ўршулянкі Чаславы Навіцкай, сястры Вольгі Грышан з супольнасці сясцёр Святой Сям'і з Бардо і іншых адданых Богу людзей.

Няўдзячнасць савецкіх уладаў ён памятаў, але не крыўдаваў, прабачаў, бо, як сказана ў Святым Пісанні, людзі не ведаюць, што чыняць. «Што-кольвечы робіш — рабі з розумам і прадбач вынік», — гэтыя словы былі жыццёвым крэда святара Люцыяна, які ўсё рабіў з розумам і верыў, што ў грамадства вернуцца нармальныя адносіны да рэлігіі.

Хаця прайшло больш за сорак гадоў, як кс. Люцыян Хмялёвец быў змушаны пакінуць Канстанцінава, удзячныя вернікі памятаюць яго. Памятаў і ён іх. У апошнім лісце ён пісаў наступнае: «Не будзе спакою сярод чалавецтва, пакуль людзі не будуць выконваць два законы любові: да Бога і да бліжняга».

3 чэрвеня 2004 года а 13-й гадзіне ксяндза прэлата Люцыяна Хмялёўца не стала. Выконваючы яго волю, святара пахавалі на цвінтары канстанцінаўскага касцёла, побач з магілай маці.

Сёлета ў Камароўскай СШ прайшоў вечар «Вянок памяці», прымеркаваны да 98-х угодкаў з дня народзінаў вялікага чалавекалюба ксяндза Люцыяна Хмялёўца.

Верагодна, выратаваныя пробашчам людзі яшчэ жывуць. Было б добра, каб яны прыслалі свае лісты пра сябе, сваё жыццё па адрасе: Канстанцінаўскі касцёл, паштовае аддзяленне Камарова, індэкс 222394, Мядзельскі раён Мінскай вобласці. Вашы лісты, а пажадана і фотаздымкі, зоймуць пачэснае месца ў касцёльнай плябаніі і будуць *Вянком памяці* Вашаму выратавальніку.



# «МАЛЫЯ ДЫ ПРАЎДЗІВЫЯ АПАВЯДАННІ» ГРАФІНІ ГАБРЫЭЛІ

Уладзіслаў Сыракомля назваў Габрыэлю з Гюнтэраў Пузыню (1815–1869) — ***«святаркай нашай зямлі».*** І гэта былі не выпадковыя «красныя словы». Яе першы зборнік вершаў пад назвай *«W imię Boże» («У імя Божае»)* убачыў свет у Вільні ў 1843 годзе. Гэта быў своеасаблівы свецкі вершаваны малітоўнік — «кантычка» для хатняга набажэнства, як і вызначалі яго сутнасць сучасніцы, сяброўкі-чытачкі паэткі. Літаратурнае жыццё сярэдзіны XIX ст. у нашым краі немагчыма было ўявіць без *«аўтаркі ў імя Божае»*, як яна сама любіла падпісваць свае наступныя кнігі. З-пад яе пяра выходзілі новыя вершы, апавяданні, п'есы, урэшце — найважнейшыя для культуры нашага краю ўспаміны *«W Wilnie i dworach litewskich» («У Вільні і літоўскіх дварах»)*. Пераклад гэтага вялізнага, але, на жаль, на дзве трэці страчанага твора, першая частка якога была апрацавана і выдадзена польскімі даследчыкамі Адамам Чарткоўскім і Генрыкам Масціцкім у 1928 г., мною ў бліжэйшы час завяршаецца і рыхтуецца да друку.

У 1850–1860-я гады Габрыэля з Гюнтэраў Пузыня (*«аўтарка ў імя Божае»*) была прызнанай ва ўсім беларуска-літоўскім краі пісьменніцай, любімай і шанаванай за глыбокі мясцовы беларуска-літвінскі патрыятызм, за чуласць і спагаду да бліжняга, прычым не толькі арыстакрата з свайго асяроддзя, але перадусім да людзей убогіх, пагарджаных светам, да тых жа сялянаў, якім яна заўжды спагадала, уважліва прыглядаючыся да іх побыту, дапамагаючы ў розных патрэбах. Яна ж, патомная — і па бацьку, і па маці (з Тызенгаўзаў) — графіня-арыстакратка, заўважала ў сялянах іх чалавечнасць, годнасць ды высакародства душаў і ўчынкаў. Пісала аб гэтым у апавяданнях*. Графіня Габрыэля ўжывала ў сваіх творах мову «простага люду» — беларускую мову, якую таксама шанавала, хоць пісала па-польску, што было звычайна для таго часу. Гэта была ў поўным сэн-

се слова графіня-філантропка, графіня-асветніца, графіня – патрыётка беларускай зямлі, якая яе ўзрасціла. Яна, як жыццядайная пладаносная галінка, нібы ўвабрала ў сябе ўсю моц і водар спрадвечных каранёў беларушчыны: этнаграфічных, ландшафтна-пpасторавых, гістарычных ды духоўных, што асвятлялі ўсю яе дзейнасць прамянамі жывой хрысціянскай каталіцкай веры.

Многія пісьменнікі нашай зямлі таго часу — і яна сама, і кумір усіх тагачасных літвінска-беларускіх «краёўцаў» Адам Міцкевіч, па збегу акалічнасцяў не гаварылі па-беларуску, але думалі і жылі беларускім духам. Да таго ж Габрыэля з Гюнтэраў Пузыня была практычная і глыбокая верніца-каталічка, якая свой духоўны досвед таксама ахвяравала на дабро і адраджэнне роднага краю, гэта значыць менавіта Беларусі, дзе былі ўладанні яе бацькі. Найперш гэта быў палац у Дабраўлянах у колішнім Ашмянскім павеце — месца сустрэч усёй мясцовай інтэлігенцыі краю (цяпер вёска Дабраўляны ў Смаргонскім раёне, але ад палаца засталося толькі месца, дзе ён знаходзіўся, ды капітальны мураваны масток праз роў). А пазней гэта былі яе ўласныя сядзібы: Гарадзілава — маёнтак яе мужа Тадэвуша Пузыні, з якім узяла шлюб у 1851 г. і найчасцей жыла ў яго. Гэта і двор Патулін, які пабудавала сама як «устронь» — «зацішлівы куток» ад вялікасвецкай мітусні. Двор быў пабудаваны ў Нястанішках, атрыманых у 1850 г. разам з Заблоццю ў спадчыну па бацькоўскім, графа Адама Гюнтэра, распараджэнні, які падзяліў паміж трыма дочкамі свае ўладанні і адпісаў Габрыэлі якраз гэтыя два маёнткі. Менавіта гэтыя «літоўскія» (а насамрэч беларускія) двары яна апіша ў сваіх успамінах «W Wilnie i dworach litewskich» («У Вільні і літоўскіх дварах»).

Мне хочацца пазнаёміць чытачоў «Нашай веры» з трыма па-мастацку зграбнымі і тонкімі апавяданнямі графіні Габрыэлі, у якіх можна адчуць водар тагачаснага жыцця. А праз яго струменіць водар вечных хрысціянскіх каштоўнасцяў і тонкае ўменне графіні-пісьменніцы перадаць у рэальных аб’ектыўных дэталях і суб’ектыўных пераліваx пачуццяў тое няўлоўнае хараство жыцця, якое не састарэе ні праз якія акалічнасці часу. Чым больш і глыбей я перачытваю і перакладаю яе творы на сучасную беларускую мову, тым больш актуальнымі і змястоўнымі здаюцца мне словы Уладзіслава Сыракомлі пра яе:

*У благаслаўлёнай зямлі Палямона,*
*У шматлікім шэрагу ваяроў пяра*
*Вітай нам, вітай, святарка** натхнёная,*
*Бог Твае словы апраменьваць будзе,*
*А Літва сэрцам зразумець іх мусіць,*
*І празрэе сляпы, і пачуе глухі.*

Пераклад трох апавяданняў графіні Габрыэлі («Незабыўная драбніца», «Як бы я хацела жыць» і «Хросны бацька») зроблены паводле выдання: Puzynina G. Małe a prawdziwe opowiadania. – Wilno, 1857.

*Ірына Багдановіч*

*Гл. публікацыю ў часоп. «Маладосць», 3, 2011.
** У арыгінале *kapłanką*. Падрадковы пераклад страфы мой. – І. Б.



Дабраўляны — сучасны выгляд месца, дзе стаяў палац графа Адама Гюнтэра (бацькі Габрыэлі Пузыні).

Габрыэля Пузыня

# ЯК БЫ Я ХАЦЕЛА ЖЫЦЬ

З дзяцінства, як мне памятаецца, у марах пра будучыню я заўсёды больш ахвотна паглядала ўніз, чым угару; спрычынялася да гэтага, на жаль, адсутнасць высокіх памкненняў і разам з тым немудрагелістасць жаданняў. Ніколі таксама, ці то седзячы на саламяным табурэце, ці то на лаве або (як здараецца на вёсцы) на бервяне ці на камені, — ніколі не прыйшло мне ў галаву пазайздросціць тым, хто сядзіць на троне. А колькі разоў, едучы шпацырам за горад у зручным шпаркім вазку, хацелася мне быць на месцы тых, хто ішоў пехатою!.. Было ў тым жаданні крыху дзіцячай прагі да вольнасці і сваволі, але апроч таго, ішоўшыя пешшу здаваліся мне больш свабоднымі і даступнымі, чым мы. Да іх далучаліся спатканыя па дарозе знаёмыя, тады як нам ледзьве даставаўся іх мімалётны паклон. Бачыла іх таксама стомленымі, калі яны сядзелі на ўзгорку на траве і пазіралі на прыгожую Вілію, якая для нас паспявала толькі бліснуць! Для нас шпацыр заканчваўся перад заходам сонца, каб рэшту вечара правесці ў замкнёным салоне. Яны ж вярталіся позна ў змроку, пры месяцы, з ахапкамі бэзу і чаромхі, фіялак і пралесак, не лічачы пры гэтым не заўважных для вока свежых і ніколі не ўвядальных букетаў — з успамінаў і ўражанняў!..

Ці ж дзіўна, што гледзячы на тое толькі з акна, шкадавала я вазок і карэту, успрымаючы іх як сімвал жыцця багатых і моцных? Бо хіба не гэтак яны праводзяць сваё жыццё, не даючы сабе часу на пачуцці і ўражанні? І я пачала марыць аб умеркаванасці, давяла сабе, што шчасце не ўмее хадзіць па лесвіцах, што ў занадта вялікіх палацах яно заблудзіцца, у занадта пышных сукенках не пазнае нас, а тых, хто едзе занадта шпарка, не дагоніць...

Заўсёды пры гэтым я стварала нейкія праекты дамоў, у якіх магла б жыць... І з кожным годам той дом станавіўся меншы, патульнейшы, аж пакуль не абярнуўся ў домік, дамочак такі маленькі, што ў ім, на першы погляд, і змясціцца цяжка, аднак можна; бо ён, як бюро Мюллера, увесь у кампартыментах, уборных, неспадзяванках, здольны пашырацца на покліч гасціннасці... Дамок мой у летнюю пару меўся быць увітым і ўкрытым плюшчом, бярозкай ды дзікім вінаградам. У вокны заглядае бэз, недалёка салавей, а вясна пахне і спявае ад рання да ночы! І зімою, хоць бы ніхто не адведаў пустэльніцы, не пуста мне і не нудна; бо досыць каміна і лямпы для таго, каб увесь дамок развесяліўся. На дзядзінцы — разложыстая старапольская ліпа з лаўкамі, за дамком — квяцісты сад, за садам — зарослы дубамі яр, а ў яры — рака (вялікая ці малая, абы літоўская); а навокал — касцёл, вёска, лясы, неба і адусюль вольны падыход. Сціпла для цела, прасторна для вока і для ўяўлення; вось гэта мой ідэал жыцця і жыхарства ў такой ступені, што не будзь я хрысціянкай, услед за Піфагорам верыла б, што душа мая, пакуль не ўвайшла ў цяперашняе цела, ужо даўней жыла на свеце *устрыцай у акіяне*! Чаму лепей не жамчужнай ракавінай, — запытаеце? Ах, бо для гэтага трэба ў сцішанасці і глыбіні свайго сэрца тварыць пярліны; а я не выліла такіх слёз у жыцці, якія б мелі вартасць перлаў у вачах Бога.

Няхай вас не смяшыць ні мой дамок, ні маё параўнанне; я ў сваім жыцці бачыла столькі прасторных палацаў, у якіх было цесна, столькі схаванага недастатку пры гучных дастатках, столькі нуды пры забавах, столькі няладу пры раскошы; і наадварот, так часта мне было выгодна ў цеснаце, так весела без прыгатаванняў, так пышна пры ашчаднасці! Столькі разоў я чула з вуснаў багатых, што ўбогія не ўмеюць быць убогімі, і столькі разоў я магла пераканацца, што раптам разбагацелы не ўмее быць багатым. Таму мне прыйшло ў галаву паспытаць хоць у марах, а ці зможа багаты быць бедным? Пастарайцеся толькі мяне зразумець: я не багаццем пагарджаю, толькі жыццём багатых, такім незалежным на выгляд, але такім нявольніцкім па сутнасці! О! Я ў сваіх марах аб дамку, вёсцы і садзіку не забылася на дастаткі; і маю

дзе-якія сумы ў банку ці скарбы на выспе Монтэ-Хрысто; толькі што багацце маё не абцяжарвае майго штодзённага жыцця, але, як чулы і разумны апякун і дабрачынца, чувае нада мной здалёку, баронячы ад нястачы і выконваючы толькі самыя пачцівыя мае пажаданні. Але ці такое шчасце магчымае? Ці няма ў ім граху? Кожны стан з волі Бога мае сваю горыч, а праз тое свае заслугі і пацяшэнне. Не варта таму збіраць з іх ружы, а калючкі пакінуць! Хто ведае, ці ў асляпленні столькіх багатых не крыецца мудрасць Божая, якая жадае выклікаць у нас пагарду да зямных дастаткаў? Ведаем жа мы і нясмак, і адказнасць, і няволю прывязанасці да дастаткаў, калі нам хочацца багаццяў, і мы не зайздросцім ніякім пацехам, дазволеным умеркаванасцю! Альбо прымаем умеркаванасць ахвотна, з усімі яе добрымі і дакладлівымі бакамі, з яе паніжэннем, з яе спадзяваннем на будучыню, з яе дробязнасцю, з яе прозай; але адначасова з яе прастатой, чалавечнасцю, даступнасцю і тым, што яна ёсць пробным каменем людскіх сэрцаў!

Шчасце не ёсць больш лёгкім у адным ці другім стане, але ёсць у разуменні жыцця, у карыснасці жыцця, у святасці жыцця, у прыстасаванні таго жыцця да нашага характару, становішча і патрэбаў. А таму цяжка мець поўнае, асалоднае, спадчыннае шчасце, з якім бы чалавек нарадзіўся; трэба, каб да гэтага спрычынілася шмат асобаў, шмат рэчаў, шмат гадоў, як да збору ахвяраванняў для сіраты або выгнанца; заўсёды недастаткова, калі іх уласная праца не падвоіцца...

Калі пішу гэтае, блытаючыся ў параўнаннях і домыслах, атрымліваю ліст ад маёй пляменніцы — чатырнаццацігадовай дзяўчынкі, якая ва ўзрушэнні маладога сэрца дзякуе за нязначны падарунак... Тая ўдзячнасць яе, такая шчырая, заліла маю душу невымоўнай слодыччу! А пакольки па малым каліве можна меркаваць аб вялікім, то хто ж ведае, ці не найпраўдзівейшым, адзіным, можа, на гэтай зямлі нашым шчасцем ёсць радасць іншых, да якой мы спрычыніліся?..

*Напісана ў 1850 годзе.*

# ХРОСНЫ БАЦЬКА

Заканчваўся карнавал 185... года, і кожны наступны баль усё мацней электрызаваў напышлівыя і прыхаматлівыя пажаданні. Вось жа, нібы тая муха, што, усеўшыся каля самага вока, здольная засланіць найпрыгажэйшы будынак, падобна і мне стужкі ды кветкі, патрэбныя для заўтрашняга балю, акруцілі думкі так, што калі карэта затрымалася раптам пасярод вуліцы, а фурман сказаў, што далей ехаць не можна, толькі тады я ледзьве заўважыла нязвыклы людскі натоўп, які сабраўся пад брамай сціплага будынка са знакам жалобы. Там жа стаяў і ўбогі катафалк, а перад ім цэлы шэраг айцоў бэрнардынаў на чале з крыжам. Увесь той пахавальны картэж перакрываў мне дарогу да моднай крамы, куды я спяшалася па элеганцкія ўпрыгожванні на наступны дзень. Мне давялося выйсці з карэты і пад парасонам, бо ішоў дождж (дождж у лютым — гэта невыносная рэч!), ісці пешшу да крамы пана Род... Там знайшла я толькі малую дзяўчынку, якая не магла мне дагадзіць.

— А дзе сам пан Р., — спытала я.

— Выйшаў у горад, мабыць, на пахаванне.

— Ну трэба ж, пахаванне другі раз ужо засціла мне дарогу! Хто ж памёр?

— Гэта недалёка адсюль, на рагу, пан Тамашэўскі.

— Што, вытворца шчотак? А! Шкада такога добрага майстра.

І тады я прыпомніла, як сама купляла ў яго найлепшыя ва ўсёй Вільні шчоткі і шчотачкі. Але, выбачайце, хто яго цяпер заменіць?.. Раздумваючы над гэтым, я вярталася дадому, а пакупкі былі адкладзены на заўтра — на сам дзень балю, калі належала спакойна захоўваць сябе, каб не дастаць катару... У цэлым гэта нямілая справа!

Назаўтра апоўдні я зноў была ў краме пана Род... Ён сустрэў мяне сам, але, нягледзячы на тое, што я была цалкам занятая балем, кінулася мне ў вочы ягоная збянтэжанасць, якой бы, можа, і не заўважыла, калі б ён не прынёс мне замест патрабаваных кветак скрынку з пер'ямі. Здзіўлена зірнуўшы, я ўбачыла, што ягоныя вочы былі чырвоныя і прыпухлыя...

— Што ў пана здарылася? — спытала я. — Ці не захварэла жонка або хтосьці з дзяцей?

— Не, пані, — адказаў ён, — але я страціў прыяцеля і дабрадзея! Вярнуўся з ягонага пахавання.

Ізноў перад маімі вачыма паўстаў учарашні катафалк, але я ніяк не магла даўмецца, як бедны рамеснік, які вырабляў шчоткі, мог апынуцца дабрадзеем уладальніка такой шыкоўнай крамы?

— Але, — паўтарыў пан Род... — Ён быў маім дабрадзеем, і не аднойчы!

Міжволі стужкі выпалі ў мяне з рук і з думак; я ўселася ў крэсла, а пан Род..., забыўшыся на продаж, выціраў слёзы, што цяклі адкрыта, і распавядаў далей:

— Калі б не Тамашэўскі, не меў бы я гэтай крамы. Калі я яго дзесяць гадоў таму назад папрасіў пазычыць мне грошы, каб распачаць справу, бо сабраў тады толькі частку патрэбных сродкаў, ён паглядзеў мне ў вочы і без ніякай распіскі даў мне 50 дукатаў. Праз год я аднёс яму пазычаную суму і працэнты. Працэнты ён прыняць адмовіўся, а беручы капіталік, сказаў мне:

— Дзякуй табе, што ты мяне не расчараваў. Бо прызнаюся, пазычаючы табе грошы, я думаў, што яны прападуць беззваротна, так мала я давяраю гандлёвым спекуляцыям! Але я прачытаў у тваіх вачах, што ты пачцівы чалавек, што пазычаеш у добрай веры і не маеш намеру мяне ашукаць, хіба разам са мною і сябе самога; літасць узяла верх, і я пазычыў. От, дзякуй Богу, што табе пашанцавала. — Такім быў для мяне пачцівы Тамашэўскі.

— Хлеб вернуты, — сказала я, — тая дапамога дасталася пану справядліва, бо і сам пан учыніў падобнае для адной модніцы.

— Там была зусім іншая справа, — адказаў з усмешкай пан Род..., — бо ёю была мая цяперашняя жонка. А было так...

У гэтую хвіліну ў краму ўвайшлі дамы. Маці ў лісіным, а дзве дачушкі ў вавёркавых футрах. Яны папрасілі кветкі для балю.

Пан Род... з угодлівасцю купца пачаў іх абслугоўваць, падаючы тое, чаго яны жадалі. На стале вырасла піраміда са скрынак, паненкі знялі капелюшы і да светлых завітых валасоў пачалі прыкладваць гірлянды. Шкада, пунсовыя ім найбольш падабаліся...

А я тым часам думала аб пачцівым с.п. Тамашэўскім, катафалк якога напярэдадні з такой халоднасцю абмінула. Прыпомнілася мне таксама гісторыя жанімства пана Род.... Як ён, упадабаўшы адну з паненак, якая працавала ў слыннай на той час модніцы пані В., дапамог ёй адкрыць краму моднага адзення, як яна праз год сумленна вярнула яму пазычаныя грошы, а ён, перакананы ў яе дабрачыннасці і працавітасці, прапанаваў ёй сваю руку, і як цяпер яны супольна працуюць для шматлікіх дзетак.

Мамуля ў лісіным і дочкі ў вавёркавых футрах пасля доўгага торгу ўрэшце выбралі сабе тое, што ім здавалася да твару і, заплаціўшы з туга набітага кашалька, выйшлі. А пан Род... вярнуўся да мяне ці, хутчэй, да перарванага прадмету нашай гутаркі. Калі я яго папярэдзіла, што ведаю гісторыю яго жанімства, ён, уздыхнуўшы, распавядаў далей наступнае:

— Мушу яшчэ пані штосьці расказаць аб маім пачцівым Тамашэўскім. Як бацька, я прагнуў для сваіх дзяцей найлепшай апекі і пратэкцыі, таму звычайна прасіў быць хроснымі бацькамі для сваіх дачок людзей заможных, нават і графаў. А калі Бог даў нам сына, я зноў думаў, да каго з паноў мне звярнуцца? А між тым іншая, лепшая, думка заяснела ў галаве... І я пайшоў да крамкі майго дабрадзея Тамашэўскага, і сказаў яму: «Быў жа ты пачаткам нашай фартуны, хай жа апека дабрачыннага чалавека пашчасціць і нашаму сыну», — і прасіў яго ў кумы. Хрост адбыўся сціплы, па-прыяцельску. Што, пані, скажаш на гэта? А пачцівы Тамашэўскі запісаў, паміраючы, 500 рублёў для свайго хроснага сына. Няхай яму Бог дасць неба за тое. Ой, сплакаўся я сёння на пахаванні, а дзеці мае штодня будуць маліцца за яго душу.

Зноў дзверы з вуліцы адчыніліся і ўбегла дзяўчынка, просячы замоўлены сваёй паняй кручаны шоўк і гарус. Пан Род... заняўся пакупкай, а я зноў раздумвала. Прыгадалася мне здарэнне пра таго ж пачцівага Тамашэўскага, калі ён назбіраныя за ўсё жыццё рублі — 1000 — прынёс да вядомай сваімі добрымі ўчынкамі пані С...: «Няхай яны будуць у пані, — казаў ён ёй, — аддаю ўвесь мой заробак у яе рукі, бо ведаю, што такім чынам ён дастанецца абяздоленым! Працэнтаў мне не трэба, абы капіталік знайшоўся на мае старыя гады».

Чаму тое здарэнне, аб якім я ведала даўно, толькі цяпер зрабіла на мяне ўражанне? Відаць, найпрыгажэйшы ўчынак, адарваны ад цэлага, страчвае сваю вартасць; патрэбна духоўнае распалажэнне для прыняцця кожнай праўды жыцця. Мой Божа! Колькі ж гэта гадоў спатрэбілася для таго, каб назбіраць тысячу рублёў з такой няўдзячнай працы, як выраб шчо-

так! І міжволі паўсталі ў маіх думках усе непрычасаныя галовы, усе непрыбраныя дамы, усё нязмеценае са столяў павуцінне, усе шаноўна занядбаныя зубы. Колькі ж гэта людзей жыве й памірае, не ведаючы шчотак? А хто тыя шчоткі здабудзе, паслужаць яны яму гады са два, як найменей. Як жа той дабрачынны Тамашэўскі мусіў доўгацярпліва працаваць, калі сабраў цэлую тысячу рублёў?! Ён, які не гнаўся за спекулятыўным прыбыткам, ён, які бескарысліва дапамагаў іншым?! Ах, ёсць жа людзі пачцівыя, але бедныя, якім Бог дапамагае, множачы іх маёмасць, як той хлеб у пушчы... Існуюць жа людзі з чыстым сэрцам і без хцівасці! А калі так, то цнота не загасне! Але чаму ж тая цнота заўжды хаваецца? Чаму ніхто пра яе не ведае? Ах! Можа, і ведае, але аб ёй не гаворыць, бо ў яе не верыць!

Я радавалася гэтаму свайму ранку; радавалася, што цяпер ведаю пра добрага чалавека (хаця, на жаль, ужо памерлага) і спаткала удзячнае сэрца... Не так часта такое здараецца!

У той самы дзень, калі настаў час ехаць на баль, я ўселася, каб прыбрацца ў кветкі, але іх не было! Я забыла іх купіць, а пан Род... мне пра іх не нагадаў... Не бяды! Я мела раней купленыя кветкі, якія мне прыдаліся. Але ў тую хвіліну, калі для ўкладкі валасоў я ўзяла ў рукі шчотачку, ізноў паўсталі перад маімі вачыма катафалк пачцівага Тамашэўскага і чырвоныя вочы пана Род... Іх вобраз спадарожнічаў мне падчас балю, яго я бачыла разам з бляскам свяцільнікаў, разам з шыкоўнымі туалетамі; вядома ж, нагадалі мне яго яшчэ раз і пунсовыя гірлянды ў светлых валасах паненак, якіх я сустрэла на ранку.

*1856 года.*

# НЕЗАБЫЎНАЯ ДРАБНІЦА

Дзіўная рэч, што бывае не так лёгка, як здаецца на першы погляд, прыпомніць і расказаць якуюсьці значную драбніцу з уласнага жыцця? Я з учора пачуваюся, нібы тое дзіця, што, седзячы каля крыніцы, перабірае і перасыпае жвір ды пясок на беразе, шукаючы, ці не натрапіць на каменьчык — большы, даражэйшы; што ж, калі ўсе яны да сябе падобныя, а пясок такі роўны і дробны, што яго можна было б насыпаць у пясочны гадзіннік! Ці ж не гэтак сплывалі і мае гадзіны і гады? Што ж з іх выбраць?.. У маёй такой вернай, нагружанай памяці захавалася ўсё, што было, і я дагэтуль адчуваю ўсё па-дзіцячы; або як матка, якая без розніцы любіць сваіх дзетак, бо ніводнага з іх не страціла, бо ні па адным з іх не тужыць, бо ўсіх іх мае каля сябе,... а без тугі няма натхнення! І таму маё мінулае — гэта не гожы і трывалы абломак граніту з глыбока выбітым станоўчым надпісам, які замыкае, нібы надмагільная пліта, адышоўшую эпоху. О не! Маё мінулае, змяшанае з цяперашнім, — гэта markрознакаляровая мазаіка без узору, агульны выгляд якой нічога не гаворыць, а асобныя акрушыны нічога не значаць! Засмучае мяне такая здрабнеласць жыцця, хоць з яе ж выплывае для мяне не адзінкавая карысць. Задавальненне малым і не вымаганне нічога ад лёсу і людзей. Не ведаю, ці нарадзіўся такі характар разам са мною, ці я набыла яго з гадамі, ведаю толькі, што я адкрыла яго сама ў сабе, дзякуючы маленькай акалічнасці.

Гэта быў дзень значны і памятны да сёння, хаця я мела тады ўсяго некалькі гадоў. Гэта быў дзень закладвання кутняга каменя ў памяшкальным доме ў Дабраўлянах. Дэталі яго дасюль ясна і выразна стаяць перада мною, як карціна, — усё: і сівы стагадовы плябан, які асвяціў той камень, і сівая суседка, запрошаная на гэты абрад, і пергамент у засмоленай бутэльцы, пакладзены пад фундамент для таго, каб спачываць там вякамі (на гэтым пергаменце фігураваў і мой подпіс вялікімі літарамі *па алоўку*), і шчодры абед для муляраў пад навесам, і запытанне нашай настаўніцы-немкі (а таму лютэранкі) пры выглядзе крапідла і кожмы: «Гэта што — Імша святая?»... Аднак найболей урэзалася мне ў памяць важная хвіліна закідвання кутняга каменя вапнай! І цяжкая

кельня, якую я старалася трымаць так, каб ніхто з прысутных не здагадаўся, што яна мне не па сілах?! Дык вось жа, вяртаючыся па тым абрадзе да нашага сумеснага для трох сёстраў пакойчыку ў старым флігелі, увайшоўшы ў яго, убачылі мы тры новыя шафачкі!!! Гэта быў сюрпрыз ад нашых бацькоў. Якая ж была радасць, якое выяўленне той радасці, кожны гэта зразумее, хто памятае падобную хвіліну ў сваім жыцці, калі меў добрых бацькоў, якія прадбачылі і папярэджвалі патрэбы сваіх дзяцей. Гэта была радасць такой сілы, якой нішто не зацерла дагэтуль, бо яна аднаўлялася пры кожнай падобнай радасці, пры кожным неспадзявана атрыманым падарунку ад сваіх!

Але вяртаюся да шафак. Паколькі яны былі парожнія, трэба было іх напоўніць; сёстры мае, як старэйшыя, растаропнейшыя і багацейшыя за мяне на цацкі і размаітыя забаўкі, запоўнілі свае шафкі адразу. Маім багаццем, апрача лялькі з яе сціплым лялечным пасагам, былі адны паперы, *нібы* малюнкі ўласнай творчасці, *нібы* лісты і гравюры; не было іх занадта шмат, але раскладзеныя з тактыкай перабеглага военачальніка (які жменяю жаўнераў хоча спадабацца непрыяцелю), патрафілі яны запоўніць усе паліцы ў шафачцы, а разам з імі і мой розум, душу, сэрца, увесь свет! Цэлую рэшту таго дня і прачнуўшыся назаўтра я была найшчаслівейшаю з дзяцей. Але дзе ж мяжа людскіх жаданняў? Так сталася і са мною.

Мае сёстры мелі *папкі*, якія наш тата сам склеіў для іх і падарыў для захавання пачатковых малюнкаў і сэкстэрнаў. Каб мець у сваю чаргу такую ж папку, трэба было яе заслужыць, трэба было чакаць яшчэ два гады... а мне хацелася мець яе адразу! Уласна ў маёй мамы была папка (па праўдзе, старая і ўжо патрапаная, але ўсё роўна папка), вось жа менавіта яна і сталася мэтай маіх штодзённых мараў, унутранай барацьбы і неспакою — тым жывейшых, што ў нас не прынята было ані вымагаць, ані капрызнічаць, але проста без хітрыкаў выказаць свае просьбы ці патрэбы, а гэта было, як вядома, найцяжэй... Наступіла, аднак, хвіліна адвагі, і маміна папка сталася маёй! Радасць па яе атрыманні была вялікая, адпаведная спадзяванням, але занадта гарачая, каб магла доўга трываць. Кароткай была таксама хвіліна ўзнёсласці... надышло расчараванне! Бо што ж з таго, што ў імгненне вока запоўнілася папка, калі праз тое самае выпаражнілася шафка?! Пры выглядзе таго спусташэння, той нэндзы, той пустэчы зноў пуста зрабілася ў душы, у думках, ва ўсім свеце! І адначасова паўстала ў вачах уся недарэчнасць майго ўчынку; жаль да сябе, сорам, расчараванне прыціснулі мяне, як каменем, аж да таго, што я ўселася каля падножжа маёй шафачкі, як бы хочучы яе перапрасіць... і, што са мной рэдка здаралася (бо дома звалі мяне *весялушкай*), горка і моцна заплакала!

Не было ў гэтай маёй скрусе рэзону, не было таксама далейшай пастановы, а было гэта адзіна моцнае зразуменне тых праўдаў і перасцярогаў, якія я сама сабе міжвольна адкрыла: нічога не прагнуць гвалтоўна, перадчасна, без заслугаў, звыш сілы, звыш магчымасцяў; бо як тыя паліцы ў шафачцы, так і сэрца можна аніштчымніць празмернасцю, выпаражніць лішкам альбо наплывам пачуццяў не да месца і не да часу. Шмат, о шмат падобных павучанняў, ужо пазней усвядомленых, а тады толькі адчутых, выйшла з пустой на выгляд шафачкі!.. А тая, — хоць я кожны год яе напаўняла і аздабляла чымсьці новым; хоць вельмі хутка я не толькі адзнакі на дверцах, што сведчылі аб маім шпаркім пасталенні, але і саму шафачку перарасла; хоць і сёння яна служыць для нейкага гаспадарчага начыння, — тая шафачка мае такую сілу і ўладу першых уражанняў, што пры кожным яе адкрыванні вяртаюцца да мяне тыя ж самыя думкі, абуджаюцца тыя ж самыя перасцярогі. А яны ў кожным узросце маюць сваё значэнне!

*25 сакавіка 1850 года.*
*Вільня.*

*Пераклад з польскай мовы*
*Ірыны Багдановіч.*




Паштоўка з выяваю дарэвалюцыйнага Мінска; на заднім плане — франтон дамініканскага касцёла са званіцай.

Юры Лаўрык

# МЕНСКІЯ ДАМІНІКАНЕ Ў 1796 ГОДЗЕ

*У справе даследавання сваёй мінуўшчыны дамінікане нашага рэгіёну мелі істотную перавагу перад іншымі законамі, бо ўжо ў XVII ст. яны выгадавалі ў сваіх шэрагах ўласнага гісторыка — ім стаў адзін з правінцыялаў ордэну Шымон Акольскі. І хаця гэтага аўтара часам крытыкуюць за памылкі генеалагічнага характару[1], аднак пададзеным ім фактам, асабліва па гісторыі ордэну, можна давяраць, бо ён чэрпаў іх непасрэдна з дакументаў, многія з якіх пазней загінулі. Пасля Акольскага да вывучэння гісторыі дамініканскага касцёла і кляштара ў Менску звярталіся Сыракомля[2], Валыняк[3], Шчакаціхін[4], а з сучасных даследчыкаў — Уладзімір Дзянісаў і Зянон Пазняк[5]. Чытаючы акты праведзенай у 1796 г. ксяндзом Язэпам Камінскім візітацыі менскага дамініканскага кляштара[6], мы не аднойчы будзем зазіраць у працы гэтых аўтараў, каб лепш зразумець або дапоўніць змешчаныя ў дакументах звесткі.*

**З'яўленне дамініканаў у Менску**

Дамінікане першымі з лацінскіх ордэнаў прыйшлі ў Менск, стварыўшы тут свой асяродак ужо на пачатку XVII ст. Першапачатковая фундацыя на кляштар, зробленая жонкай вендынскага ваяводы Крыштапа Служкі Соф'яй, была зацверджана ордэнам дамініканаў на генеральнай капітуле ў Рыме ў 1605 г., дзе было пастаноўлена заснаваць у Менску канвент пад тытулам святога Тамаша з Аквіна[7]. Пачаткова была пабудавана драўляная каплічка, у якой служылі набажэнства некалькі запрошаных з Вільні дамініканаў.

Ці менавіта тады і былі закладзеныя мураваныя касцёл ды канвент, як лічыць У. Сыракомля і некаторыя аўтары, што пісалі пасля яго? Сыракомля, абапіраючыся на нібыта пачутае ім паданне (пра якое, аднак, нічога не ведаў Акольскі), распавядае, што, вяртаючыся з маскоўскай выправы, шляхта, убачыўшы распачатую будову кляштара, пастанавіла падтрымаць яе матэрыяльна, дзеля чаго сабрала т. зв. «капытковае» — складку з кожнага вершніка. У пацвярджэнне праўдзівасці гэтае легенды ён адзначаў, што нават у яго час пад гзымсамі святыні знаходзіліся гербы правадыроў выправы, такія як «Мурын», «Радван», «Ліс», «Цялок», «Трубы» і інш.[8] Дума-

ецца, аднак, што, нягледзячы на папулярнасць гэтага падання сярод нашых даследчыкаў, яно з’яўляецца, хутчэй, творам фантазіі славутага паэта. Што да гербаў, дык яны, несумненна, належалі фундатарам, пра некаторых з якіх мы будзем згадваць: у прыватнасці, гербам «Радван» карысталіся Ракоўскія,[9] а гербам «Трубы» — род Воўкаў[10].


Круцыфікс.

Пачатак муравання святыні і кляштара трэба звязваць з фундушам Пятра Тышкевіча, які ў 1615 г. даў дамініканам пляц і распачаў будаўніцтва. Неўзабаве, аднак, адбыўся пажар, які знішчыў ужо ўзнесеныя муры. Далейшы працяг будаўніцтва патрабаваў новых сродкаў, якія шчодра даваліся пазнейшымі спрыяльнікамі дамініканаў — Марцэлай Карэцкай (па другім мужы — Ракоўскай), Якубам Пацэвічам, Андрэем Завішам. Ян Воўк зрабіў фундуш на пабудову дамініканскага кляштара і касцёла ў 1640 г., што, на думку Міколы Шчакаціхіна, можа сведчыць пра незавершанасць будаўніцтва яшчэ нават у гэты час[11]. Больш за тое, даследчык выказвае меркаванне, што з увагі на неспрыяльныя ўмовы ваеннага часу комплекс дамініканскіх будынкаў мог быць скончаны толькі ў 2-й пал. XVII ст.[12] Меркаванне гэта, аднак, пабудавана толькі на лагічных разважаннях і ані архіўнымі матэрыяламі, ані дадзенымі археалагічных раскопак не пацвярджаецца. Імперскія ж паслы Маёрберг і Кальвуччы, якія ў 1661 г. наведвалі Маскоўшчыну, вярталіся назад праз Менск і адзначалі ў сваіх нататках, што «далучаныя (уніяты)-базыліяне, дамінікане, бэрнардыны, пачалі ўжо там папраўляць свае зруйнаваныя св. кляштары і касцёлы пры дапамозе ахвяраў пабожных людзей»[13]. Такім чынам, можна мяркаваць, што дамініканскія касцёл і кляштар на гэты час ужо былі збудаваныя і аднаўляліся пасля ваеннага разбурэння. Аднак паколькі гэтае пытанне не з’яўляецца мэтаю нашага даследавання, мы не будзем на ім спыняцца і, «пераскочыўшы» праз стагоддзе, апынемся ў 1796 годзе.

**Кляштар**

У гэты час пляц, што належаў дамініканам у Менску, займаў тэрыторыю ў 2 моргі пяцьдзясят прутоў і пятнаццаць малых прутоў («pręcików»); ён быў агароджаны звыклым парканам[14]. Комплекс дамініканскіх будынкаў складаўся з касцёла і прыбудаванага да яго жылога корпуса. Паколькі да нашага часу гэтыя камяніцы не захаваліся, спецыялісты, апісваючы іх, разыходзяцца ў дэталях — напрыклад, яны спрачаюцца, ці быў будынак канвента двух-[15] або трохпавярховым[16]. На фотаздымках 1920-х гг. жылы корпус сапраўды мае два паверхі, але ў той жа візітацыі 1796 г. адзначана, што ён «часткова драўляны»[17]. Што тут маецца на ўвазе: зробленая з дрэва прыбудова-флігель ці сапраўды трэці паверх, які выраўніваў дах канвента да вышыні галоўнай навы касцёла?[18] Калі гэты паверх сапраўды існаваў, дык ён мог быць знесены ў 1840-я гг. падчас пераробкі кляштара пад семінарыю — тады выгляд комплексу змяніўся досыць радыкальна. Хутчэй за ўсё, супярэчнасць тлумачыцца значна прасцей: кляштар быў размешчаны на пагорку і цалкам магчыма, што ён, падобна да бэрнардынскага, меў з боку адхону тры паверхі, а з боку верхавіны — два.

Сама святыня ўяўляла з сябе прастакутную ў плане трохнававую шасціслуповую базыліку без трансепта; фасад меў выгляд шмат’яруснага крывалінейнага шчыта, аздобленага пілястрамі, нішамі і фігурным баракальным франтонам[19]. Паабапал фасаду знаходзіліся дзве круглыя капліцы, над якімі ўзвышаліся невялікія вежы[20]. Яны згадваюцца ў матэрыялах візітацыі 1796 г., але на здымках канца XIX — пачатку XX ст. мы іх, на жаль,

ужо не бачым: падчас перабудовы 1840-х гг. гэтыя вежачкі і брама-званіца былі знесеныя[21].

Напрыканцы XVIII ст. касцёл меў ужо гонтавы дах[22], аднак паколькі дамініканскі комплекс быў узведзены на лініі гарадскіх валаў і адыгрываў ролю аднаго з фарпостаў Менска, яго будынкі мелі выразныя абарончыя рысы — муры таўшчынёй 3-5 метраў, мушкетавыя ды гарматныя бойніцы і да т.п.[23] Таму трэба думаць, што першапачаткова і яны былі крытыя дахоўкай, як, напрыклад, збудаваныя не на шмат пазней касцёл і кляштар бэрнардынак. Гэтае меркаванне пацвярджаецца і тым фактам, што пры раскопках была знойдзена[24] жоўта-зялёная і чырвона-карычневая дахоўка, якая ў свой час, відаць, маляўніча расквечвала знешні выгляд кляштара.



Цыборый у форме келіха.

Апрача касцёла і канвента на кляштарнай тэрыторыі знаходзіліся іншыя пабудовы — галоўным чынам гаспадарчага характару: там былі два пастаўленыя з дрэва флігелі, аднаярусны «немалы, добры і гонтам крыты» свіран, лядоўня, крыты драніцай бровар, а таксама стайня і вазоўня[25]. Ахоўваў кляштарную маёмасць вартаўнік Мікалай Арасовіч[26].

Пра адзін з гэтых флігеляў напісана толькі тое, што ён меў два пакоі. Не выключана, што ў адным з іх жыў арганіст — шляхціц Язэп Янкоўскі[27]; флігель мог таксама выкарыстоўвацца і як гасцявы домік — для таго ж візітатара, які мусіў недзе спыняцца падчас інспектавання кляштара.

Другі флігель непасрэдна прымыкаў да мураванага жылога корпуса, у якім знаходзіліся кухня і сталоўка, дзе гаспадарыў кухар Канстанцін Казарэвіч з дапамогай Рыгора Лышкоўскага. Таксама было ў ім і памяшканне для службы. Стайняй і вазоўняй апекаваўся фурман Тодар Ласкевіч[28].

За кухонным флігелем пачынаўся гарод, у якім дамінікане вырошчвалі зеляніну да свайго стала, а магчыма, і лекавыя зёлкі, паколькі мелі ў сваёй бібліятэцы сярод іншых кніг і «Compendium Medicum»[29].

Побач са святыняй, як гэта зазвычай і бывала, знаходзіліся могілкі, бо візітатар гаворыць пра браму цвінтара, на якой віселі тры званы, «немалыя і бяспечна ўмацаваныя»[30] (у сучаснай літаратуры гэтая брама традыцыйна разглядаецца як уязная)[31]. «Кастніца», дзе хаваліся парэшткі саміх дамініканаў, знаходзілася ў крыпце пад касцёлам. Зянон Пазняк, які праводзіў раскопкі святыні, пісаў пра «два завалы чалавечых касцей і асабліва чарапоў» XVII і XVIII стст., выказваючы здзіўленне з тае прычыны, што яны «маглі аказацца пад падвальнай падлогай існуючага храма»[32]. Насамрэч, гэты факт цалкам нармальны паводле прынятай у заходнееўрапейскіх кляштарах традыцыі складаць чарапы памерлых законнікаў у адмысловых памяшканнях — асарыях (лац. *ossarium*). Дзіўна, хутчэй, тое, што паведамленні пра падобныя знаходкі пры раскопках святыняў на Беларусі ў літаратуры з'яўляюцца не вельмі часта.

**Касцёл**

Перад тым як зайсці ў касцёл, кс. Язэп Камінскі агледзеў яго звонку і пераканаўся, што будынак знаходзіцца ў належным стане, а «ўсе сцены добрыя і без пашкоджанняў». Дзверы ў касцёл былі абабітыя пабеленай бляхай і замыкаліся на ўнутраны замок[33].

Унутры бажніца таксама была дагледжаная: на скляпеннях не было расколінаў, а з 25-ці размешчаных у два шэрагі вокнаў ніводнае не патрабавала рамонту. Капліцы, якія знаходзіліся налева і направа ад галоўнага ўваходу, мелі круглую форму і былі прывабна ўпрыгожаныя

ляпнінай (левая) і маляўнічым сценным роспісам (правая)[34]. У апсідзе галоўнай навы размяшчаўся вялікі алтар з разьбяным табэрнакулюмам, дзе знаходзіўся срэбны пазалочаны цыборый для захавання Найсвяцейшага Сакрамэнту з 20 асвячонымі гостыямі, прыкрыты чыстым карпаралам. Апрача галоўнага ў касцёле мелася яшчэ 13 бочных алтароў; некаторыя з іх былі драўляныя, іншыя — з імітаванага мармуру, які ў той час выраблялі на аснове гіпсу. Усе алтары былі прыгожа маляваныя або пазалочаныя; на кожным — апячатаныя *Portatilia cum reliquios Sanctorum* (пераносныя рэліквіяры з рэліквіямі святых), а таксама — круцыфіксы. Менсы (пліты алтарных сталоў, на якіх цэлебравалася Эўхарыстыя) былі накрытыя трыма асвячонымі абрусамі з ухваленым кіраўніцтвам пекным узорам[35].



Лодка, у якую складалася кадзіла для каджэння.

Асаблівую ўвагу кс. Камінскага прыцягнулі арганы. Новыя, на дваццаць чатыры галасы, з чатырма мяхамі і дзвюма клавіятурамі, яны былі пекна выраблены і ўпрыгожаныя каштоўнай разьбою[36]. На жаль, айцец Язэп не паведамляе, дзе яны знаходзіліся, — хутчэй за ўсё, на хорах, над уваходам. Няшмат інфармацыі ён дае і пра размяшчэнне канфесіяналаў — вядома толькі тое, што яны сталі ў «адпаведных» месцах ды, згодна з прадпісаннямі, мелі драўляныя краткі[37]. Відаць, гэтыя краткі ў спавядніцах на той час былі яшчэ навамвядзеннем, калі адносна іх касцёльныя ўлады выдалі адмысловы загад, праверка выканання якога ўваходзіла ў абавязкі візітатара.

Падлога ў касцёле яшчэ ў XVII ст. была выкладзеная цэглай-пальчаткай, а таксама непаліванай керамічнай пліткай тэракотавага (то бо, таксама «цаглянага») колеру[38]; кс. Камінскі і адзначае ў акце візітацыі, што «падлога цагляная, досыць добрая»[39]. Паасобныя плітачкі самай рознай формы — квадратныя, прастакутныя, шасцікутныя, трапецыявідныя[40] — укладаліся ў разнастайныя ўзоры. Зрэшты падчас раскопак была знойдзена і плітка паліваная, блакітнага або зялёнага колеру[41]; яна, верагодна, аздабляла падлогу ў цэнтральнай частцы касцёла або ў прэзбітэрыі.

Сакрыстыя, хутчэй за ўсё, знаходзілася ва ўсходнім канцы правай навы — там, дзе касцёл злучаўся з жылым корпусам, побач з пераходам з канвента ў святыню. Парадак ва ўсёй бажніцы падтрымліваў касцёльны слуга Язэп Русецкі, а за належным захаваннем літургічных рэчаў сачыў сакрыстыян Станіслаў Цеханоўскі[42]. Трэба думаць, што апошні крыху недаацэньваў неабходнасць рэгулярнага прання, бо ў адной з рэкамендацый візітатара заўважалася, што «касцёльная бялізна павінна быць чатыры разы на год перамываная»[43].

У сакрыстыі стаялі дыхтоўныя шафы з замкамі. У гэтых шафах і знаходзіліся «апараты» (богаслужбовыя строі рознага колеру — на розныя перыяды літургічнага года), касцёльная бялізна і патрэбнае для багаслужэння начынне. Пералічым услед за візітатарам названыя ім прадметы і коратка паяснім іх прызначэнне. Там былі: даразахоўніца (цыборый), манстранцыя, лаватар, ампулкі з тацамі, сорак цыновых наалтарных падсвечнікаў, кадзільніца з лодкай, 14 алтарных падушак, а таксама срэбны пацыфікал з рэліквіямі св. Тадэвуша.

Цыборый, прызначаны для асвячоных гостый — Хрыстова Цела (часцей за ўсё меў форму келіха). У манстранцыі змяшчаўся Найсвяцейшы Сакрамэнт для выстаўлення з мэтаю адарацыі (ушанавання) падчас найбольш значных святаў. Над лаватарам ксёндз рабіў рытуальнае абмыванне рук перад Эўхарыстыяй. У ампулках, якія ставіліся на тацы, прыносіліся віно і вада. У лодцы складалася кадзіла для каджэння, а на па-

душку клалася Евангелле пры яго чытанні. Ну і нарэшце, пацыфікал — гэта ўкрыжаванне, якое выкарыстоўвалася для благаслаўлення люду на святой Імшы; пра той, які знаходзіўся ў менскіх дамініканаў, візітатар адзначае, што яго (відаць, з увагі на наяўнасць святых рэліквіяў) давалі людзям для цалавання падчас выстаўлення Найсвяцейшага Сакрамэнту са святлом.

Захоўваліся ў сакрыстыі і патрэбныя для набажэнства кнігі. Хоць у дадзеным акце візітатар пра іх нічога не гаворыць, але з дакументаў мы ведаем, што літургічныя кнігі ў сакрыстыі былі[44].



Ампулка.

сацыяльны стан — зрэшты, яна магла быць прапушчаная выпадкова).

Дзеля таго, каб мець магчымасць легальна пражываць у кляштары на тэрыторыі Расейскай імперыі, законнікі мусілі афіцыйна засведчыць сваю лаяльнасць трону. Публічная прысяга на вернасць і падданства імператару Паўлу I і ягонаму наследніку святлейшаму князю Аляксандру была складзена менскімі дамініканамі ў прысутнасці губернатара Няплюева 16 лістапада 1796 года ў менскім па-езуіцкім касцёле[48]. Яшчэ адзін момант, які строга кантраляваўся візітатарам, — гэта грунтоўнае веданне законнікамі вучэння Каталіцкага Касцёла. Ад часу заснавання дамініканскага ордэну адным з асноўных кірункаў яго дзейнасці было абвяшчэнне слова Божага, што ажыццяўлася ў форме казанняў, дыспутаў і г.д. Таму ад дамініканаў заўсёды патрабавалася глыбокая абазнанасць у біблеістыцы, патрыстыцы, тэалогіі, і менавіта таму кс. Язэп Камінскі пасля праверкі ў кляштары дакументацыі пазнаёміўся з законнікамі, каб правесці экзамен «з навукі кожнага». Ад іспыту, як ужо атэставаныя, вызваляліся толькі прафесары і дактары[49].

### Законнікі

Як ужо адзначалася, першыя дамінікане былі запрошаныя ў Менск з Вільні. Паколькі падчас вырашэння пытання пра размежаванне тэрыторый польскай і рускай правінцый на праведзенай у 1622 г. капітуле ў г. Буску было прынята рашэнне далучыць менскі канвент да Рускай правінцыі[45], дамінікане, якія аселі ў Менску, мусілі вяртацца ў Вільню, а на іх месца былі прысланыя дамінікане «рускія», якія паходзілі з Галіцыі, Валыні і іншых украінскіх земляў. Менавіта гэтай акалічнасцю і тлумачыцца пераважная большасць выхадцаў з Украіны ў складзе менскага канвенту.

Так, падчас візітацыі 1796 г. на чале менскага канвенту стаяў 59-гадовы а. Эмерык Агановіч, «родам з Чырвонай Русі». Быў ён шляхецкага паходжання, у ордэне знаходзіўся ўжо чатыры дзясяткі гадоў. Дзесяць з іх ён выкладаў філасофію і тэалогію, але канвентам кіраваў толькі першы год. Візітатар характарызуе яго як узорнага святара, «нястомнага ў служэнні Богу» і «здольнага да падтрымання парадку кляштарнага, касцёльнага і эканамічнага»[46]. Апрача Агановіча ў канвенце было яшчэ 6 святароў ва ўзросце ад 26 да 63 гадоў: Рэмігій Цыбульскі, родам са Львоўшчыны; Андрэй Яблонскі — з Хелмінскага ваяводства; Тамаш Тышэцкі — з Крэмянецкага павета; Яўзэбі Курачыцкі — з Навагрудскага ваяводства, а таксама — Яцэк Ялтухоўскі і Чэслаў Шчука, які былі клерыкамі і абодва паходзілі з Падольскага ваяводства. Клерыкі вывучалі філасофію, якую выкладаў прафесар Андрэй Яблонскі[47]. Амаль усе дамінікане належалі да шляхты (толькі ў звестках пра кс. Яблонскага адсутнічае інфармацыя пра яго

### Душпастырская і асветная праца

Святая Імша ў касцёле дамініканаў адбывалася не толькі па нядзелях, але і штодня, а месцічы актыўна ўдзельнічалі ў набажэнствах. Затое публічныя працэсіі *cum Sanctissimo* (з Найсвяцейшым Сакрамэнтам) адбы-

валіся толькі тады, калі збіралася шмат народу і выключна з дазволу афіцыяла. З увагі на тое, што канвент не быў парафіяльным, адной з асноўных душпастырскіх паслугаў, якую аказвалі дамінікане, было спаведніцтва[50].

Пры канвентуальным касцёле дзейнічалі і два брацтвы — св. Ружанца і св. Тадэвуша, якія, адзначае візітатар, «паводле звычаю даўняга, асабліва ў [іх мосцяў] ксяндзоў дамініканаў утрымліваюцца», прычым без адмысловага фундушу на гэтую працу[51]. Адсутнасць фундушу азначае, што дамінікане стварылі гэтыя брацтвы і апекаваліся імі з патрэбы сэрца, а не па абавязку.

На жаль, не знайшлося спрыяльнікаў, якія надзялілі б менскі канвент і фундушам на вядзенне дабрачыннай ці асветнай працы. Тым не менш дамінікане са сваіх даходаў утрымлівалі трох жабракоў. Таксама пры кляштары жылі і наведвалі школку шасцёра дзяцей дробнай шляхты, якія не мелі сродкаў для аплаты свайго ўтрымання: Ян Пятух, Вінцэнт Качаноўскі, Язэп Васілеўскі, Міхал Заянкоўскі, Вінцэнт Гурскі і Міхал Коўдра. З імі займаліся ці сам настаяцель, ці хтосьці з клерыкаў — вучылі чытанню, пісьму, арыфметыцы, геаграфіі, а таксама хрысціянскае этыцы і асновам веры[52].

Для патрабаванага ордэнскімі статутамі бесперапыннага самаўдасканалення і развіцця ў канвенце захоўвалася багатая бібліятэка, пра якую мы пагаворым у наступным артыкуле.

*На ілюстрацыях прадстаўлены прадметы са збораў Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі. Фота А. Крапіўкі.*

---

[1] Параўн., напр.: Wołyniak. Wykaz klasztorów dominikańskich prowincyi ruskiej. Cz. 2. — Kraków, 1923. — S. 184.
[2] Syrokomla Wł. Mińsk // Teka Wileńska. — Wilno. 1857. 2. — S. 143–204 (пра дамініканаў гл. 157–158, 160–162); беларускі пераклад: Сыракомля Ул. Мінск / Перакл. К. Лялько // Сыракомля Ул. Выбраныя творы. — Мінск: Маст. літ., 1993. — С. 322–415.
[3] Wołyniak. Wykaz klasztorów dominikańskich prowincyi ruskiej. Cz. 2. — Kraków, 1923. — S. 184.
[4] Шчакаціхін М. Менская архітэктура XVII–XVIII стст. // Запіскі аддзела гуманітарных навук. Кн. 6. Працы камісіі гісторыі мастацтва. Т. 1, сш. 1. С. 8– 15.
[5] Гл.: Денисов В. Н. Площадь Свободы в Минске. — Мінск, 1985. — С. 34–38; Дзянісаў У. М., Пазняк З. С. Мінскі кляштар дамініканцаў // Помнікі мастацкай культуры Беларусі: Новыя даследаванні: Зб. арт. — Мінск, 1989. —С. 124–130; Пазняк З. С. Рэха даўняга часу. — Мінск: Народная асвета, 1985. — С. 17, 36–37, 57. Гл. таксама спасылку на прадстаўленыя З. Пазняком матэрыялы ў кн.: Трусов О. А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI–XVIII вв.: Архитектурно-археологический анализ. — Мінск: Наука и техника, 1988. — С. 55.
[6] Act Wizyty u Jmc Xięży Dominikanów Mińskich wedle Instrukcyi JWo Pasterza Naszego w Roku 1796 Miesiąca Nowembra 20 Dnia vs. Sporządzony // Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей: НГАБ). Ф. 1781. — Воп. 27. — Спр. 256. — Арк. 34–36 адв. (У назвах і цытатах захоўваецца правапіс арыгіналу).
[7] Параўн., напр.: Шчакаціхін М. Менская архітэктура XVII–XVIII стст. — С. 10.
[8] Syrokomla Wł. Mińsk // Teka Wileńska. — Wilno. 1857. N 2. — S. 157–158.
[9] Roguski M., Zalewski J. Rody szlachty polskiej. — Warszawa, 1993. — S. 126.
[10] Górzyński S., Kochanowski J. Herby szlachty polskiej. — Warszawa, 1992. — S. 154.
[11] Параўн.: Шчакаціхін М. Менская архітэктура XVII–XVIII ст. // Запіскі аддзела гуманітарных навук. Кн. 6. Працы камісіі гісторыі мастацтва. Т. 1, сш. 1. — С. 10–11.
[12] Тамсама. С. 11.
[13] Путешествие в Московию барона Августина Майерберга, члена императорского совета, и Горация Вильгельма Кальвуччи, кавалера и члена Правительственного совета Нижней Австрии, послов августейшего римского императора Леопольда к царю и великому князю Алексею Михайловичу, в 1661 г., описанное самим бароном Майербергом. — Москва, 1874. — С. 206.
[14] Act Wizyty u Jmc Xięży Dominikanów Mińskich wedle Instrukcyi JWo Pasterza Naszego w Roku 1796 Miesiąca Nowembra 20 Dnia vs. Sporządzony // Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей: НГАБ). Ф. 1781. — Воп. 27. — Спр. 256. — Арк. 36 адв. (У назвах і цытатах захоўваецца правапіс арыгіналу).
[15] Денисов В. Н. Площадь Свободы в Минске. — Минск, 1985. — С. 38.
[16] Пазняк З. С. Рэха даўняга часу. — Мінск: Народная асвета, 1985. — С. 57.
[17] Act Wizyty u Jmc Xięży Dominikanów Mińskich... // НГАБ. Ф. 1781. — Воп. 27. — Спр. 256. — Арк. 35 адв.
[18] У гарадской забудове Менска сустракаліся дамы, адзін паверх якіх быў мураваны, а другі — драўляны.
[19] Параўн.: Дзянісаў У. М., Пазняк З. С. Мінскі кляштар дамініканцаў // Помнікі мастацкай культуры Беларусі: Новыя даследаванні: Зб. арт. Мінск, 1989. — С. 126.
[20] Act Wizyty u Jmc Xięży Dominikanów Mińskich... // НГАБ. Ф. 1781. — Воп. 27. — Спр. 256. — Арк. 35 адв.
[21] Дзянісаў У. М., Пазняк З. С. Мінскі кляштар дамініканцаў... — С. 126.
[22] Act Wizyty u Jmc Xięży Dominikanów Mińskich..., арк. 35 адв.
[23] Гл., напр.: Трусов О. А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI–XVIII вв.: Архитектурно-археологический анализ. Минск: Наука и техника, 1988. — С. 55; Дзянісаў У. М., Пазняк З. С. Мінскі кляштар дамініканцаў... С. 124–130; і інш.
[24] Трусов О. А. Памятники... С. 55.
[25] Act Wizyty u Jmc Xięży Dominikanów Mińskich.., арк. 36 адв.
[26] Wiadomość o wszystkich Kapłanach y Klerykach, znaydujących się w Klasztorze Xięży Dominikanów Mińskich // НГАБ. Ф. 1781. — Воп. 27. — Спр. 256. — Арк. 39.
[27] Wiadomość o wszystkich Kapłanach y Klerykach.., арк. 39.
[28] Wiadomość o wszystkich Kapłanach y Klerykach.., арк. 39.
[29] Opisanie Biblioteki Klasztoru Mińskiego XX Dominikanów // НГАБ. Ф. 1781. — Воп. 32. — Спр. 186. — Арк. 7 адв.
[30] Act Wizyty u Jmc Xięży Dominikanów Mińskich.., арк. 35 адв.
[31] Гл., напр.: Денисов В. Н. Площадь Свободы... С. 38.
[32] Дзянісаў У.М., Пазняк З. С. Мінскі кляштар дамініканцаў... С. 130.
[33] Act Wizyty u Jmc Xięży Dominikanów Mińskich.., арк. 35 адв.
[34] Тамсама.
[35] Тамсама.
[36] Тамсама.
[37] Тамсама, арк. 36.
[38] Трусов О. А. Памятники... С. 55.
[39] Act Wizyty u Jmc Xięży Dominikanów Mińskich.., арк. 35 адв.
[40] Пазняк З. С. Рэха даўняга часу... С. 17.
[41] Трусов О. А. Памятники... С. 55.
[42] Wiadomość o wszystkich Kapłanach y Klerykach.., арк. 39.
[43] Punkta z zalecenia JWgo Pasterza Jmc XXzom Dominikanom Mińskim do Zachowania w czasie Wizyty Dziekańskiej odbywającey się zostawione Roku 1796 Mi[esią]ca Nowembra 20 Dnia // НГАБ. Ф. 1781. — Воп. 27. — Спр. 256. — Арк. 40.
[44] Inwentarz Konwentv Minskiego: Regestr Rzeczy Koscielnych Spisany Roku 1709 Die 20 Junij // [Inwentarze Konwentów Prowincji Ruskiej. 1708–1709] S. 221, які захоўваецца ў архіве ордэну дамініканаў у Кракаве; Act Wizyty Jeneralney Kosciоła, Zakrystyi y Klasztora WWch Jchmci XX: Dominikanów Mińskich... 1818 Roku ... // НГАБ. Ф. 1781. — Воп. 27. Спр. 349. — Арк. 8 адв.
[45] Wołyniak. Wykaz klasztorów dominikańskich prowincyi ruskiej / Zebrał Wołyniak. Cz. 2. — Kraków, 1923. — S. 186.
[46] Wiadomość o wszystkich Kapłanach y Klerykach.., арк. 38.
[47] Тамсама, арк. 38–38 адв.
[48] Wiadomość o wszystkich Kapłanach y Klerykach.., арк. 38 адв.
[49] Act Wizyty u Jmc Xięży Dominikanów Mińskich.., арк. 34.
[50] Тамсама, арк. 36.
[51] Тамсама, арк. 36.
[52] Wiadomość o wszystkich Kapłanach y Klerykach.., арк. 38.

## CONTENTS

Most of the materials in this issue are dedicated to the sacred memory of the first Belarusian Cardinal Kazimierz Świątek.
It was him who blessed 16 years ago the "life" of the quarterly magazine *Our Faith*.

At first we print *Rogito* of Cardinal Kazimierz Świątek, which had been laid in his coffin during the funeral in the basilica of the Assumption of the Blessed Virgin Mary in Pinsk. Next we placed the homily of Metropolitan Tadeusz Kondrusiewicz, announced during the funeral St. Mass for the deceased hierarch. In memory of Cardinal Kazimierz Świątek we publish recollections, words of thanks and farewell of all kinds of people: Bishop of Ełk Jerzy Mazur, priests Aliaxey Ramanchuk and Yury Bykau, restorer Arkadz Shpunt, theologian Martin Buschermohle («Renovabis»), editor in chief of *Our Faith* and *Ave Maria* Kristina Lalko, director Yury Garulyou, literary critic Iryna Bagdanovich. Ales Chobat, Danuta Bichel, Julia Shedzko, Aksana Danilchik dedicated their poems and translations to the memory of the hierarch. Famous Latinist Ales Zhlutka dedicated to Cardinal Kazimierz Świątek his special work of translation from Polish: *The Golden Middle Ages — for Our Time: Saint Thomas and His Interpreter Stephan Svyazhauski* (p. 2-43).

This issue also contains excerpts from the book *Benedict XVI. Light of the World: The Pope, the Church and the Signs of the Times. An interview with Peter Seewald* translated from German by Iryna Burak (p. 44-47).

We continue to publish the translation of *Flowers of St. Francis* made by Aksana Danilchyk, as well as the translation of *Following Christ* by Thomas a Kempis, made by Stanislau Grynkevich (p. 48-54).

In column *Figures* we placed an article by well-known local historian Ivan Draunitski from Miadzel called *Priest-Patriot Lucyjan Hmialiowiets* (p. 55-58).

Literary critic Iryna Bagdanovich offers her own translations of short stories by Countess Gabriele Puzynya, who is recognized in the Belarusian-Lithuanian territory as «the author in the name of God», and who is respected for her patriotism, sensitivity and compassion for the neighbor (p. 59-65).

In the end of the issue readers will find the publication of researcher-archivist Yury Lauryk «*Dominicans in Minsk in 1796.*» (p. 66-71).

## RESÜMEE

Die meisten Materialien dieser Ausgabe sind dem heiligen Andenken an den ersten belarussischen Kardinal Kazimierz Świątek gewidmet, mit dessen Segen vor 16 Jahren das Leben der Vierteljahreszeitschrift „Unser Glaube" begonnen hat.

Beim ersten Beitrag handelt es sich um „Rogito" von Kardinal Kazimierz Świątek, dessen Text ihm während des Begräbnisses in der Pinsker Basilika der Himmelfahrt der Heiligen Jungfrau Maria in den Sarg gelegt wurde. Danach folgt die Veröffentlichung der Predigt des Metropoliten Tadeusz Kondrusiewicz, die während des Beerdigungsdienstes für den verstorbenen Hierarchen gehalten wurde. In den Gedenkkranz für Kardinal Kazimierz Świątek haben die verschiedensten Personen ihre Erinnerungen, Dankes- und Abschiedsworte eingeflochten: Bischof der Diözese Elk Jerzy Mazur, Priester Aljaxej Ramantschuk und Jury Bykau, Restaurator Arkadzj Spunt, Theologe Martin Buschermöhle („Renovabis"), Chefredakteurin der Zeitschriften „Unser Glaube" und „Ave Maria" Kristina Lialko, Regisseur Jury Garuljou, Literaturwissenschaftlerin Iryna Bagdanowitsch. Dem Andenken an den Hierarchen haben ihre Gedichte und Übersetzungen Alesj Tschobat, Danuta Bitschel, Julija Schedzko, Aksana Daniltschyk gewidmet. Der bekannte Latinist Alesj Shlutka hat Kardinal Kazimierz Świątek eine besondere Übersetzung aus dem Polnischen gewidmet: „Das goldene Mittelalter – an unsere Zeit: Heiliger Thomas und sein Interpret Stefan Swiezawski" (S. 2-43).

Die vorliegende Ausgabe enthält auch Auszüge aus dem Buch „Benedikt XVI. Licht der Welt: Der Papst, die Kirche und Zeichen der Zeit. Ein Gespräch mit Peter Seewald" in der Übersetzung aus dem Deutschen von Iryna Burak (S. 44-47).

Fortgesetzt wird die Publikation der Übersetzung von Aksana Daniltschyk „Die Blümchen des heiligen Franziskus" sowie des von Stanislau Grynkewitsch übersetzten Werkes von Thomas von Kempen „Nachfolge Christi" (S. 48-54).

In der Rubrik „Gestalten" befindet sich der Artikel des bekannten Mjadeler Heimatkundlers Iwan Draunizki „Priester – Patriot Luzian Chmjalewez" (S. 55-58).

Die Literaturwissenschaftlerin Iryna Bagdanowitsch bietet den LeserInnen ihre Übersetzungen der Erzählungen der Gräfin Gabriela Pusynja, die auf dem belarussisch-litauischen Territorium als „Autorin in Gottes Namen" anerkannt und die für Patriotismus, Einfühlungsvermögen und Anteilnahme verehrt wurde (S. 59-65).

Die Ausgabe endet mit dem Artikel „Minsker Dominikaner im Jahr 1796" des Forschers Jury Lauryk (S. 66-71).

## PODSUMOWANIE

Większość materiałów tego numeru poświęcona została świętej pamięci naszego białoruskiego kardynała Kazimierza Świątka, z błogosławieństwa którego 16 lat temu rozpoczął swoją działalność kwartalnik «Nasza wiara».

Na początku drukujemy «Rogito» kardynała Kazimierza Świątka, tekst, który został złożony do trumny podczas pogrzebu w pińskiej bazylice Wniebowzięcia Najświętszej Panny Maryi. Dalej zamieszczamy homilię metropolity Tadeusza Kondrusiewicza, wygłoszoną podczas Mszy pogrzebowej za zmarłego hierarchę. W wianek pamięci o kardynale Kazimierzu Świątku złożyli swoje wspomnienia, słowa podziękowania i pożegnania różni ludzie: biskup diecezji ełckiej Jerzy Mazur, księża Aleksjej Ramańczuk i Jury Bykow, restaurator Arkadiusz Szpunt, teolog Marcin Buschermöhle («Renovabis»), główny redaktor czasopism «Nasza wiara» i «Ave Maria» Krystyna Lalko, reżyser Jury Garuliow, literaturoznawca Iryna Bagdanowicz. Pamięci kardynała swoje wiersze i przekłady poświęcili Aleś Czobat, Danuta Biczel, Julia Szedźko, Aksana Danilczyk. Znany łacinista Aleś Żłutko poświęcił kardynałowi Kazimierzowi Świątkowi przekład z języka polskiego «Złote Średniowiecze – naszemu czasu: święty Tomasz i jego interpretator Stefan Swieżawski» (s. 2-43).

W numerze znajdziemy również fragmenty z książki «Benedykt XVI. Światło świata: Papież, Kościół, znaki czasu. Rozmowa z Petrem Seewalde» w przekładzie z języka niemieckiego Iryny Burak (s. 44-47).

Jest także kontynuacja przekładu Aksany Danilczyk «Kwiatki świętego Franciszka», jak również Tomasza a Kempis «O naśladowaniu Chrystusa» w przekładzie Stanisława Grynkiewicza (s. 48-54).

W rubryce «Postacie» zamieszczony został artykuł znanego miadzielskiego krajoznawcy Iwana Draunickowa «Ksiądz-patriota Lucjan Chmielowiec» (s. 55-58).

Literaturoznawca Iryna Bogdanowicz proponuje czytelnikom swoje przekłady opowiadań hrabiny Gabrieli Puzyniny, nazwanej w białorusko-litewskim kraju «autorką w imię Boże», szanowaną za patriotyzm, czułość i szacunek dla bliźniego (s. 59-65).

Numer kończy się publikacją archiwisty Juryja Lauryka «Mińscy dominikanie w 1796 roku» (s. 66-71).

## SOMMARIO

La maggior parte dei materiali del presente numero è dedicata alla memoria del primo Cardinale bielorusso Kasimir Sviontek. Sedici anni fa la sua benedizione ha dato vita alla rivista trimestrale "Naša vera".

All'inizio del numero si pubblica il Rogito del Cardinale Kasimir Sviontek depositato nella sua bara durante la cerimonia funebre tenutasi presso la Basilica dell'Assunzione di Santa Vergine Maria di Pinsk. Lo segue la Gamilia del Metropolita Tadeuš Kondrusevič, pronunciata durante la Santa Messa Funebre. Diverse persone pubblicano i ricordi, le parole di ringraziamento e d'addio per ricordare il Cardinale Kasimir Sviontek tra cui il vescovo della Diocesi di Elk Jerzy Mazur, i sacerdoti Aliaksei Ramančuk e Jury Bykau, il restauratore Arkadz Špunt, il teologo Martin Buschermöle («Renovabis»), il Direttore delle riviste "Naša vera" e "Ave Maria" Krystyna Lialko, il regista Jury Garuliou, il critico letterario Iryna Bagdanovič. Ales Čobat, Danuta Bičel, Julia Šedzko, Aksana Danilchyk hanno dedicato alla memoria del gerarca le loro poesie e traduzioni invece il famoso latinista Ales Žlutka ha tradotto dal polacco il testo "Dal Medioevo, epoca d'oro, ai tempi nostri: San Tommaso e il suo interprete Stefan Swiezawski", dedicando la traduzione al Cardinale Kasimir Sviontek (p. 2-43).

Nella rivista si pubblicano anche i brani del libro "Benedetto XVI. Luce del mondo: il Papa, la Chiesa e i segni dei tempi. Una conversazione con Peter Seewald", tradotti dal tedesco da Iryna Burak (p. 44-47).

Continua la pubblicazione della traduzione dei *Fioretti* di San Francesco eseguita da Aksana Danilchyk e la parte successiva del famoso saggio di Tommaso da Kempis l'*Imitazione di Cristo*, tradotto da Stanislau Grynkevič (p. 48-54).

Nella rubrica *Personalità* è collocato l'articolo del famoso storico della regione di Miadel Ivan Draunizki "Il sacerdote-patriota Luzian Khmeliavez" (p. 55-58).

Il critico letterario Iryna Bagdanovič sottopone all'attenzione dei lettori la sua traduzione dei racconti della contessa Gabriela Pusynia, conosciuta nelle terre bielorusse-lituane come "autrice in nome del Dio" e onorata per il suo patriotismo, sensibilità e attenzione verso il prossimo (p. 59-65).

Il numero si chiude con la pubblicazione dell'articolo "I domenicani di Minsk nel 1796" preparato dal ricercatore-archivista Jury Lauryk (p. 66-71).

---

На 1-й ст. вокладкі — кардынал Казімір Свёнтэк уручае Святому Айцу Яну Паўлу II ружанец з саломкі — падарунак моладзі з Беларусі.

У нумары выкарыстаны фотаздымкі: А. Кляшчука, бр. К. Консака, В. Кучаравага, М. Новікава, А. Шчыглінскай, а таксама з архіваў Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі РКК у РБ і выдавецтва «Pro Christo».


*Часопіс **«НАША ВЕРА»**, № 3 (57)/2011.*
*Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, 220002, г. Мінск-2; тэл./факс: 293-17-50. **E-mail:** media@catholic.by. **Web:** media.catholic.by/nv/*
*Рэдакцыя рукапісаў не рэцэнзуе і не вяртае.*
*Заснавальнік – Мінска-Магілёўская архідыяцэзія РКК у РБ. Вуліца Рэвалюцыйная, 1а, 220030, г. Мінск.*
*Галоўны рэдактар — Крыстына Аляксееўна Лялько. Часопіс выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за № 903.*
*Падпісаны да друку 26.09.2011 г. Фармат 60х84 1/8. Ум. друк. арк. 8,37. Ул. выд. арк. 6,93. Наклад – 1 500 экз. Зак №    .*
*Надрукавана ў друкарні ООО «Юстмаж»ЛП № 02330/0552734 ад 31.12.2009.*
*Вул. Каліноўскага, д 6, Г4/К, пакой 201. 220103 г. Мінск.*



*«Заўсёды з удзячнасцю ў сэрцы...»*
*Каля партрэта сваёй маці.*



Благаслаўленнем арцыпастыра
распачыналася кожная ўрачыстасць у парафіях.